№7 (970) 5 ліпеня 2017 www.nn.by
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
Наша Ніва 16+
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

# «У нас ёсць усё неабходнае, каб даць адпор любому агрэсару»


ДАРЯ БУРЯКИНА, TUT.BY

3 Ліпеня Беларусь адзначыла традыцыйным парадам. Усеагульную весялосць выклікалі гэтым разам не вайскоўцы, а «мірная частка» парада. МТЗ паказаў танец трактароў. «Атлант» правёз халадзільнікі і пральныя машыны, мясакамбінаты — тушонку. А кампанія «Керамін» правезла перад прэзідэнтам умывальнікі і ўнітазы.

Парад 3 Ліпеня прайшоў у Мінску а 10-й гадзіне раніцы. У ім узяло ўдзел больш за 3000 вайскоўцаў і больш за 300 адзінак вайсковай і мірнай тэхнікі.

«Баявы арсенал, якім мы валодаем, сёння будзе паказаны падчас параднага маршу. Кожны зможа пераканацца: у нас ёсць усё неабходнае, каб даць адпор любому агрэсару», — адзначыў у прамове перад парадам Аляксандр Лукашэнка.

Прамаршыравалі вайскоўцы — у тым ліку дэсантнікі з суседняй дзяржавы, — праехала тэхніка.

Які ў мінулыя гады, мы пабачылі гібрыд маскоўскіх парадаў і бээсэсэраўскіх «шэсцяў працоўных» перад трыбунай з кіраўніцтвам.

Трактары МТЗ выканалі балет, а салісты і хор — гімн «Жыве Беларусь» на словы Уладзіміра Някляева, у варыянце дзе слова «жыве» заменена на «слаўся». Маладыя фізкультурнікі зладзілі кароткае гімнастычнае шоу.

Усё гэта было вытрымана ў патэтычным стылі, з прэтэнзіяй на масавасць, хоць і без паўночнакарэйскага фанатызму.

Руская застаецца мовай вайсковага рытуалу: па-руску вітаў парадныя разлікі міністр абароны.

Аляксандр Лукашэнка прысутнічаў у мундзіры галоўнакамандуючага, праваруч яго стаяў генералітэт: Раўкоў, Зась, Вакульчык, Шуневіч, Канюк, Наскевіч ды іншыя; леваруч — цывільнае кіраўніцтва краіны: Кабякоў, Мясніковіч, Андрэйчанка, Качанава, Міклашэвіч, Анфімаў, Сукала, Калаўр, Шорац.

«Разам з братняй Расіяй мы абараняем межы Саюзнай дзяржавы, якую мы ствараем, — адзначыў у сваёй прамове Аляксандр Лукашэнка. — На шлях мілітарызацыі ўступілі краіны Еўропы. Яны ўцягваюцца ў гонку ўзбраенняў і ваенныя прыгатаванні. Злучаныя Штаты Амерыкі разгортваюць тут, ля нашых межаў, сістэму супрацьракетнай абароны і ўдасканальваюць свой ядзерны патэнцыял. Наш адказ — сучасная беларуская армія. Яна ўвесь час мадэрнізуецца, мабільная, навучаная і ўзброена», — сказаў Лукашэнка.

Нагадаем, што 3 ліпеня 1944 года савецкая армія вызваліла Мінск ад нацыстаў. Незалежнасць Беларусі была ўпершыню абвешчана 25 сакавіка 1918 года. 27 ліпеня 1990 года ў працэсе распаду СССР была прынятая Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце. А 25 жніўня 1991 года ёй быў нададзены статус канстытуцыйнага акта.

25 Сакавіка традыцыйна адзначаецца як Дзень Волі, 3 Ліпеня стала дзяржаўным святам з 1996 года пад назвай Дзень Рэспублікі (Дзень Незалежнасці).

**Сяргей Гезгала**

### Ад рэдактара

Людзі, якія мысляць катэгорыямі нацыянальнымі, дзяржаўнымі, — скарб для любой краіны. Да такіх адносіцца і падпалкоўнік, які па ўласнай ініцыятыве стварыў слоўнік «Авіяцыя па-беларуску» **(старонка 3)**.

Увогуле, столькі вартых людзей жыве ў нашым краі ў наш час – выдатных прафесіяналаў і проста захапляльных асобаў. Да такіх належыць і архітэктарка Аляксандра Баярына. Апошнім часам мы паслядоўна збіраем, выграбаем цікавыя «прыватныя дзённікі» з фэйсбука. Андрусь Горват стаў сенсацыяй, Святлана Курс, Алена Германовіч ішлі за ім. А сёння пачытайце Баярыну **(старонка 14)**: тут, поруч з бытавым, з гадаваннем дзяцей, не літаратура, а філасофскае, канцэптуальнае асэнсаванне нацыянальнага быцця.

Штосьці рэмаркаўскае, напятае і рамантычнае, ёсць у новым апавяданні Алеся Кіркевіча **(старонка 20)**. Вельмі моцная рэч – сапраўдная літаратура пра нашу рэчаіснасць.

А самым чытаным матэрыялам нас сайце nn.by за месяц была шакуючая навіна пра заўчасную смерць адзінага сына Лідзіі Ярмошынай **(старонка 4)**. Усе найважнейшыя навіны чэрвеня і іх значэнне вы таксама знойдзеце ў кожным выпуску «Нашай Нівы». Не забудзьцеся ж падпісацца на нашу газету.

### Падзякі

Дзякуем чытачам-фундатарам «Нашай Нівы» Я.Чыгіру, Цімуру, С.Мацкевічу, Кашко, Д.Санковічу, А.Бойку, В.Кіпрыяновічу, Я.Жучкову, В.Салаш, І.Новіку, А.Солтану, 1751, А.Вашкевічу, С.Максімовічу, Сяргею Ш., Аляксандру Т., DK, Алесю з Гародні, Купцэвічам, БЛ і асабліва Садковічу, Аляксею, Аляксею К., Г.Калейніку за грошы, дасланыя праз сістэму АРІП.

### Вечная памяць

У Гародні на 61-м годзе жыцця памёр доктар філалагічных навук, прафесар, літаратуразнаўца Ігар Жук.

### Прыватныя абвесткі

**Віншуем Віктара Жыбуля і Веру Бурлак** з нараджэннем сына. Хай расце вялікі! Сябры

**У сям'і Вадзіма Пракопчыка і Аляксандры Баярынай** нарадзілася другое дзіця, сын Ян Караль. «У гонар Хадкевіча», — патлумачыла маці. Ян Караль Хадкевіч — слынны гетман Вялікага Княства Літоўскага.Віншуем маладых бацькоў! Сябры





Пры канцы чэрвеня на волю выйшлі ўсе затрыманыя па так званай «Справе патрыётаў». Справу супраць іх не закрылі, але вызваленне ўспрымаецца як знак, што яна развалілася. На фота: блізкія сустракаюць каля Валадаркі Віктара Данілава.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# «Бацюшка са свастыкай» прызнаў, што атрымаў пісталеты ад РНЕ

**У Мінску пачаўся суд над грамадзянінам Расіі Канстанцінам Бурыкіным, вядомым як «бацюшка са свастыкай».**

Яму выстаўлена абвінавачанне за незаконнае захоўванне агнястрэльнай зброі, з абцяжваючымі абставінамі. Максімальна магчымая адказнасць па гэтым артыкуле — 10 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. У судзе Бурыкін закрываў свой твар ад рэпарцёраў.

Канстанціна Бурыкіна затрымалі пры канцы лістапада 2016 года, тады ён яшчэ дэ-факта ўзначальваў Федэрацыю паўэрліфтынга Беларусі і быў бацюшкам у праваслаўным прыходзе вёскі Гатава пад Мінскам.

На суд прыйшлі два святары, блізкія і некалькі сяброў Бурыкіна. Але большасць у зале складалі журналісты.

Пракурор, зачытваючы абвінавачванне, расказаў, што Канстанцін Бурыкін за час з 2001 года набыў у невядомых асобаў, пры нявысветленых абставінах, некалькі пісталетаў — рэвальвер наган (калібр 7,62) і браўнінг (7,65).

Некаторыя дэталі былі няспраўныя, але пасля замены пісталет можна было б выкарыстоўваць як зброю.

Таксама пракурор сказаў, што пры вобшуку ў лістападзе 2016-га ў кватэры Бурыкіна знайшлі некалькі патронаў рознага калібру для гладкаствольнай зброі.

Следства выявіла, што Бурыкін насіў зброю з сабой, перасоўваўся разам са зброяй, чым парушыў артыкул 295 КК РБ — другую і трэцюю частку.

Што расказаў Бурыкін пра тыя пісталеты?

«У Рэспубліку Беларусь я прыехаў у 1995 годзе, ажаніўся, маю дазвол на жыхарства, чатырох дзяцей маю. У 1999 годзе быў рукапакладзены ў святара, скіраваны ў Гатава будаваць храм, пасля 17 гадоў праслужыў там. У гэты перыяд, у 2000—2001 годзе, я быў прызначаны духоўнікам у РНЕ [Рускае нацыянальнае адзінства — неанацысцкая арганізацыя, у Беларусі яна пазней была прызнаная экстрэмісцкай], тады арганізацыя не была забаронена, я іх акармляў 3—4 гады, праводзіў духоўныя гутаркі, абрады. На адной з такіх сустрэч мне былі ўручаныя ў падарунак гэтыя пісталеты», — сказаў Бурыкін.

Бурыкін сваю віну прызнаў цалкам.

Суддзя задаў пытанне пра РНЕ, якім чынам Бурыкін звязаўся з гэтай арганізацыяй, ці быў у курсе ідэалогіі, якую вызнае РНЕ.

«Яны звярнуліся ў епархіяльнае ўпраўленне, папрасілі святара, гэта год 2000 прыкладна, — сказаў Бурыкін. — Мне супрацоўнікі епархіі сказалі, што могуць пазваніць людзі: «Хочуць сустрэцца, пагаварыце з імі, дапамажыце, гутарку духоўную правядзіце, пасля справаздачу дасцё. Недзе 4—5 сустрэч было за час работы з імі, я здаваў справаздачу мітрапаліту Філарэту. Са мной ад РНЕ кантактаваў Андрэй Саковіч».

Перайшлі да сведкаў — панятымі былі дзве студэнткі юрыдычнага каледжа.

Маладая дзяўчына сказала, што бачыла ў кватэры «фашысцкую сімволіку».

Варта адзначыць, што ў бацюшкі дома была люстра ў форме нацысцкай свастыкі.

Вынік суда стане вядомы пасля выхаду гэтага нумара.

**Арцём Гарбацэвіч**

## Неадэквату, які паказваў танкам геніталіі, пагражае да 3 гадоў зняволення

Інцыдэнт адбыўся падчас праведзення рэпетыцыі парада ў Мінску.

Калі бранятэхніка праязджала па вуліцы Арлоўскай, насустрач выйшаў невядомы мужчына. Ён приспусціў штаны ды майткі і пачаў круціць геніталіямі.

Неўзабаве да мужчыны наблізіўся інспектар ДАІ. Тады мужчына ўдарыў яго па твары і ўцёк.

«Сваімі дзеяннямі мужчына груба парушыў грамадскі парадак і выказаў відавочную непавагу да грамадства.

Супрацьпраўныя дзеянні былі прыпыненыя супрацоўнікам сталічнай дзяржаўтаінспекцыі. У цяперашні час у дачыненні да грамадзяніна распачата крымінальная справа па ч.1 арт.339 («Хуліганства») Крымінальнага кодэкса. Санкцыя названай часткі артыкула прадугледжвае адказнасць у выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да трох гадоў. Ён затрыманы», — паведаміла сталічная міліцыя.

### Сціслa

**Статкевіч ізноў вывеў людзей на праспект**

У цэнтры Мінска прайшла акцыя пратэсту, на якую склікаў Мікола Статкевіч. На Кастрычніцкай плошчы сабраліся каля 200 чалавек, якія шэсцем прайшлі да плошчы Незалежнасці. Яны патрабавалі адмены вучэнняў «Захад-2017». Ніякіх затрыманняў пры гэтым не было.

**Фядута стаў доктарам навук**

Навуковую ступень ён атрымаў у Ягелонскім універсітэце ў Польшчы. Фядута — пушкініст,і ягоная доктарская манаграфія была прысвечана пушкінскай эпосе.

**Цэны на нерухомасць на дзесяцігадовым мінімуме**

Паводле дадзеных Realt.by, сярэдняя цана прапановы на другасным рынку жылой нерухомасці ў Мінску апусцілася да $1137. Папярэдні раз такі ўзровень фіксаваўся тры тыдні таму, а да таго — у 2006 годзе.

**Расійскі нацыяналіст уцякаў праз Беларусь ва Украіну**

Вячаслаў Мальцаў — расійскі апазіцыянер нацыяналістычных поглядаў. Ён заклікаў да імпічмента Пуціну. У Расіі яму пагражае затрыманне, але ён паспеў уцячы. Ён накіраваўся ў Беларусь, каб транзітам праехаць праз Украіну ў Малдову. Аднак ва Украіну яго не прапусцілі, патлумачыўшы, што Мальцаў удзельнічаў у баявых дзеяннях на тэрыторыі «ДНР». Сам ён гэта адмаўляе. Месца яго знаходжання пакуль невядомае.

БЮ

### Апытанне на nn.by

**Вы за свабоднае валоданне зброяй?**

| | | |
|---|---|---|
| За | 1069 | 50% |
| Супраць | 826 | 39% |
| Выключна для людзей, якім нешта асабліва пагражае, з дазволу сілавых структур | 223 | 11% |

Усяго прагаласавала 2118 чалавек.

### Самае чытанае на nn.by за чэрвень

1 Памёр сын Лідзіі Ярмошынай

2 Святлана Алексіевіч размазала журналіста «Рэгнума» ў вельмі жорсткім інтэрв'ю

3 Дактары крычалі: «У вас народзіцца дэбілка!» Сям'я баптыстаў двойчы адмаўлялася ад абортаў і гадуе здаровых дзяцей

4 «Хачу аддаць унукаў у беларускамоўную школу»: дэпутат з КДБ склаў топ-6 пагроз нацыянальнай бяспецы

5 Фантастычна прыгожае вяселле сапраўдных беларусаў ФОТЫ

6 Справа аб суіцыдзе баранавіцкага школьніка аднаўлена: знайшліся фота здзекаў з яго

7 На «Бургер Кінг» склалі пратакол за адказ не па-беларуску. Без Случака не абышлося

8 Святлана Алексіевіч: «Дайце ў Беларусь танкі, зброю — і там каталікі пачнуць забіваць праваслаўных»

9 Затрыманы ўласнік найбуйнейшай службы таксі «Алмаз 7788» Віктар Пузікаў

10 Украіна вырвалася з заганнага кола саўка? Пяць паспехаў, якім Беларусь можа пазайздросціць

# Кіраўнік шклоўскага саўгаса «Гарадзец» стаў губернатарам Міншчыны

Пяць фактаў пра Анатоля Ісачэнку.

Аляксандр Лукашэнка 4 ліпеня зрабіў важнае кадравае прызначэнне. Старшынёй Мінскага аблвыканкама стаў Анатоль Ісачэнка, хоць некаторыя выданні актыўна сваталі на гэтую пасаду дырэктара МТЗ Фёдара Дамаценку. Хто ж такі гэты Анатоль Ісачэнка, пра якога так мала інфармацыі?



### Нарадзіўся ў Расіі

Анатолю Ісачэнку 51 год. Ён нарадзіўся ў вёсцы Кузнец Клінцоўскага раёна Бранскай вобласці. Гэта зусім маленечкая вёска на беразе ракі Кузнечык. Школы сваёй у Кузняцы не было, Анатоль хадзіў вучыцца ў іншую вёску.

Калі прыйшоў час паступаць, то Ісачэнка падаўся вучыцца ў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію. Для Клінцоў — гэта не далёкі свет, усяго 250 кіламетраў. Да таго ж Бранска — 180 км. Таму гэта не быў свядомы выбар на карысць Беларусі, а адна з самых блізкіх навучальных установаў ад месца нараджэння.

### Папрацаваў у Горацкім раёне

Па размеркаванні хлопца адпраўляюць працаваць інжынерам у калгас «Савецкая Беларусь» Горацкага раёна. І так лёс Ісачэнкі больш чым на 10 гадоў пераплёўся акурат з Горацкім раёнам. Ён папрацаваў галоўным інжынерам, а таксама намеснікам старшыні калгаса ў многіх гаспадарках раёна.

«Хлеб на стале — мір на зямлі. Гэтая мудрая ісціна спрадвеку служыла вяскоўцам і ўсім, хто мае дачыненне да хлеба надзённага, запаветным арыенцірам у справах жыццёвых. Ужо потым з'явіўся крылаты выраз: «Будзе хлеб — будзе і песня». Хоць, па сутнасці, гэта тое ж самае. Ёсць хлеб — значыць, заўсёды будзе пад мірным небам свята ў доме», — казаў у адным з інтэрв'ю Анатоль Ісачэнка.

### Узначальваў калгас Лукашэнкі

У 2000 годзе Анатоля Ісачэнку прызначаюць дырэктарам калгаса «Гарадзец» Шклоўскага раёна. Таго самага, адкуль на прэзідэнцтва прыйшоў Аляксандр Лукашэнка. Вядома, што абы-каго ў родныя мясціны Лукашэнка прызначаць не будзе, тым болей у першыя гады кіраўніцтва.

Выглядае, што працай Ісачэнкі ў «Гарадцы» былі задаволеныя, ужо праз два гады яго забралі першым намеснікам старшыні Шклоўскага райвыканкама.

Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў, лёс якога быў цесна звязаны са Шклоўскім раёнам — сельскай гаспадаркай і ЖКГ, — кажа, што неадназова сутыкаўся з Ісачэнкам падчас працы. «Ведаеце, вельмі цяжка пра яго нешта сфармуляваць. Можна смела сказаць, што ён не выкаблучваўся. Проста працаваў і ўсё», — кажа Кастусёў.

### Кар'ера ў Магілёве

Пасля Шклова Анатоля Ісачэнку на нейкі тэрмін яшчэ прызначылі пакіраваць Кіраўскім райвыканкамам. А ў 2008-м адбыўся першы сапраўды істотны ўзлёт Ісачэнкі ў кар'ернай іерархіі. Яго прызначаюць намеснікам старшыні Магілёўскага аблвыканкама па сельскай гаспадарцы. Цікава, што Ісачэнку яшчэ прадстаўляў Барыс Батура, якога ў той самы год перавядуць у Савет Рэспублікі, а потым прызначаць губернатарам Міншчыны.

«Не ўсё атрымлівалася, але мы не апускалі рукі, а ўвесь час шукалі новыя падыходы да вырашэння праблем: імкнуліся паменшыць выдаткі вытворчасці, рацыянальна выкарыстоўваць бюджэтныя сродкі, умацоўваць дысцыпліну. І гэтыя меры прынеслі вынікі. Ужо на працягу шэрагу гадоў Прыдняпроўскі край намалочвае больш за мільён тон збожжавых культур», — казаў Ісачэнка.

На гэтай пасадзе Ісачэнка адпрацаваў да 2014 года, пасля чаго стаў старшынёй Магілёўскага савета дэпутатаў.

### Нядоўгая праца на Міншчыне

У снежні 2016 года Ісачэнку, які ўсё жыццё быў звязаны з Магілёўшчынай, дастаткова нечакана перакідваюць у Мінскую вобласць. Ён становіцца памочнікам прэзідэнта па гэтым рэгіёне.

«Ваша задача — бачыць усё, што адбываецца ў рэгіёне. І вы актыўна павінны ўмешвацца ў працу кадраў. Не наўпрост. Праз губернатара — падказваць, дапамагаць, ні ў якім разе не падмяняючы яго. Так, вы павінны працаваць на пазітыў, у адной звязцы з губернатарам», — так наказваў Ісачэнку Лукашэнка.

Сам жа Ісачэнка прызнаваўся, што адчувае хваляванне ад новай пасады. З Шапірам ён быў знаёмы яшчэ ў час працы таго міністрам сельскай гаспадаркі, а Ісачэнка курыраваў сельскую гаспадарку ў Магілёўскай вобласці.

Такім чынам, Анатоль Ісачэнка адпрацаваў у Мінскай вобласці ўсяго сем месяцаў перад тым, як стаць губернатарам.

**Зміцер Панкавец**

# Выйшаў авіяцыйны слоўнік па-беларуску, аўтар — дзейны падпалкоўнік

У рэдакцыю «Нашай Нівы» трапіў асобнік кнігі «Авіяцыя па-беларуску. Слоўнік».

Гэта работа падпалкоўніка баявой авіяцыі Мікалая Кавалёва, якія цягам амаль двух гадоў перакладаў лётныя тэрміны з рускай і англійскай моваў на беларускую.

«У маёй сферы няма кадыфікаванай прафесійнай лексікі, — патлумачыў «Нашай Ніве» аўтар. — Апошні слоўнік выйшаў у 1999 годзе, і той — агульнавайсковы. Па авіяцыі такога не было. Падчас дзяжурстваў калегі казалі мне, што калі ты так хочаш беларускую мову, то зрабі інструкцыю па палётах. Так думка і нарадзілася. Нашая мова таксама мусіць прайсці шлях, які прайшлі іншыя. Таму казаць, што ў нас лексікі няма, — гэта няслушна. Проста ніхто не займаўся яе ўнармаваннем».










СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У прадмове да сваёй кнігі Кавалёў таксама выказаў спадзеў, што гэты слоўнік стане базай для глыбейшых даследаванняў па гэтай і іншых тэмах.

«Прачытанне кнігі-слоўніка дасць чытачу адказы на многія пытанні беларускай авіяцыйнай тэрміналогіі, пацвердзіць аргумент здольнасці роднай мовы абслугоўваць самыя складаныя сферы нашага грамадства і самае галоўнае — падштурхне быць стваральнікам-творцам новых пластоў беларушчыны ў будзь-якой сферы», — напісаў Кавалёў.

Сам слоўнік дае грунтоўныя тлумачэнні выбару таго ці іншага слова, якім палкоўнік прапануе замяніць аналагічны руска- ці англамоўны тэрмін.

Мы не будзем прыводзіць вам 250 старонак прафесійнай лексікі, працытуем толькі некаторыя цікавыя развагі Кавалёва.

Так, тэрміну «аэродромное лётное поле» авіятар бачыць замену ў беларускім слове «лётнішча».

Выбар ён тлумачыць так: «Згодна з традыцыйным словаўтварэннем, у нашай мове мы павінны называць тое месца (па аналогіі з бульбішчам, грэчышчам), адкуль узлятаюць-сядаюць самалёты і адбываецца іншая авіяцыйная дзейнасць, лётнішчам», — піша аўтар і дадае, што слова аэрадром і аэрапорт варта пакінуць: калі ёсць інфраструктура — то гэта ўжо аэрадром, калі ёсць аэравакзал — гэта аэрапорт. Скажам, у дакументацыйнай фразе «памеры лётнага поля складалі 1000х150 м» карэктна будзе пісаць усё ж «памеры лётнішча».

«Бедствие» ён прапануе замяніць словам «ліха».

«Беларуская прымаўка кажа: «Сядзі ціха — не будзеш ведаць ліха», а пра досвед чалавека гаворыць фразеалагізм «зведаць фунт ліха». [...] Для лётчыка ўключэнне тумблера «ліха» і перадача ў эфір — «на борце ліха» з'яўляецца першасным пунктам пры ўзнікненні асаблівых выпадкаў у палёце. Адначасна, што англійскае SOS з'яўляецца не менш экспрэсіўным і азначае «Ратуйце нашыя душы». Такім чынам, адпаведнікам для «терплю бедствие» будзе «на борце ліха». [...]

«Боевому слаживанию» Кавалёў бачыць адпаведнік у «баявым шыхаванні», «боевому порядку» — у «баявым шыху».

А так ён піша пра «бреющий полёт»:

«Афіцыйны жарганізм паходзіць ад расійскага «брить деревья». Існуе як адмысловы (спецыяльны) тэрмін. Калі даць волю фантазіі, мы можам сказаць «скрэбсці дрэвы», які ў прыметнікавай форме прыме выгляд — скрэбены. Факты выкарыстання тэрміна маюцца ў беларускамоўных авіяцыйных дакументах: «да цэлі атакі ША ляцiць «брыючым палётам» [...]. На думку аўтара, «прыземны палёт» таксама можа выступаць як сінонім «скрэбенаму» палёту ў афіцыйнай літаратуры.

Прапануем таксама падборку цікавых варыянтаў перакладаў спецыяльнай лексікі:

Внешний осмотр — знадворны агляд.
Airway — паветраная траса (гасцінец).
Вышедший из строя — звздзены з ладу.
Горизонт — гарызонт, «естественный горизонт» — прыродны небасхіл, «искусственный горизонт» — штучны небасхіл.
«Господство в воздухе» — панаванне ў паветры.
«Range» — далёкасць, адлегласць, радыус (залежна ад кантэксту).
«Запирающий механизм» — замыкальны механізм.
«Звено» — звяно (як тактычная авіяцыйная адзінка), злучво (як тэхнічны тэрмін).
«Избыток тяги» — лішак цягі.
«Система тяг и качалок» — сістэма цяг і арэляў.
«Козырёк фонаря» — брылёк ліхтара (шкляна).
«Кромка крыла» — абза крыла.
«Крутящий момент и вращающийся винт» — круцільны момант і абаротны вінт.
«Пересечение границы» — пераціпанне мяжы. Аўтар тут абгрунтоўвае, што ў лётным разуменні граніцу нельга перасекчы, бо яна не лінія, а плоскасць.
«Самолёт» — самалёт і лятак для «воздушного судна».
«Хлопок (аэродинамический)» — воплеск.
«Электрожгут» — электравітка.
«Обочина аэродромных покрытий» — бакавіна аэрадромнага покрыва.

І гэдак далей. Наклад слоўніка — 27 асобнікаў, якія аўтар хоча перадаць у Нацыянальную бібліятэку, навучальныя ўстановы ды іншым спецыялістам.

**Арцём Гарбацэвіч**

# У Лідзіі Ярмошынай памёр 40-гадовы сын і загінуў пляменнік

На 40-м годзе жыцця памёр адвакат Аляксей Ярмошын, адзіны сын старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай.

Ён меўся сустракаць кліента, але тэлефон адваката не адказваў.

Апошнім часам ён працаваў у Мінскай абласной спецыялізаванай юрыдычнай кансультацыі №2. А раней стаяў па іншы бок барыкадаў — фігураваў як намеснік пракурора Фрунзенскага раёна Мінска.

Сям'і і дзяцей у Аляксея не было. Бацька адваката, Дзмітрый Ярмошын, жыве ў Калінінградзе. Адносіны з сынам ён амаль не падтрымліваў.

Некалькі гадоў таму памерла маці старшыні ЦВК. Лізавета Гаркавенка была доўгажыхаркай, пражыла больш за 95 гадоў.

На пахаванне Аляксея Ярмошына прыехалі высокія дзяржаўныя чыны, у тым ліку кіраўнікі парламента і міністры.





Так супала, што за некалькі дзён да смерці Аляксея Ярмошына, 4 чэрвеня, на трасе М1 перакуліўся джып Toyota Land Cruiser. У выніку аварыі загінуў пасажыр машыны. Як высвілася, гэта быў пляменнік старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай.

Бабруйскі бізнэсмен і хакеіст Вадзім Капусцін у той дзень удзельнічаў у гонках на ўседарожніках. Рэйд «Партызанскія сцежкі — 2017» праходзіў у Мастах Гродзенскай вобласці.

Па дарозе назад за стырно села яго знаёмая. У раёне Мінска яна не дала рады кіраванню — і аўтамабіль вылецеў з трасы. Капусцін, які сядзеў на заднім пасажырскім крэсле, не быў прышпілены. Яго выкінула праз верхні люк машыны — і ад атрыманых траўм ён памёр на месцы.

# «Астанавіце, Віце нада выйці!» — што кажуць таксісты пра затрыманне дырэктара «Алмаза»

13 чэрвеня Камітэт дзяржкантролю затрымаў 34-гадовага бізнэсоўца Віктара Пузікава — уласніка найбуйнейшай сталічнай службы таксі «Алмаз 7788». Яго падазраюць у няспаце падаткаў у асабліва буйным памеры.

«Наша Ніва» вырашыла пацікавіцца ў кіроўцаў таксі, што яны думаюць пра затрыманне транспартнага магната.

«Я 2,5 года працую на «Алмаз», але з Віктарам не знаёмы. Ну бачыў на офісе пару разоў, вось і ўсё. А хто ў нас цяпер начальнік, я і не ведаю», — распавёў кіроўца таксі Ігар.

Сістэма па замове машынаў працуе. Але самі кіроўцы адзначаюць, што на вуліцах памянела алмазаўскіх машын маркі «Джылі». Не дзіўна — КДК наклаў арышт на 93 машыны.

«Вось і добра», — пасміхаецца алмазаўскі кіроўца «Нісана». Праўда, чаму радуецца — не тлумачыць.

Пра Пузікава і ўвогуле пра службу «Алмаз 7788», насамрэч, кажуць розныя рэчы.

Хтосьці і па сёння адгукаецца негатыўна.

«Я калісьці там працаваў. Калі ездзіш не на сваёй машыне, то сплачваеш за карыстанне аўто плюс за паслугі дыспетчара. Дыспетчару плаціш 1,20 руб. за кожны выклік. За машыну — па-рознаму. Хтосьці плаціць 250 рублёў за тыдзень, хтосьці 300, хтосьці — 40 рублёў штодня, — расказаў былы кіроўца «Алмаза». — Дык на «7788» было такое, што ты на бальнічным тыдзень правёў, а за машыну павінен заплаціць. Не зарабіў? Твае праблемы».



Але для кагосьці Пузікаў — не кіраўнік, а золата.

«Я дрэннага пра яго сказаць нічога не магу. У цяжкі час ён гатовы дапамагчы любому кіроўцу. Я ўпэўнены, што нават калі Віктар не знаёмы асабіста з кіроўцам, то, калі чалавеку патрэбная дапамога, ніколі не адмовіць, — расказвае Максім. Ён і па сёння кіроўца «Алмаза». — Калі трэба плаціць за машыну, але няма грошай, з Віктарам можна заўсёды дамовіцца, аддаць пазней. У яго няма такога: «Ты кіроўца, а я заснавальнік фірмы, я цябе не буду слухаць». Да яго можна прыйсці пагаварыць, штосьці прапанаваць. Ён заўсёды ідзе насустрач, прыслухоўваецца».

Што тычыцца затрымання, то Максім упэўнены, што Віктар за кратамі ненадоўга: кажа, «патрымаюць, грошай здымуць і адпусцяць. Як Чыжа».

«Усе мы не без граху. У Беларусі перад падатковай, перад дзяржавай кожны грэшны на свой лад. Не можам мы быць чыстымі як вада, — кажа Максім. — Я лічу, трэба яму даць штраф, але не пазбаўляць волі. Ён жа нікога не забіў».

Кіроўца цалкам задаволены сваім жыццём:

«Увогуле, «Алмаз» самае нармальнае таксі. І калі ў нас няма працы, то, значыць, яе няма нідзе. Я ўдзячны Віцю за тое, што ў нас самая нармальная рэклама, самая моцная. Усе людзі ведаюць 7788».

Затое кіроўцы іншых службаў, здаецца, ад гісторыі з Пузікавым атрымліваюць выключна асалоду.

Калі пытаешся ў кіроўцаў, ці не працуюць яны на «Алмаз», некаторыя адказваюць так:

«Не, я законапаслухмяны таксіст. А «Алмаз» закрыўся ж ужо. Вы што, не чулі? А машыны ездзяць — тое часова».

«Астанавіце, астанавіце! Віце нада выйці!... — спявае іншы кіроўца і смяецца. — Чулі такую песню?»

Таксісты тлумачаць: «Алмаз» яны не любяць, бо той збіваў цэны, «дэмпінгаваў, не даваў нармальна працаваць іншым».

«На якую суму там у Віці маёмасці арыштавалі? На два мільёны даляраў? Штосьці малавата», — куражацца таксісты службы-канкурэнта.

Кіроўцы іншых службаў упэўненыя: Пузікава затрымалі па справе. І грошай з яго павінны «зняць» больш. Пра яго багацце яны ці то пераказваюць чуткі, ці то проста весяляцца:

«Віця ж нядаўна востраў набыў. Недзе пад Шры-Ланкой, вы што, не чулі? Але на бабулю запісаў, напэўна. Ён жа не дурань».

**Уладзь Швядовіч**

# Дэпутат Атрошчанка: «Хачу аддаць унукаў у беларускамоўную школу»

Пятро Атрошчанка — экс-намеснік старшыні КДБ па Мінску і Мінскай вобласці. Падчас службы займаўся барацьбой з карупцыяй і эканамічнымі злачынствамі. Цяпер ён сябра камісіі па нацыянальнай бяспецы ў Палаце прадстаўнікоў.

Зрэшты, пра сваю работу Пятро рэдка кажа ў мінулым часе — падкрэслівае, што належыць да спецслужбістаў.

«Наша Ніва» папрасіла Атрошчанку паразважаць на тэму галоўных выклікаў нацыянальнай бяспецы: пра што мы сёння павінны клапаціцца?

Прапануем вам топ пагрозаў бяспецы па версіі палкоўніка.



## 1. Тэрарызм

«Як супрацоўніка праваахоўных органаў, мяне больш за ўсё хвалююць праблемы тэрарызму. Чаму? Тое, што адбываецца, прымушае задумацца. Асобныя еўрапейскія краіны заяўляюць нават пра магчымасць змены заканадаўства для папярэджання выклікаў. Бо што такое тры тэракты цягам кароткага часу толькі ў Брытаніі? Мы таксама прынялі новую рэдакцыю закона аб барацьбе з тэрарызмам. У нечым гаворка ідзе пра абмежаванне правоў чалавека, але гэта вымушана. Людзей праблема тэрарызму вельмі хвалюе і ў нашай краіне, гэта страшна, яго цяжка прадказаць. Таму я стаўлю гэта на першае месца.

## 2. Эканоміка

Калі я пачынаў нараду ў аддзеле эканамічнай бяспекі, я казаў заўсёды: «Хлопцы, не будзе эканомікі — не будзе нічога». Сюды адносім і зніжэнне вытворчасці, рост цэнаў, зніжэнне інвестыцыйнай актыўнасці. Малы аб'ём інвестыцый — гэта нават асобным пунктам можна выносіць. Усё гэта вядзе да пагаршэння ўзроўню жыцця, сацыяльнай напружанасці. Карупцыя? Я б не выдзяляў асобна гэты пункт. У нас карупцыя местачковая, маленькая. Свавяцтва? Можа быць, для гэтага і праводзіцца аптымізацыя, каб выявіць эфектыўнасць работнікаў.

## 3. Ізаляцыя

Ізаляцыю дзяржавы аднясём да палітычных пагрозаў. Тут мноства фактараў уплывае на сутнасць, пашыранасць ізаляцыі, яе вынікі. Але што гэта пагроза — адназначна.

## 4. Інфармацыйная пагроза

Інфармацыйная пагроза — вельмі істотны момант. Сёння такія маштабы абмену інфармацыяй, што цэлую дзяржаву можна змяшаць з брудам, кампраметаваць, абвінаваціць. Любы ўкід можа быць успрыняты як праўда. Але я супраць замоўчвання негатыўных момантаў, бо куды мы прыйдзем тады? Раскажу такую гісторыю з жыцця: у 1986 годзе я быў старшым лейтэнантам, служыў ва Узброеных сілах. Быў на сутачным дзяжурстве з 30 красавіка па 1 мая. І вось, іду дадому, і мне па вялікім-вялікім сакрэце кажуць, што адбылося нешта страшнае — узарвалася АЭС! Праз пяць дзён! Гэта жахліва. Што да ўплыву замежных СМІ на беларускую аўдыторыю, то я скажу так: я сябра парламенцкага сходу саюза Беларусі і Расіі, мы ўжо некалькі разоў сустракаліся з калегамі і казалі ім пра ціск на Беларусь з расійскіх каналаў, нават калі гэта ўсё яшчэ толькі пачыналася — я пра гісторыю з Данквертам. І самае галоўнае, што яны [рускія] пра ўсё гэта ведаюць. І высновы з тых размоў я зрабіў не як дэпутат, а як супрацоўнік сілавых структур. Але тут зноў выплывае на першае месца эканамічная сфера: калі станем мы багацейшыя, то стане ўсё мацнейшым — і нашае тэлебачанне ў тым ліку, будзем і мы камусьці дыктаваць тады свае ўмовы, можа быць.

## 5. Эміграцыя розуму

Хай мяне тройчы пераконваюць, што мы былі лепшыя за сучасную моладзь, гэта не так — яны разумнейшыя. Беларуская моладзь вельмі таленавітая. У любой сферы можна знайсці чалавека, які шматкроць кампетэнтнейшы за тых, хто 30 гадоў таму быў у гэтым узросце. Прыклад з маёй сферы: некалі тыя хлопцы, якія хацелі стаць сілавікамі [гаворка пра Інстытут дзяржаўнай бяспекі], прыходзілі да мяне на суразмоўе. Так, бліталі Лермантава з Булгакавым, але па вузкіх пытаннях былі вельмі кампетэнтныя. І так у любой сферы — праграмісты, даследчыкі і гэтак далей. Вялікая колькасць таленавітай моладзі з'язджае. І вось гэта — пагроза. Тут нават не дэмаграфія — спецыялісты кажуць, што пасля 2020 года ў нас будзе ўздым — я канкрэтна пра мазгі, якія краіна страчвае. Тыя мазгі можна затрымаць толькі прызнаннем, гэта першае. Грошы — другі, але таксама істотны момант. Я ўсё ж лічу прызнанне і запатрабаванасць важнейшымі.

## 6. Падзенне патрыятызму

Чаму моладзь не хоча ў войска? Задаваўся гэтым пытаннем неаднаразова. Чаму мы дасягнулі таго, чаго дасягнулі? Чаму ідзеш па вуліцы, а табе насустрач дзеўкі з півам? Чаму заходзіш у трамвай, а там два хлопцы ганарацца, што яны за праезд не заплацілі? Вы каго абулі тым самым, дзяржаву? Дык вы сябе абулі! Гэта што, да нас званку прыйшло — ад амерыканцаў, «гадаў», ці ад немцаў? Ды не, гэта мы самі недапрацавалі! Гляньце на нашых футбалістаў падчас гімна, на Глебаў хвалёных... а пасля прыйшоў Крывушэнка, набраў моладзь — дык яны абняліся перад гульнёй, гімн праспявалі, біліся за Радзіму і перамаглі балгараў, якія ў сетцы вышэй. Таму... недастаткова працуем у гэтым кірунку, мне здаецца. Вы правільна кажаце, што нам ёсць чым ганарыцца — сорамна не ведаць пра першую Канстытуцыю ў Еўропе, ці пра Скарыну, ці пра Барыса Кіта. Я вам так скажу, я асабіста ўжо гаварыў з дачкой, каб аддаць унукаў у беларускую школу. Мы з імі спрабуем гаварыць па-беларуску, каб яны разумелі мову, хаця ім толькі па тры гады з паловай. Але нельга, я думаю, браць меч і рубіць — скажам, ставіць задачу, каб да 2050 года ўсе загаварылі па-беларуску. Гэта не самае галоўнае, але і тое, што я ўвесь час не размаўляю па-беларуску, не замінае мне ведаць гісторыю сваёй краіны. Ад патрыятызму насамрэч шмат чаго ідзе. Тыя ідэалы патрэбны, каб паважаць зямлю, сваю дзяржаву. Заробкі ў канверце і ўхіленне ад падаткаў — гэта ж таксама ад недахопу патрыятызму ў нейкім плане.

А ці можна быць патрыётам пад бела-чырвона-белым сцягам? Ведаеце, сімволіка — таксама не самы галоўны крытэр незалежнасці. Але мне выбаршчыкі часта задавалі пытанне: як я стаўлюся да сцяга, гімна, «Пагоні»? Я думаў пра гэта і пераканаць, што, калі будзе такая патрэба, — трэба правесці рэферэндум. Паверце, і ў мяне знаёмых, якія трымаюцца гэтых сімвалаў, шмат. Але меркаванні ўсё ж разыходзяцца. Вы мусіце разумець, што шмат людзей дагэтуль жывуць у Савецкім Саюзе. Ім важныя хаця б частковыя згадкі іх мінулага жыцця, калі быў камунізм, калі мы ўсе жылі ў сваім закрытым куце і ні пра што не ведалі. Я думаю, што калі б такі рэферэндум адбыўся сёння — то яшчэ б перамагла постсавецкая сімволіка. Але едзе машына з БЧБ-налепкай — хай едзе. А то памятаю, паказалі брамніка «Крумкачоў», а ў яго на пальчатках БЧБ-палоскі. Ну і што? Навошта кагосьці правакаваць і засяроджваць на гэтым увагу? Ну, і ў мяне майка з такімі колерамі таксама ёсць, а на рабочым стале вось стаіць дзяржаўны чырвона-зялёны сцяг. Ці маглі б суіснаваць два сцягі? Я думаю, што так, абсалютна. А ўвогуле, я патрыётамі захапляюся. Вось нядаўна сустрэў дырэктара аднаго сельскага клуба, мы праходзілі праз парк. Ён паказвае возера закінутае, кажа, што дамовіўся з мінскім камерсантам, ён тут пляж зробіць, будуць дзеткі тут плаваць. А ён сам з Балтыі, здаровы такі хлопец фізічна. Ну а я кажу: гэта ж трэба, вось ты не беларус, а так пра тутэйшыя месцы дбаеш. А ён адказвае: маўляў, вы, канечне, прабачце, але калі мне хто скажа, што я не беларус, я таму морду наб'ю. Вось так! А то некаторыя сапраўдныя беларусы толькі і чакаюць, пакуль у суседа карова скане. Таму падзенне патрыятызму я ацэньваю як пагрозу.

Напрыканцы гутаркі наш суразмоўца таксама адзначыў, што ваенныя пагрозы Беларусі ён ставіць на самае апошняе месца з усіх магчымых.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Макей: Без мовы не можа быць краіны

Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей сказаў гэта ў інтэрв'ю Радыё «Свабода» падчас урачыстасцяў у Празе, прысвечаных 500-м угодкам выдання скарынаўскай Біблії.

«Усё залежыць ад самога чалавека. Калі ты беларус, калі разумееш, што без мовы не можа быць краіны — будзе і мова жыць, і краіна развівацца. Але нічога не павінна рабіцца штучна, а павінна ісці ад душы, ад сэрца. МЗС спрабуе зрабіць свой унёсак у развіццё беларускай мовы. Напрыклад, нядаўна мы ў Мадрыдзе правялі выдатнае мерапрыемства: іспанская дзяўчына пераклала на іспанскую мову Максіма Багдановіча, выдатна гаворыць па-беларуску — гэта прыклад для многіх беларусаў, якія саромеюцца, магчыма, размаўляць па-беларуску. Трэба больш размаўляць на беларускай мове. Мы спрабуем гэта рабіць у нашым міністэрстве і заахвочваць людзей. Але ўсё павінна ісці ад душы, ад сэрца».

У Празе праходзіў міжнародны сімпозіум «Францішак Скарына і Прага», арганізаваны Нацыянальнай бібліятэкай Чэхіі, Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і амбасадай Беларусі ў Празе. Кветкі да памятнай дошкі Францішку Скарыну разам з удзельнікамі сімпозіуму ўсклаў міністар замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей. Ён падараваў Нацыянальнай бібліятэцы Чэхіі і мастацкаму музею факсімільнае выданне скарынаўскай Біблії.

**svaboda.org**

# Міністэрства абароны патлумачыла, чаму танк урэзаўся ў слуп

Галоўнай прычынай называюць дарожныя ўмовы.

Нагадаем, вечарам 24 чэрвеня ў Мінску прайшла рэпетыцыя парада 3 Ліпеня. Падчас праезду па праспекце Незалежнасці адзін з танкаў каля метро «Маскоўская» ўрэзаўся ў слуп.

Чалавек на вуліцы выпадкова зняў момант аварыі. Танк занесла, развярнула і ўдарыла ў ліхтарню. Танкіст, што сядзеў у люку, можна сказаць, нарадзіўся ў кашулі.

Як паведамілі «Нашай Ніве» у прэс-службе Міністэрства абароны РБ, галоўнай прычынай аварыі падчас рэпетыцыі парада сталі складаныя ўмовы надвор'я, а канкрэтна — слізкая дарога пасля залевы.



«Ужо прынятыя ўсе магчымыя меры, каб такое больш не паўтаралася: праведзены дадатковыя інструктажы і спецыяльныя заняткі адказных людзей. Праверка па справе яшчэ ідзе, згодна з яе вынікам будуць прынятыя адпаведныя рашэнні і меры. Адно цяпер можна сказаць дакладна: тэхніка была спраўная», — пракаментаваў прэс-сакратар галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Міністэрства абароны, палкоўнік Уладзімір Макараў.

Варта адзначыць, што танк на мокрым асфальце можа настолькі ж заносіць, як аўтамабіль на лёдзе. Танк, які трапіў у аварыю, рухаўся з вялікай хуткасцю.

**КК**

# Лідскі бровар выпусціў піва «Менскае 1918»

Бровар «Лідскае піва» 22 чэрвеня прэзентаваў новы гатунак — «Менскае 1918». Ён прымеркаваны да 100-х угодкаў 25 сакавіка 1918 года.

На этыкетцы гатунку размешчаныя бел-чырвона-белыя абрысы Беларускай Народнай Рэспублікі. Этыкетка выкананая ў стылістыцы старажытнага вітража.

«Новы прадукт прымеркаваны да даты, калі Мінск упершыню стаў сталіцай незалежнай дзяржавы», — гаворыцца ў прэс-рэлізе.

Піва выробленае ў стылі «еўрапейскі лагер». Мае 4,7% мацунку. У крамах пачаў прадавацца ад 24 чэрвеня. Рэкамендаваная цана — 1,61 рублі за шкляную бутэльку і 3,82 рублі за ПЭТ.

Прэзентацыя новага гатунку адбылася ў кавярні «Грай». Мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі прачытаў лекцыю пра памятныя мясціны БНР у Мінску.

Гэта ўжо не першыя «гістарычныя» гатункі піва ад «Лідскага». Сёлета ў лінейцы з'явіліся лагеры «Менскае 1067» і «Менскае 1499», першы прысвечаны заснаванню Мінска, а другі — наданню гораду Магдэбургскага права.

**Зміцер Панкавец,**
**фоты Сяргея Гудзіліна**









## Пасажыр паскардзіўся, што ў кабіне аўтобуса вісяць «голыя бабы». А кіроўца адвёз яго ў міліцыю

Краязнаўца, журналіст і каталіцкі вернік Кастусь Шыталь ехаў дадому ў Параф'янава на рэйсавым аўтобусе Докшыцы —Гарадзішча. Заўважыўшы, што ў кабіне кіроўцы вісяць вымпелы з жанчынамі ў бікіні, ён параіў зняць іх.

«Там былі такія трохвугольныя малюначкі жанчын у купальніках вельмі непрыстойнага выгляду.

На маю думку, матэрыялы непрыстойнага зместу — а гэта якраз яно — не трэба публічна размяшчаць, бо гэта бачаць і старыя, і дзеці, і ўвогуле, тое не правільна і з маральнага, і з эстэтычнага боку», — растлумачыў «Нашай Ніве» свой учынак Шыталь.

Па словах маладзёна, кіроўца спачатку аблаяў яго матам. Тады Кастусь настойліва паўтарыў заўвагу — кажа, не хацеў, каб кіроўцу пазбавілі прэміі, думаў вырашыць пытанне мірна. Але кіроўца, па словах Шыталя, у рэзкай форме параіў таму выйсці з аўтобуса. Шыталь



выходзіць адмовіўся і працягваў стаяць на сваім.

Кіроўца накіраваў аўтобус разам з пасажырамі ў аддзяленне міліцыі, хоць ужо і да таго ішоў па маршруце са спазненнем.

«Ён адвёз аўтобус у Докшыцкі РАУС, паскардзіўся міліцыянтам, што я «парушаў парадак і хуліганіў». Мяне высадзілі з аўтобуса. Але ў міліцыі са мной вельмі карэктна пагаварылі, апыталі пасажыраў, якія пацвердзілі, што я нічога не парушыў, пасля чаго ўсіх адпусцілі», — распавёў Кастусь Шыталь.

Цяпер хлопец збіраецца патрабаваць ад аўтастанцыі вярнуць яму грошы за квіток, а таксама хоча напісаць скаргу на кіроўцу — «як з нагоды голых жанчын, так і з нагоды таго, што ён адхіліўся ад маршруту».

**Уладзь Швядовіч**

## Выпадак у Гродне: абуранай гараджанцы не спадабалася, што жанчына ў людным месцы загарала топлес

У адной з гродзенскіх суполак у сацыяльных сетках гараджане бурна абмяркоўвалі тэму, як можна і як нельга загараць у горадзе. Падставай для абмеркавання паслужыла фатаграфія, выкладзеная гарадзенкай, дзе было зафіксавана, як адна з жанчын загарала топлес у людным месцы.

Пасля шматлікіх каментароў адміністрацыя суполкі выдаліла запіс, бо дыскусія перайшла да асабістых абразаў. А вось пытанне, ці можна загараць топлес, засталося адкрытым.

Як растлумачыў афіцыйны прадстаўнік УУС Гродзенскага аблвыканкама Яраслаў Васілеўскі, пры ўсёй павазе да жадання прадстаўніц слабага полу, зусім ужо дэманстратыўна загараць топлес усё ж такі не варта.

«Калі жанчына ляжыць і проста загарае пасярод паляны, удалечыні ад жылой забудовы (многія так робяць, да прыкладу, каля лесапарку Пышкі або на вуліцы Белыя Росы), і не абражае сваім выглядам іншых людзей і, вядома ж, дзяцей, гэта нармальна.

Калі ж знойдуцца абражаныя, яны могуць звярнуцца ў міліцыю, а супрацоўнікі праваахоўных органаў ужо ў сваю чаргу правядуць гутарку з грамадзянкай, якая загарае топлес. У крайнім выпадку міліцыянты папросяць прадстаўніцу жаночага полу апрануцца або перайсці ў іншае месца загараць.

Варта адзначыць, што ніякіх штрафаў або іншых санкцый за тое, што жанчыны ў гарадской прасторы загаралі топлес, у нас яшчэ не было», — распавёў Яраслаў Васілеўскі.

**Руслан Кулевіч, hrodna.life**

# Зліваеце гарачы тлушч у каналізацыю? Вось чым гэта можа скончыцца

Пад вуліцамі Лондана, у каналізацыйных трубах і тунэлях, узнікаюць велічэзныя груды тлушчу. Гарадскім уладам даводзіцца з імі змагацца ўрукапашную.

«Тлушчберг» — fatberg — цалкам афіцыйны тэрмін, як мінімум па-англійску.

Вазьміце слова «айсберг» — літаральна «ледзяная гара». Замяніце «лёд» на «тлушч» — і атрымайце «тлушчберг».

Гаворка пра гіганцкія глыбы застылага харчовага тлушчу, часам вагой у некалькі тон, якія спрэс закаркоўваюць каналізацыйныя трубы і тунэлі, з усімі наступствамі для мясцовых жыхароў.

Спусціць ваду ў туалетах аказваецца немагчыма. Аб паходзе ў душ можна і не думаць. Не кажучы ўжо пра тое, што ўсе вадкасці рана ці позна пачынаюць працякаць на паверхню.

І як гэтыя тлушчбергі ўзнікаюць? Адкуль яны бяруцца?

Прычына — звычкі мясцовых жыхароў. А менавіта дзве звычкі.

Па-першае, звычка смажыць ежу на алеі або тлушчы, а затым зліваць гэтую ўжо непатрэбную, але яшчэ гарачую і, адпаведна, вадкую тлушчавую масу ў ракавіну на кухні. Масу, якая недзе потым, у глыбіні каналізацыі, проста застывае, камянее і закаркоўвае ўсе трубы.

Калі гэтая закамянеласць з'явілася ў вашым прыватным доме і асабістых трубах, то гэта вашыя асабістыя праблемы.

Але гэтая маса трапляе ў муніцыпальныя тунэлі каналізацыі, пабудаваныя яшчэ ў XIX стагоддзі, тады гэта ўжо праблема для ўсіх, але ў асноўным для ўладаў, якія павінны з гэтым разбірацца.

Па-другое, узнікненню тлушчбергаў спрыяе звычка выкідаць ва ўнітаз такія дзіўныя прадметы, як вільготныя сурвэткі, тампоны і панчохі.



Усё гэта захрасае ў тлушчы ў каналізацыі, а калі туды даплывае чарговая порцыя свежага тлушчу, узнікае эфект каралавага рыфа, які пачынае расці ўсё вышэй і вышэй, усё шырэй і шырэй.

Асенізатары кампаніі *Thames Water*, якая адказвае за ўсе каналізацыйныя трубы пад вуліцамі горада, дзейнічаючы выключна рыдлёўкамі і кіркамі, вымушаныя прыбіраць гэтыя нарасты з тлушчу.

Адзін з самых буйных тлушчбергаў быў знойдзены ў 2015 годзе ў Чэлсі, адным з самых багатых раёнаў Лондана. Важыла гэта жахлівае ўтварэнне больш як 10 тон.

Даўжыня яго дасягала 40 метраў, і каналізацыйная труба проста не вытрымала вагі і прарвалася.

Уявіце водар, які панаваў у гэтым вельмі забяспечаным раёне.

У 2013 годзе ў раёне Кінгстан быў знойдзены тлушчберг вагой у 15 тон.

На расчыстку гэтых тлушчавых коркаў сыходзіць шмат часу, бывае нават некалькі тыдняў.

Рабочыя, рыдлёўкамі і кіркамі, у цеснаце, атачаныя не самымі прыемнымі водарамі, раскопваюць тлушч, перамяшаны з сурвэткамі і калготкамі, і выносяць яго праз каналізацыйныя люкі.

Калі тлушчберг пашкодзіў саму трубу, яе даводзіцца замяняць. На гэта сыходзіць час і грошы, бо даводзіцца раскопваць увесь тратуар ці вуліцу.

Паколькі каналізацыйныя работнікі людзі дасведчаныя, то яны не патрулююць усю бясконцую гарадскую каналізацыю, а проста маніторяць месцы, дзе найчасцей узнікаюць тлушчавыя айсбергі, напрыклад каля рэстаранаў фаст-фуду.

Але бываюць і сюрпрызы, як у Чэлсі або Кінгстане.

І ўлады, і *Thames Water* ужо прывыклі да гэтага ворага гарадскога жыцця. Але над імі навіс свайго роду дамоклаў меч.

Сярэдні век людзей, што раскопваюць паклады тлушчу ў падземных трубах, — каля 50 гадоў. І адносна хутка яны пачнуць сыходзіць на пенсію. А пераканаць моладзь, што няма ў свеце лепшай кар'еры, чым хадзіць па каналізацыйных трубах у цемры і брудзе і разграбаць застылы тлушч, даволі складана.

Таму на дадзены момант незразумела, хто пераможа ў гэтай барацьбе — Лондан ці тлушчбергі.

**BBC**

# Берасцеец усталяваў за жонкай відэаназіранне, а пасля разводу выклаў інтымныя ролікі ў інтэрнэт

Каб схавацца ад плётак, жанчыне прыйшлося пакінуць родны горад.

У адносінах берасцейцаў Андрэя і Тамары ўсё пачыналася прыгожа — каханне, жарсць і чаканае вяселле. Кажуць, што каханне жыве тры гады, але ў гэтай пары яно пачало трашчаць па швах яшчэ на першым. Першую смуту ў шлюб унесла свякроў: абмяркоўваючы разам з сынам нявестку, яна ўсё мацней пераконвала яго ў яе ненадзейнасці і ў датычнасці да ўсіх смяротных грахоў. Ну, маці ж дрэннага не параіць?

Першым, што пачаў ратаваць ад «грэшніцы» Андрэй, сталі грошы. Тамара інтуітыўна адчула нядобрае і хутка звярнулася ў суд па спагнанне аліментаў з мужа, тлумачачы гэта тым, што вялікая частка прыбыткаў абыходзіла сям'ю бокам. Сама жанчына ў гэты момант не працавала, таму высвятленне грашовай праўды было для яе жыццёва неабходным.

Відавочна, што давер паміж мужам і жонкай быў страчаны. Андрэй дык і ўвогуле, здавалася, злящеў са шпулек. Будучы ўпэўненым, што ў жонкі ёсць нехта яшчэ, захоплены рэўнасцю, ён не толькі абсталяваў кватэру бацькоў Тамары, дзе яны жылі, сродкамі відэаназірання, але і наняў некалькі спецыяльных чалавек, каб арганізаваць за ёй сачэнне.

Больш за паўгода мужчына праводзіў сваё «расследаванне». Дайшло нават да таго, што ён сістэматычна наведваў то месца працы сваёй каханай, то яе цырульніка і нават касметолага. Там ён спрабаваў атрымаць дадатковую інфармацыю ды факты пра жонку. Рабіў ён гэта са скандаламі і пагрозамі, у выніку чаго звар'яцелага раўнівца некалькі разоў прыйшлося ўціхамірваць міліцыі.

Тамара не вытрымала і, не дажыўшы да другіх угодак, падала на развод. Супольных дзяцей у маладых людзей не было, спрэчак пра маёмасць таксама, таму суд досыць хутка задаволіў пададзеную заяву і прызнаў шлюб скасаваным.

Здавалася, абаім можна пачынаць новае жыццё. Але тое, што адбылося далей, вымусіла Тамару, папярэдне прадаўшы кватэру бацькоў, пакінуць родны горад.

Пакрыўджаны муж так і не змог супакоіцца і, відаць, прагнуў помсты. За гады шлюбу з дапамогай камер відэаназірання «юны аператар і рэжысёр» сабраў вялікі архіў матэрыялаў з інтымнымі момантамі іх сумеснага жыцця. І... выклаў у інтэрнэт.

Гэты ўчынак канчаткова ўпэўніў Тамару ў думцы, што без дапамогі ёй не абысціся. Па парадзе знаёмых яна падрыхтавала заяву пра спагнанне маральнай шкоды ў Выязны трацейскі суд, адну з копій якой адправіла Андрэю. Як ні дзіўна, ён ад зробленага не адмаўляўся.

У выніку вывучэння ўсіх пададзеных матэрыялаў Выязным трацейскім судом была зроблена выснова пра тое, што Андрэй сістэматычна распаўсюджваў звесткі пра былую жонку, якія не адпавядалі рэчаіснасці, ды знеслаўлялі гонар і годнасць Тамары. З дапамогай трацейскіх суддзяў мужчына прызнаў сваю віну і нават раскаяўся. Аднак для Тамары гэтага было недастаткова, таму відэааматару давялося цалкам пакрываць суму панесенай маральнай шкоды ў памеры 10 000 рублёў, якую патрабавала ісцец. Добра яшчэ, што адзняты відэаматэрыял не быў парнаграфічным, так бы аднымі грашыма мужчына наўрад ці адкупіўся.

# Пяць адрозненняў беларускай чысціні ад еўрапейскай

Беларусы часта ганарацца чысцінёй. У той жа час пры шчырых размовах замежнікі кпяць з нашай «чысціні». «Наша Ніва» сабрала пяць прыкладаў, дзе «беларуская чысціня» не супадае з еўрапейскай.

Наперад заўважу, што слаба ведаю Еўропу паўднёвую, супастаўляю з «блізкай Еўропай»: Нямеччынай, Скандынавіяй, славянскімі краінамі.

### Туалеты і лёс паперы

Для еўрапейцаў туалеты — гэта тэст на чысціню. Між тым у Беларусі нават у Доме ўрада ў грамадскай прыбіральні ўнітаз уяўляе сабой дзірку ў падлозе. Туалеты па еўрапейскіх стандартах вельмі нячыстыя ў нашых навучальных установах, дзяржаўных будынках, арміі. Дзяцей не вучаць правілам добрага тону пры карыстанні туалетамі.

І яшчэ такі нюанс. Беларусы міжволі захоўваюць інстынкты, вынесеныя з часоў, калі туалеты былі тыпу «сарцір». А яшчэ — з той пары, калі туалетная папера была дэфіцытам, а ў туалетах карысталіся газетамі. Газета, у адрозненне ад туалетнай паперы, забівала каналізацыю, таму яе не спускалі ва ўнітаз, а складалі ў сметніцы. Замежнікі часта ўражваюцца відовішчам вёдраў у нашых туалетах.

### Сметніцы

Вываз і перапрацоўка смецця — асаблівасць развітых грамадстваў.

Не буду кранаць тэмы перапрацоўкі, але замежнікі звяртаюць увагу на сметніцы. У Нямеччыне яны абавязкова закрытыя. У нас у дварах, як правіла, адкрытыя. У выніку каты, вароны і бамжы расцягваюць іх змесціва, яно валяецца сярод дарогі.

Сістэма размяшчэння смеццевых бакаў і доступу да іх —асаблівасць еўрапейскай чысціні.

### Шкло ў пад'ездах

Еўрапейцам нашмат важнейшае тое, што ўнутры дома, кватэры, а не на вуліцы. У Беларусі часта бывае наадварот.

Звярніце ўвагу на вокны ў пад'ездах нават прэстыжных дамоў Беларусі. Зайдзіце, напрыклад, у славуты Дом на Нямізе. Вокны там гадамі, а то і дзесяцігоддзямі не мытыя, заляпаныя, у тым ліку фарбай. Шыбы ў вокнах напалову пабітыя, сцены пафарбаваныя абы-як. Такое немагчыма сабе ўявіць у аналагічным доме ў Брусэлі, Любляне ці іншым вялікім горадзе «распуснай Еўропы».

Падлога ў пад'ездах у большасці дамоў мыецца толькі на паперы. Тады як у Варшаве нават у панэльных шматпавярховіках штодзень лесвіцы і падлогі мыюць з мыючым сродкам.

### Соль

У Беларусі чысціня дасягаецца ростам колькасці прыбіральнікаў. У Еўропе часцей думаюць пра тое, як бы менш было чаго прыбіраць.

Замежнікі заўважаюць, што «чысціня» ў Беларусі характэрная для сухога, летняга сезону, хоць ён кароткі. У той жа час тэхналогіі падтрымання парадку зімой не ідэальныя. У адрозненне ад Хельсінкі ці Дрэздэна, у Мінску зімой табе не ўдасца прайсці з пункту А ў пункт Б, не замазаўшы ботаў.

Для пасыпання дарог і тратуараў у нас выкарыстоўваюць соль. Яна разам з брудам пакрывае чэпкім слоем усё вакол дарог, вуліц і нават тратуараў.

У еўрапейскіх краінах у тых жа мэтах выкарыстоўваюць гранітную крошку, а нашы саляныя дарогі выглядаюць вельмі неэстэтычна.

### Лес і возера

У беларускіх лясах, палях і вадаёмах нярэдка сустрэнеш пластык, а то і цэлыя звалкі. У Нямеччыне ці Швецыі з такім ніколі не сутыкнешся.

**Андрэй Дынько**

# Беларускі медык загінуў на вайне ва Украіне. Дома ў яго засталіся 4 дзяцей

Берасцейскі добраахвотнік Алег Падароўскі, які служыў у батальёне «Гаспітальеры», загінуў ад хваробаў і траўмаў, атрыманых у часе баявых дзеянняў на Данбасе.

«Алег загінуў у кастрычніку (мінулага года) і пахаваны ў Дняпры побач з нашымі байцамі-героямі», — паведаміла радыё «Свабода» камандзір батальёна «Гаспітальеры» Украінскай добраахвотнай арміі Яна Зінкевіч. Паводле яе, Алег Падароўскі служыў у батальёне з 2014 года.

«Ён удавец, у яго засталіся чацвёра дзетак, якіх цяпер даглядае ягоная маці ў Беларусі», — дадала яна. «Алег выратаваў не аднаго байца і транспартаваў дзясяткі, выконваў абавязкі парамедыка і кіроўцы на пазіцыях у Шырокіным», — паведаміла Яна Зінкевіч.

Камандзір батальёна «Гаспітальеры» таксама дадала, што Алег Падароўскі захварэў увосень 2015 года. «Мы ўвесь гэты час змагаліся за яго жыццё, але, на жаль, хвароба аказалася мацнейшай», — распавядае Яна Зінкевіч.

Алег Падароўскі стаў другім беларусам, які загінуў на Данбасе.

У жніўні 2015 года ў выніку цяжкага ранення ў баі пад Белакаменкай на Данбасе пасля некалькіх тыдняў комы памёр былы старшыня берасцейскай гарадской арганізацыі БХД Алесь Чаркашын. Ён ваяваў у складзе добраахвотнага ўкраінскага корпуса «Правы сектар» пад пазыўным Тарас.

**Радыё «Свабода»**




# У Нідэрландах закрываюць турмы — няма каго садзіць

Некалькі гадоў таму ў Нідэрландах закрылі 19 турмаў, цяпер зачыняць яшчэ пяць, піша газета De Telegraaf.

Узровень злачыннасці ў краіне ўвесь час зніжаецца, а гуманізацыя сістэмы пакарання прывяла да таго, што за краты садзяць цяпер толькі вінаватых у злачынствах супраць асобы.

На сёння ў Нідэрландах каля 13500 турэмных камер, з іх трацiна пустуе. Зачынілі б і больш вязніц, але не дае прафсаюз работнікаў папраўчых устаноў. Таму частку турмаў здаюць у арэнду бельгійцам і нарвегам, якім танней пасылаць сваіх вязняў суседзям, дзе ўтварыўся перабор ахоўнікаў, чым трымаць дома.

Змена тэхналогій кантролю прывяла да таго, што ўлады Нідэрландаў усё часцей не садзяць парушальнікаў, а проста кантралююць іх перамяшчэнне з дапамогай электронных бранзалетак. Упор робіцца на перавыхаванне зладзеяў, на тое, каб даць ім прафесіі, з якімі яны маглі б законна зарабляць на жыццё.

Зняволеныя ў нідэрландскіх калоніях вырошчваюць гародніну, кветкі, гадуюць жывёлу, выконваюць іншыя фізічныя працы. Яны маюць неабмежаваную магчымасць чытаць і глядзець тэлебачанне. І ўсё адно на свабодзе лепш — таму ў высокаразвітым грамадстве, як галандскае, ніхто ў турму не рвецца, нават самую камфартабельную.

**Сяргей Гезгала**




# У Магілёве статую Маленькага прынца зламалі ў першы ж дзень

У Магілёве невядома хто пашкодзіў скульптуру Маленькага прынца, паведамляе карэспандэнт радыё «Свабода». Бронзавую скульптуру 1,4 м увышкі мелі ўрачыста адкрыць у Камсамольскім скверы на Дзень горада 28 чэрвеня, але яна не прастаяла і дня.

Магчыма, нехта цяжкі хацеў сфатаграфавацца на ёй, дый паламаў.

Зараз выяву павязуць рамантаваць у сталіцу.

Аўтар скульптуры Андрэй Вераб'ёў вельмі засмучаны.

# У Расіі неанацыст адрэзаў галаву беларусцы, якая прыехала зарабіць на кватэру

У 2015 годзе ў Маскве затрымалі некалькіх хлопцаў і дзяўчат, 19—25 гадоў. Пяцёра маладзёнаў жорстка забівалі людзей.

Падрабязнасці справы апісвае расійскі партал «Медуза».

Юнакі патлумачылі, што забівалі людзей, бо «чысцілі» горад ад бяздомных і п'янтосаў.

Але ахвярамі станавіліся і выпадковыя людзі.

Адной з ахвяраў была беларуска — 40-гадовая Алена Шыцік, якая прыехала зарабіць на рамонт у кватэры. Яе маці Вера Церашкова сказала «Медузе», што падчас апазнання ёй паасобку далі галаву і цела дачкі.

Жанчыну забіў 20-гадовы Павел Войтаў. Ён нанёс ёй 44 удары нажом.

«Тут я забіў бамжыху, — распавёў ён следчым на месцы забойства, побач з Цвярской-Ямской вуліцай. — Каля цеплатрасы тармазнуў яе, нанёс ёй удараў дваццаць, яна скацілася ў яму».

«Матыў?» — спытаў следчы. Войтаў пацiснуў плячыма.

«Нянавісць», — адказаў ён праз некалькі секунд.

«Да каго?» — удакладніў следчы.

«Да бамжоў», — адказаў ён.

Войтаў удзельнічаў у 14 забойствах.

Яго паплечнікі распавялі, што ад забойстваў той атрымліваў асалоду, нават падумваў аб тэракце.

Прысуд забойцам пакуль не вынесены.

**паводле Meduza.io**


Павел Войтаў.

Сямён Кац / «Медуза»

**З пошты Рэдакцыі**

# Вось такі падаруначак. Ад брытанскіх мытнікаў? Пошты? Супрацоўнікаў аэрапорта?

Мяне завуць Вольга. Жыву я ў Вялікабрытаніі апошнія некалькі гадоў. У мяне трое дзетак. І, канечне, мае бацькі дасылаюць ім падарункі на дні нараджэння… Ды й проста пару пакункаў бабруйскага зефіру шлюць раз-пораз. Надта ён смачны!

Ніколі з поштай праблем не было, але не гэтым разам… 12 чэрвеня атрымліваю пасылку з Беларусі ад маіх бацькоў. Унутры, я ведаю, — падарункі да 10-годдзя майго сына.

Узяла пакет у рукі і агледзела яго. Першае, што папалася на вочы, — гэта дзірка з аднаго боку. Узнікла пытанне: ну няўжо «Белпошта» не можа зрабіць нармальныя каробкі для перасылкі пасылак замест карычневай паперы, якая парвалася па дарозе?

Далей пачалося самае цікавае. Адчыняю я пасылку, а ўнутры — крошкі ад зефіру. Думаю: так, няўжо каробка ад зефіру не вытрымала пералёту?

Дастаю пакет з зефірам і заўважаю… Бацюхны-матухны! На пакеце надрэз! Бяру камеру ў рукі і пачынаю рабіць фотаздымкі. Нехта нечым вострым прарэзаў пасылку, пакет унутры пасылкі, дзе ляжаў зефір, парваў саму каробку так, што кавалка не ставала, і не ведома, можа, чапаў сваімі «чыстымі» пальцамі тое, што прызначалася быць салодкім падарункам на дзень нараджэння.

Дзірку, дзе адбыўся «ўзлом», старанна заклеілі карычневым скотчам. Адразу я і не заўважыла. У мяне з'явілася падазрэнне, што, можа, гэта Каралеўская Пошта пачала правяраць такім чынам замежныя пасылкі ў сувязі з апошнімі тэрарыстычнымі актамі ў краіне. Далей мне стала цікава, дзе ж быў наш пакет увесь гэты час? Зайшла на сайт «Белпошты» і ўвяла нумар пасылкі ў адсочваннях за паштовымі адпраўленнямі.

Аказалася, што нашы беларускія падарункі амаль што нідзе не спыняліся, акрамя як у Менску пасля праходжання мытнага кантролю. Там пасылка ляжала пяць дзён. Лагічным стала думаць (ну, мне так здаецца), што, хутчэй за ўсё, узлом быў зроблены на працягу вось тых пяці дзён.

Гэта ж дзікунства нейкае! Калі я выклала фотаздымкі на сваёй старонцы ў фэйсбуку і пачытала каментары сяброў, — мае падазрэнні наконт непрафесійнасці беларускага боку пачалі ўзмацняцца. Аказваецца, такое здаралася і раней. Цяпер здарылася і са мной.

Засталіся пачуцці сораму за сваю родную краіну і нейкай непрыемнай брыдкасці.

Можа, калі вы апублікуеце мае фотаздымкі і спытаецеся: а што гэта і як гэта ўвогуле працуе ў нас? — гэта дапаможа змяніць нешта ў праходжанні пасылак? Не раз нашыя пасылкі з UK у Беларусь прыходзілі адкрытымі (нехта іх тамператрасаў), але каб чапалі пасылку, якая ідзе з Беларусі ў UK, — гэта было ўпершыню.

Дзякуй вялікі за ўвагу.

**Даслала чытачка Вольга**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**

# Навошта хочуць зносіць Асмалоўку? Сем галоўных пытанняў і адказаў

Падчас сустрэчы прадстаўнікоў улады з жыхарамі Асмалоўкі прагучала шмат пытанняў, але мала адказаў. Некаторыя адказы галоўны архітэктар праекта дэтальнага плана тэрыторыі квартала Аляксандр Бандарчык і кіраўнік Цэнтральнага раёна Мінска Ігар Бузоўскі далі ўжо пасля завяршэння афіцыйнай часткі сходу падчас размовы з журналістамі.

Асмалоўка — раён пасляваеннай забудовы ў цэнтры Мінска. Гэта адзінае месца, дзе падобны комплекс будынкаў застаўся цэлым кварталам. У свой час яго рабілі найлепшыя архітэктары з Кіева, Харкава, Масквы і наш зямляк Міхаіл Асмалоўскі, які ў 1945—1951 гадах узначальваў Упраўленне спраў архітэктуры пры Савеце Міністраў БССР.




Аднагалосна супраць: грамадскае абмеркаванне ператварылася ў мітынг.

### Ці ёсць інвестар?

Цяпер інвестара няма, і невядома, калі ён з'явіцца і ці з'явіцца ўвогуле. Знасіць аб'екты трэба на 27% тэрыторыі квартала. З пункту гледжання бізнэсу, працэнт зносу, большы за 15%, — нерэнтабельны.

### Хто можа гарантаваць, што пасля зносу Асмалоўкі не будзе пусткі?

Тэрыторыю па-рознаму ацэньвалі і вырашылі, што найлепшае рашэнне — знос. Каб захаваць гістарычную забудову, яе трэба фактычна пабудаваць наноў з сучасных матэрыялаў. Гэта нерэнтабельна.

«Але, у прынцыпе, рэканструкцыя можа быць. Цяпер мы ўвесь час сутыкаемся з сітуацыяй, калі інвестар прыходзіць на пляцоўку, дзе мяркуецца знос, і кажа: «Я не буду зносіць, давайце я часткова альбо цалкам рэканструюю будынак, які ёсць». Таму цяпер мы ў праектах пішам, што будынак падлягае зносу, ставім кропку і пазначаем: неабходнасць зносу залежыць ад замоўцы на далейшых стадыях праектавання, — патлумачыў Бандарчык. — Меркаванне жыхароў, што за вуглом стаяць пачвары з заведзеным бульдозерам, і варта толькі адвярнуцца, як усё паголяць, — далёкае ад праўды».

### Навошта ўсё гэта?

На выпадак, калі прыйдзе інвестар.

Дэтальны план мусіць ствараць пэўныя межы для перабудовы. Напрыклад, хтосьці прыйдзе і скажа, што хоча ўзвесці на месцы Асмалоўкі тры хмарачосы. Прапанову адхіляць, калі дэтальны план падобных будынкаў не прадугледжвае.

### Ці будуць рабіць капітальны рамонт?

Пакуль не зацверджаны план дэтальнай планіроўкі, капітальнага рамонту жыхары могуць не чакаць. Калі будзе канчаткова прынятае рашэнне пра знос ці рэканструкцыю, тады і будзе вырашацца гэтае пытанне.

Трэба адзначыць, што апошні капітальны рамонт у гэтых дамах праводзілі ў 1980-х.

### Што, калі Асмалоўку прызнаюць гісторыка-культурнай каштоўнасцю?

Дэтальны план будзе скарэктаваны. Штосьці могуць дабудаваць ці перабудаваць унутры квартала. Напрыклад, на тэрыторыі дзіцячых садкоў.

Дарэчы, гэта ўжо трэці дэтальны план. Два папярэднія былі адхіленыя.

### Хто і калі прыме канчатковае рашэнне па Асмалоўцы?

Найбліжэйшыя тыдні працягнуцца грамадскія абмеркаванні.

Калі дэтальны план па выніках будуць рэкамендаваць да далейшага зацвярджэння, яго накіруюць на экалагічную экспертызу і галоўдзяржбудэкспертызу.

Калі экспертызы будуць пройдзеныя паспяхова, дэтальны план аддадуць на зацвярджэнне ў Мінгарвыканкам, які і прыме канчатковае рашэнне.

Самае хуткае, калі яно можа быць прынята, — праз тры месяцы.

**Настасся Роўда**

---

Два погляды

## Зісер: «Знайшлі мне спадчыну! Навошта гэтыя баракі ў цэнтры?»

«Наша Ніва» публікавала меркаванне мастацтвазнаўцы Сяргея Харэўскага пра тое, чаму не трэба зносіць Асмалоўку, што прадугледжвае праект забудовы вуліц за Оперным тэатрам у Мінску.

У інтэрнэце таксама разгарнулася кампанія па зборы подпісаў, якія маюць пасласць у Мінгарвыканкам, з патрабаваннем захавання раёна.

Але існуюць і іншыя пункты гледжання на гэтую сітуацыю.

Так, уладальнік партала «Тут.бай» выказаў «Нашай Ніве» супрацьлеглую пазіцыю.

«Здаецца, людзі проста пайшлі на прынцып: калі ўлада так, то мы так — ёй на злосць. Нібыта ўсё, што робіць улады, абавязкова кепска. Рэканструкцыя — кепска. Хаця па праекце ўсе гэтыя хібары па перыметры захоўваюцца, але ўсё адно кепска. Даруйце, яны на 10-15 гадоў старэйшыя за хрушчоўкі. Знайшлі мне спадчыну! Я разумею, калі б там збіраліся зносіць гістарычныя дамы на Інтэрнацыянальнай ці Ракаўскую... Я б гарой стаў! А баракі гэтыя... Не ведаю, за што тут змагацца?» — сказаў нам Зісер, падкрэсліўшы, што да ўладаў ёсць і больш актуальныя пытанні.

Таксама Юрый выказаўся па гэтым пытанні ў фэйсбуку.

«Беларусы настолькі кансерватыўныя, што падымаюць лямант пры зносе любога будынка. Пры гэтым спакойна падтрымліваюць знос хрушчовак, якія на 10 гадоў маладзейшыя за баракі на Асмалоўцы. Мне 57 гадоў, даруйце, я ў такіх бараках нават жыў! І яшчэ я лічу Мінск адным з найзелянейшых гарадоў свету, і да таго ж не бачу ў праекце, каб збіраліся спілоўваць усе дрэвы. Вось вы, напрыклад, ведалі пра існаванне электрастанцыі да яе зносу? А аўтавакзал (Маскоўскі), можа, быў прыгажуном і размяшчаўся ў зручным для вандровак з багажом месцы?» — напісаў Зісер.

**Арцём Гарбацэвіч**

---

## Харэўскі: Пяць прычын, чаму Асмалоўка не павінна быць знесеная

Стала вядома, што новы праект забудовы Асмалоўкі прадугледжвае поўны знос квартала. Ці маюць гэтыя домікі ў цэнтры Мінска гісторыка-культурную каштоўнасць, мы паразмаўлялі са знаўцам Мінска, мастацтвазнаўцам Сяргеем Харэўскім, аўтарам кнігі «Асмалоўка: дамы і мары».

### 1. Людзі

Там вырасла тры пакаленні людзей, якія не хочуць з'язджаць з Асмалоўкі. Для людзей гэта не проста родны дом, але бацькоўскія і дзядоўскія парогі. Не разумець правы людзей на гэтую маёмасць, на сямейную памяць — гэта бесчалавечна і амаральна.

### 2. Архітэктура

Гэты архітэктурны ансамбль уяўляе сабой міжнародную каштоўнасць. Праекціроўшчыкі, архітэктары былі з Украіны і Расіі: Міхаіл Ручко, Абрам Даніляк і акадэмік Міхаіл Парусьнікаў. Апошні шмат пабудаваў ў Маскве, Ленінградзе, Харкаве, а таксама ў Мінску на праспекце Незалежнасці.

Асмалоўка — гэта адзінае месца, дзе падобны комплекс будынкаў застаўся цэлым кварталам. У свой час яго рабілі найлепшыя архітэктары з Кіева, Харкава, Масквы і наш зямляк Міхаіл Асмалоўскі, які ў 1945—1951 гадах узначальваў Упраўленне спраў архітэктуры пры Савеце Міністраў БССР. Менавіта ягонае прозвішча і дало народную назву — Асмалоўка. І тое, што гэты квартал, які адзіны ацалеў на прасторах экс-СССР у сваёй цэласнасці, цудам, дзякуючы спецыфічнаму статусу, ужо само па сабе важна.

Гэта таксама ілюстрацыя стылю, як у той час мыслілася, пра лад жыцця, пра камфорт. Усё тое, каб зваць помнікам архітэктуры, у Асмалоўкі ёсць.

### 3. Мемарыяльная значнасць

Спачатку гэтыя кварталы будаваліся для вайскоўцаў побач са штабам Беларускай вайсковай акругі (цяперашнім Міністэрствам абароны). Туды планавалася пасяліць высокапастаўленых афіцэраў, генералітэт. Там пажылі героі Савецкага Саюза, маршалы. Сярод іншых — родны брат Пятра Машэрава Павел, ён там пражыў усё жыццё.

А яшчэ адзін квартал Асмалоўкі аддалі Упраўленню па справах мастацтва. Быў такі Лютаровіч, які кіраваў гэтай установай. Таму і жыллё іранічна назвалі «пасёлкам Лютаровіча». Туды пасялілі вернутых з эвакуацыі народных мастакоў, заслужаных асоб.

Там пасялілася цэлая дынастыя вядомых мастакоў Шчамялёвых — дзед, сын, унук, іхнія жонкі, Тацяна Разіна. Цэлы клан, цэлае племя.

Мастак Генрык Бржазоўскі жыў там, яго бацька прыехаў у Мінск рабіць унутраны дызайн Чырвонага касцёла, усю сталярку. І вось сын ягоны стаў адным з першых заслужаных дзеячаў мастацтва БССР, аўтарам больш чым 2000 карцін. Ягоная дачка Людміла, балерына, стала самай маладой заслужанай артысткай СССР.

Адразу туды перасялілі адзін дом для яўрэйскага тэатра БССР, які вярнулі з эвакуацыі. Потым гэтыя артысты сталі дыктарамі на радыё.

Да нашых дзён у мансардах Асмалоўкі працуюць мастакі: Несцераў, графік Паўлавец, Руслан Вашкевіч. На некаторых дамах там можна павесіць утрая больш шыльдаў, чым на доме-музеі Петруся Броўкі на вуліцы Карла Маркса. Столькі там жыло дзеячаў культуры, прафесуры! У Мінску мала дзе можна сустрэць такі квартал, насычаны настолькі памяццю, як Асмалоўка.

### 4. Экалагічная каштоўнасць

Адразу пасля вайны жонкі вайскоўцаў вельмі захапляліся садаводствам і там панасадзілі розных экзотаў. За гэтыя 75 гадоў многія расліны ўтварылі ўнікальны біяцэноз, які стаў домам не толькі для людзей, але і для птушак, у тым ліку ўнесеных у Чырвоную кнігу. Там водзяцца нават два віды кажаноў.

У сэнсе экалогіі вылазаць у цэнтры Мінска сад, якому больш за 100 гадоў, — гэта вар'яцтва і злачынства.

### 5. Спакойны адпачынак

У Мінску парацца на прадмет адсутнасці пешаходных вуліц. Фактычна Асмалоўка і выконвае функцыі такога вось праменаду. З суседніх кварталаў прыходзяць цяжарныя альбо маці з вазкамі, дзе ў цішыні, у зеляніне можна правесці час. Гэта месца для спакойнага адпачынку. Аналагаў у Мінску такому раёну няма. Гэта ўнікальнае асяроддзе.

# «Працякла труба», «рамонт залы»: у краіне масава адмяняюцца канцэрты Віктара Каліны

Скандальна вядомы шансанье Віктар Каліна на сваім сайце абурыўся тым, што ў Рэчыцы не адбудзецца ягоны канцэрт, запланаваны на пачатак жніўня.

Прычыну Каліна бачыць у «інфармацыйных атаках апазіцыі на мясцовых ідэолагаў» і ягонай «прынцыповай пазіцыі па Данбасе».

Апроч таго, увесь раздзел «Афіша» на сайце Каліны закрыты праз адсутнасць пэўнасці, бо выступы могуць не дазволіць — шансанье расказаў, што ў раённых гарадах масава адмяняюцца канцэрты праз розныя адгаворкі кшталту «рамонту залы» ці «працечкі трубаў».

«Людзі, якія адказваюць за ідэалогію і культуру ў абласных гарадах, выдаюць мне гастрольныя пасведчанні, вынікае — гэта гарантыя таго, што маладушныя і непісьменныя іх калегі ў раённых гарадах абавязаныя правесці канцэрт. Што ж гэтак баязліва і падступна дзейнічаюць іх падначаленыя на месцах? Навучыліся хлусіць, выварочвацца, прыкрывацца хлуснёй!!! Часцей за ўсё чыннік — «рамонт залы». Мы ў гэта верылі! Пакуль мае прыхільнікі не пачалі дасылаць фота залы, афіш іншых артыстаў... Наступная «адчэпка» — гэта «ў нас усё распісана». Мяне такі адказ ужо не забаўляе. Спачатку павяліся на хлусню, спыталі пра наступны год. Адказ — званіце ў снежні. Звонім — «у нас усё ўжо расписана на год». Рэальная карціна такая: праходзяць адзінкавыя канцэрты. Калі ўсімі праўдамі і няпраўдамі прадалі 50—70 квіткоў — гэта ўжо дасягненне», — раскрывае свае карты Каліна, далей па тэксце усяляк абражаючы дырэктараў ДК і чыноўнікаў.



«Мяне катэгарычна не дапускаюць да тэлевізійных экранаў, і яшчэ больш катэгарычна адмаўляюць у эфіры на радыё. І нават песні, кшталту абсалютна нефарматнага «Рокс». Паўтараю: мае песні, згодна з указам прэзідэнта, абавязаныя ставіць у эфір», — трызніць Каліна, яшчэ і называючы сябе «самым паспяховым і папулярным артыстам Беларусі».

Таксама ён сцвярджае, што ў асобных гарадах старшыні выканкамаў даюць загады прадпрыемствам не купляць квіткі на канцэрты Каліны.

Маўляў, калі так будзе працягвацца, то ён будзе звяртацца да Лукашэнкі.

Пакуль «Нашай Ніве» не ўдалося атрымаць каментары ідэолагаў, на якіх нападае Каліна.

Але варта адзначыць: забароны канцэртаў Каліны даўно дамагаліся неабыякавыя людзі.

Віктар Каліна пазіцыянуе сябе як шансанье, але творы яго рознабаковыя і ўзаемавыключальныя — за песняй пра блатную рамантыку на канцэрце можа ісці песня пра афіцэрскі гонар.

Каліна ўсяляк нахвальвае сепаратыстаў Данбаса, сам туды ездзіў і са зброяй у руках зычыў «смерці бандэрлогам», прызнаваўся ў здзяйсненні крымінальных злачынстваў.

Неаднаразова публічна і матам выказваўся пра беларусаў, якія не ўхваляюць яго творчасць.

**Арцём Гарбацэвіч**

# У Светлагорску невядомы рэжа колы машынам з георгіеўскімі стужкамі

З 5 чэрвеня ў Светлагорску адбылося каля дзесяці выпадкаў пашкоджання аўтамабіляў. Зламыснік рэжа або праколвае колы ў пакінутых каля дамоў аўто. Зафіксаваны выпадак, калі ён проста скакаў па машыне, пашкодзіўшы яе, паведамляе партал *ranak.by*.

«Цікава тое, што невядомы выбірае машыны, на якіх прымацаваная «георгіеўская стужка», — удакладняе оперупаўнаважаны АКВ Светлагорскага РАУС Аляксандр Пятрушкін.

Па словах оперупаўнаважанага, часцяком зламыснік выбірае цёмны час сутак. А вялікая частка выпадкаў, практычна 90%, зафіксаваная ў Маладзёжным мікрараёне.

Міліцыя просіць грамадзян паведаміць, калі яны штосьці ведаюць пра гэтага чалавека.

# Прадстаўнік «Мілавіцы» параўнаў жанчын з самкамі, якія мусяць радаваць мужчын. Што гэта было?

«Мужчына выбірае тую самку, якая здольная нарадзіць і выкарміць нашчадкаў. Галоўнае, каб яна была актыўная, пазітыўная, дарыла мужчыну радасць». Пасля кастынгу «Мілавіцы», на якім шукалі новы твар брэнда, гендырэктар кампаніі-дыстрыб'ютара Яўген Зуеў ад імя вытворцы падзяліўся са СМІ меркаваннямі пра ідэал прыгажосці, якія, нечакана для яго, выклікалі гарачае абмеркаванне ў сацсетках.

Мы патэлефанавалі Яўгену, каб ён растлумачыў, што меў на ўвазе.

**«Наша Ніва»: Яўген, у інтэрв'ю падчас кастынгу вы разважалі пра ідэалы прыгажосці: «Кожны з нас хоча жыць лепш, кожны мужчына хоча мець прыгожую жанчыну, кожная жанчына хоча мець прыгожае цела». Дык а што рабіць тым, каму, па вашай філасофіі, не пашанцавала з фізічнымі дадзенымі?**

**Яўген Зуеў:** СМІ і чытачы, як заўсёды, вырвалі асобныя выказванні з кантэксту. Я меў на ўвазе менавіта сітуацыю з мадэлямі: шмат дзяўчат у анкеце пра сябе пазначылі куды большыя памеры грудзей, чым ёсць на самай справе.

Я лічу, што любая жанчына прыгожая, але для тых, хто нечым незадаволены, у нас ёсць станікі пушап. На гэтую тэму ёсць жарт, што наш бізнэс дапамагае падманваць мужчын. Пры гэтым мы робім гэта не вульгарна, а арыстакратычна, без намёкаў на сэксуальныя дамаганні.

**«НН»: Падман патрэбны толькі для таго, каб знайсці, як вы кажаце, «самца»? Гэта галоўнае прызначэнне жанчыны?**

**ЯЗ:** Калі жанчын будуць кахаць толькі за грудзі, то чаго тады варта гэтае каханне? У іх ёсць шмат іншых якасцяў: розум, здольнасць камунікаваць, раздзяляць з партнёрам цяжкасці. Наша кампанія ўспрымае жанчыну як асобу, якая, у першую чаргу, набывае бялізну для сябе любімай.

**«НН»: Але пры гэтым вы кажаце пра нейкія ўмоўныя ідэалы прыгажосці (падцягнутае цела, напрыклад), якім трэба адпавядаць усім, каб быць канкурэнтаздольным…**

**ЯЗ:** У інтэрв'ю з журналістамі мы абмяркоўвалі, што большасць вытворцаў, калі робяць рэкламу, стараецца знайсці жанчыну з прывабнай фігурай, каб лепш прадаць адзенне праз сэкс. Але, само сабой, ва ўсіх людзей розныя густы. Сказаўшы, што ў модзе падцягнутае цела, я не імкнуўся нейкім чынам абразіць жанчын, якія не адпавядаюць ідэалам прыгажосці. Проста хацеў адзначыць, што, нягледзячы на моду на здаровы лад жыцця, беларусы ўсё роўна масава не займаюцца спортам і няправільна харчуюцца. Праблема тычыцца і мужчын: паглядзіце, у колькіх дзядзькоў піўны жывот. І гэта, з майго пункту гледжання, не ёсць добра, бо якраз падцягнутасць і азначае, што чалавек здаровы.


Яўген Зуеў у акружэнні мадэляў

І калі зноў жа размаўляць пра фізіялогію, давайце будзем шчырыя. Калі па вуліцы ідзе мужчына, а насустрач яму — дзве жанчыны: адна спартыўная, а другая не. На каго ён зверне ўвагу? Канечне ж, на першую, такая ў нас фізіялогія.

Можа, нейкая дзяўчына ўбачыць наш рэкламны плакат і захоча быць падобнай да мадэлі — не бачу нічога дрэннага ў тым, калі мы матывуем чалавека.

Я не выключаю, што ў будучыні «Мілавіцу» могуць прадстаўляць і мадэлі «плюс сайз».

Не таму, што гэта дыктуе мода, а таму што мы адчуем такія патрэбы аўдыторыі. Мы ў прынцыпе даўно робім стаўку на жанчын з вялікімі памерамі — гэта нашы асноўныя кліенты. У нас шырокі памерны шэраг, якім можа пахваліцца далёка не кожны вытворца.

**Кацярына Карпіцкая**

# Яшчэ адно захапляльнае вяселле ў нацыянальным стылі

У гісторыі кахання бізнэс-аналітыка IT-кампаніі Эміліі Скарабагатай і графічнага дызайнера Алега Зелянкевіча ўсё адбылося як у той песні: «Музыка нас звязала». Прычым звязалі іх менавіта беларускія спевы. Так што ў тым, што ў выніку і вяселле яны зрабілі ў нацыянальным стылі, не было нічога дзіўнага.

Як усё пачалося? Эмілія навучалася ў школе арт-менеджараў «Арт-сядзібы» і ў якасці выпускнога праекта рабіла складанку песень на словы беларускіх паэтаў «Паэты жывуць у песнях». Алег жа ў гэты час меў свой гурт *Wartha*, адна з песень якога была напісаная на словы Янкі Купалы «Паўстань». Ён пагадзіўся на просьбу Эміліі, якая напісала яму, уключыць кампазіцыю ў зборнік, пасля дапамагаў з дызайнам вокладкі і агульным прамоўшнам. Аднак, калі з праектам было скончана, іх камунікацыя прыпынілася. Хто ведае, як яно ўсё скончылася б, калі б хлопец не праявіў ініцыятыву: праз некаторы час Алег прапанаваў Эміліі паўдзельнічаць у стварэнні новай песні ў якасці вакалісткі. Спачатку яны запісалі кампазіцыю для *Wartha*, а хутка распачалі асобны музычны праект *Rahnieda* — металічны гурт, які натхняецца рамантычна-містычнымі вобразамі бацькаўшчыны. Пакуль разам займаліся музыкай, паспелі і закахацца.

«Калі справа дайшла да вяселля, іншых варыянтаў, акрамя як рабіць яго беларускім, не было», — згадвае Эмілія.

Са звычайнымі вяселлямі прасцей у тым сэнсе, што ўжо існуюць нейкія калькі-арыенціры. Тут жа маладым прыйшлося амаль усё прыдумляць самастойна. Праца атрымаўся супертворчы: за паўгода падрыхтоўкі да шлюбнай цырымоніі яны не толькі пазнаёміліся з новымі людзьмі, але і даведаліся шмат цікавага пра беларускія вясельныя традыцыі.





Галоўную ролю на святе грала прырода: пярсцёнкі ляжалі ў скрыні з мохам, брама была з раслін, паўсюль ляжала папараць, а замест століка выкарыстоўваўся пянёк.

«У першую чаргу прыродны краявід нам быў патрэбны для абраду. Яго змест складзены на аснове этнаграфічных матэрыялаў і сучасным досведзе выкарыстання абрадаў у розных галінах культуры. Гэта спроба сумясціць традыцыйны трохдзённы вясельны абрад і 30-хвілінную рэгістрацыю. Мяне выводзіў брат Арцём [пра брата Эміліі нашым чытачам таксама вядома — **НН**], Алега — маці. Апішу коратка, што там адбывалася. Мы ўмывалі рукі — гэта падрыхтоўка да сакральнага дзеяння. Потым нам іх абвязалі поясам і правялі вакол дрэва тры разы. Мы мяняліся пярсцёнкамі. Пілі мядовы напой з аднаго кубка. Спальвалі першы вянок і апраналі другі — сімвал пераходу ў замужняе жыццё. Тушылі вогнішча малаком. У канцы госці абсыпалі нас зернем і хмелем. Усе дзеянні суправаджаліся народнымі спевамі», — расказвае пра абрад дзяўчына.

Сцэнар абраду рыхтавала ўдзельніца гурта *UŁA*, з якім ён і праводзіўся, вядучым быў Франак Вячорка. Прамовы вядучага таксама былі нестандартныя: «А ўжо часіна ды ўжо гадзіна князю ды княгіні на пасад ісці, золатамшоўкам шлях мясці...»

Нявеста надзела звычайную вясельную сукенку з элементамі вышыўкі. Чырвоную аплікацыю разам з поясам стварыла сяброўка Эміліі. Гальштук Алега вырабіла *ETNO manufaktura*. А вось для гасцей ніякага дрэс-кода не было — галоўнае, каб яны не прыходзілі на абцасах, бо для танцаў на траве патрэбны зручны абутак.

«Асаблівым наша вяселле было яшчэ і па прычыне адсутнасці тамады. Шмат каму не падабаюцца дурацкія конкурсы, вечнае гудзенне пра абы-што. Мы ўлічылі гэта і прыбралі непатрэбны элемент. Мы проста адпачывалі і размаўлялі. А каб людзям не было сумна, застолле разбавілі народнымі танцамі, гульнямі, цірам. Таксама ў нас былі хлопцы з рыцарскага клуба, з якімі можна было пастраляць з лукаў і арбалетаў, кідаць сякеры, нажы і нават дзіды».

Ежу Эмілія і Алег таксама падбіралі адпаведную: плоў, прыгатаваны на вогнішчы ў велізарным казане, запечаныя бульбачка і мяса. У сядзібе Верагі, дзе ўсё адбывалася, печка стаіць проста на вуліцы, і ежа гатавалася на месцы.

Пасля асноўнай часткі, бліжэй да ночы, старэйшае пакаленне раз'ехалася, а моладзь засталася на ноч: спяваць беларускія песні пад гітару вакол вогнішча.

У выніку і маладыя, і іх госці былі вельмі задаволеныя тым, што выйшла:

«Гэта нашмат лепш за нейкі стандарт. Па-першае, свята вельмі спадабалася старэйшаму пакаленню: зразумела, што ў нашых бабуль ды дзядуль такіх традыцый ужо не было, але народныя песні і некаторыя часткі абраду ім блізкія. Па-другое, калі такое робіш, ты далучаешся да сакральнага. Ну, і па-трэцяе, вяселле ў такім фармаце — гэта своеасаблівы зварот да каранёў, да мінулага і роднага. А гэта, як нам падаецца, вельмі важна».

**КК**



**Былы старшыня Маладога фронту Зміцер Хведарук ажаніўся з Ганнай Салагуб. Абое — пратэстанты, актыўна ўдзельнічаюць у царкоўным жыцці.**

# Стала вядома, колькі БРСМ заплаціў студэнтам, якія прайшлі «партызанскім парадам» па Мінску

Стала вядома, колькі атрымалі ўдзельнікі рэканструкцыі «партызанскага парада», які прайшоў 24 чэрвеня ў Мінску.

Тады студэнты, апранутыя адпаведна 1940-м гадам, прайшліся па вуліцы Камсамольскай. Задума БРСМ была такая — зрабіць рэканструкцыю легендарнага партызанскага парада 1944 года ў Мінску.

У шэсці бралі ўдзел 7 атрадаў, у кожным па 20—30 чалавек, і, як стала вядома «Нашай Ніве», некаторым з іх заплацілі.

Колькі?

Там былі студэнты, ліцэісты, пэтэвэшнікі: самымі высокааплатнымі сталі студэнты, якія яшчэ і паказвалі нейкі творчы нумар — ім заплацілі 60 рублёў. Ліцэістам перапала менш, пэтэвэшнікі прайшліся за адпрацоўкі.

**АЯ**



SVABODA.ORG

# Святлана Алексіевіч: Усё ж такі

На сайце расійскага агенцтва «Рэгнум» з'вілася жосткае інтэрв'ю з беларускай пісьменніцай Святланай Алексіевіч. Як аказалася пасля, інтэрв'ю агенцтву «Рэгнум», якое мае рэпутацыю чарнасоценскашавіністычнага выдання, перадаў, нягледзячы на рашучую забарону самой Алексіевіч, журналіст іншага выдання — «Делового Петербурга», дзе гутарку адмовіліся друкаваць (пасля эксцэсу аўтара звольняць). Каб вы разумелі, што такое «Рэгнум», нагадаем вам, што тры аўтары гэтага партала знаходзяцца ў Беларусі пад следствам па падазрэнні ў распальванні міжнацыянальнай варожасці і незаконным прадпрымальніцтве.

Алексіевіч, калі сутыкнулася з правакацыйнымі пытаннямі, давала рэзкія і адэкватныя адказы. Зразумеўшы, што мэта аўтара — правакацыя, яна забараніла публікацыю гутаркі. Тым не менш «Рэгнум» даў яе ў поўным выглядзе.

Для разумення варта дадаць, што інтэрв'ю адбылося ў Пецярбургу, куды Алексіевіч ездзіла для выступу, ён адбыўся, дарэчы, пры Эрмітажы. Перад тым нобелеўская лаўрэатка з вялікім поспехам выступіла ў «Гогальцэнтры» ў Маскве. Быў аншлаг, публіка прымала яе прыязна, хоць яна адкрыта назвала захоп Крыма анексіяй і ўсклала віну за вайну ў Данбасе на Расію. Відаць, выступы Алексіевіч у Маскве і Піцеры і сталі прычынай гэтага правакацыйнага інтэрв'ю, а таксама званка звязаных з расійскімі ўладамі пранкераў [тыя, хто разыгрывае па тэлефоне], якія выдалі перад Алексіевіч сябе за міністра культуры Украіны. Пасля гэтага быў дадзены сігнал так званым інтэрнэт-ботам, і ў сеціве пачалася масіраваная кампанія ачарнення беларускай пісьменніцы.

Паколькі гутарка ўжо выйшла ў інтэрнэт і стала, так бы мовіць, *fait accompli*, ажыццёўленым фактам, то, нягледзячы на першасную забарону Алексіевіч, прапануем вам тэкст размовы і тут, вы атрымаеце інтэлектуальную асалоду.



**Якая ж Расея свабодная? Некалькі адсоткаў насельніцтва валодаюць усім багаццем, астатнія засталіся ні з чым**

**— Чамусьці так атрымліваецца, што звычайна інтэрв'ю робяць з людзьмі, з якімі ў цэлым згодныя. Умоўна кажучы, вас не паклічуць на Першы канал, бо яны з вамі не згодны…**

— ... а на «Дождь» паклічуць ...

**— … а на «Дождь» паклічуць, але спрачацца з вамі не будуць. Я вам хачу сумленна сказаць, што па пераважнай большасці пытанняў я цалкам не згодны з вашай пазіцыяй.**

— Давайце, мне здаецца, гэта павінна быць цікава.

**— Вось менавіта. Бо гэта і ёсць дыялог.**

— Так, цікава даведацца вобраз чалавека, які знаходзіцца па той бок, даведацца, што ў яго ў галаве.

**— Добра. Некаторы час таму вы далі нашумелае інтэрв'ю пра тое, што ў Беларусі можа пачацца рэлігійная вайна паміж праваслаўнымі і каталікамі, бо «чалавеку можна ўкласці ў галаву ўсё што заўгодна». А вам таксама можна ўкласці?**

— Мая прафесія — рабіць так, каб не ўклалі. Нейкая частка людзей жыве свядома, здольная сябе абараніць, здольная разумець, што адбываецца навокал. А большасць людзей проста нясе хваляй, і яны жывуць у банальнасці.

**— Ці не падаецца вам, што ў нашай частцы зямнога шара такіх людзей больш?**

— Я думаю, у нас як усюды. І ў Амерыцы тое ж самае, інакш адкуль бы ўзяўся Трамп. Калі ты маеш справу з сярэднім чалавекам, слухаеш, што ён кажа. Гэта не заўсёды прымушае любіць людзей. Таму так усюды, гэта не толькі руская рыса.

Проста мы цяпер знаходзімся ў такім стане, калі грамадства страціла арыенціры. І паколькі мы краіна войнаў і рэвалюцый, і галоўнае ў нас — культура вайны і рэвалюцый, то любая гістарычная няўдача (тыпу перабудовы, калі мы рвануліся, хацелі быць як усе) — як толькі здарылася няўдача, паколькі грамадства было не гатова да гэтага, куды мы вярнуліся? Мы вярнуліся ў тое, што мы ведаем. У ваенны, мілітарысцкі стан. Гэта наш нармальны стан.

**— Я, шчыра кажучы, гэтага не заўважаю. Ні ў знаёмых, ні ў незнаёмых людзях я не бачу ніякай агрэсіі або ваяўнічасці. Што маецца на ўвазе пад мілітарызмам?**

— Калі б людзі былі іншымі, яны б усе выйшлі на вуліцу — і вайны ва Украіне не было б. А ў дзень памяці Паліткоўскай было б столькі ж людзей, колькі я бачыла ў дзень яе памяці на вуліцах Парыжа. Там было 50, 70 тысяч чалавек. А ў нас — не. А вы кажаце, што ў нас нармальнае грамадства. У нас нармальнае грамадства дзякуючы таму, што мы жывём сваім колам. Мілітарызм — гэта не калі ўсе гатовыя забіваць. Але, тым не менш, аказалася, што гатовыя.

У мяне бацька — беларус, а маці — украінка. Я частку дзяцінства правяла ў бабулі ва Украіне і вельмі люблю ўкраінцаў, ува мне ўкраінская кроў. І ў страшным сне нельга было ўявіць, што рускія будуць страляць ва ўкраінцаў.

**— Спачатку там адбыўся дзяржаўны пераварот.**

— Не, гэта быў не дзяржаўны пераварот. Гэта глупства. Вы шмат глядзіце тэлевізар.

**— Я там нарадзіўся.**

— Гэта быў не дзяржаўны пераварот. Гэта добра працуе рускае тэлебачанне. Дэмакратам трэба было б так скарыстацца тэлебачаннем, яны недаацанілі. Сённяшняя ўлада ўкладвае ў свядомасць тое, што ёй трэба. Гэта быў не пераварот. Вы не ўяўляеце, якая беднасць была вакол ...

**— Уяўляю.**

— ... як там кралі. Змена ўлады была жаданнем людзей. Я была ва Украіне, хадзіла ў музей «нябеснай сотні», і простыя людзі мне расказвалі пра тое, што там было. У іх два ворагі — Пуцін і ўласная алігархія, культура хабарніцтва.

**— У Харкаве ў мітынгу ў падтрымку Майдану бралі ўдзел трыста чалавек, а супраць Майдану — сто тысяч. Потым ва Украіне адкрылі пятнаццаць турмаў, у якіх сядзіць некалькі тысяч чалавек. А прыхільнікі Майдану ходзяць з партрэтамі відавочных фашыстаў.**

— А ў Расеі няма людзей, якія ходзяць з партрэтамі фашыстаў?

**— Яны не знаходзяцца ва ўладзе.**

— Ва Украіне яны таксама не знаходзяцца ва ўладзе. Парашэнка і іншыя — не фашысты. Вы разумееце, яны хочуць аддзяліцца ад Расеі, ісці ў Еўропу. Гэта ёсць і ў Прыбалтыцы. Супраціў прымае жорсткія формы. Потым, калі яны сапраўды стануць незалежнай і моцнай дзяржавай, гэтага не будзе. А цяпер яны валяць камуністычныя помнікі, якія і нам варта было б паваліць, выганяюць тэлевізійныя праграмы. А што, яны будуць глядзець Салаўёва і Кісялёва?

**— Яны і глядзяць, у інтэрнэце. І трафік ані не паменшыўся.**

— Не, гэта глядзіць нейкая частка людзей, але не народ.

**— Ды як вам сказаць: трафік расійскіх каналаў перавышае трафік украінскіх.**

— Ну што яны глядзяць? Не палітычныя праграмы.

**— Жыццё ва Украіне стала бяднейшым — гэта факт. І свабоды слова там стала нашмат менш — гэта таксама факт.**

— Не думаю.

**— Вы ведаеце, хто такі Алесь Бузіна?**

— Якога забілі?

**— І такіх прыкладаў сотні.**

— Але тое, што ён казаў, таксама выклікала жорсткасць.

**— То бок такіх трэба забіваць?**

— Я гэтага не кажу. Але я разумею матывы людзей, якія гэта зрабілі. Гэтак жа, як мне зусім не падабаецца, што забілі Паўла Шарамета, які любіў Украіну. Мабыць, былі нейкія разборкі ці нешта.

**— Вы знаходзіце для іх вельмі шмат апраўданняў.**

— Гэта не апраўданні. Я проста ўяўляю, што Украіна хоча будаваць сваю дзяржаву. Па якім праве Расія хоча там наводзіць парадак?

**— Вы былі на Данбасе пасля таго, як там пачалася вайна?**

— Не. Я там не была. Калі пачалася вайна, справядлівасці ўжо не шукай. Па-мойму, Стралкоў казаў, што ў першы тыдзень людзям было вельмі цяжка страляць адзін у аднаго, што прымусіць людзей страляць было амаль немагчыма. А потым пачалася кроў. Тое ж можна сказаць і пра Чачню.

**— Нават калі пагадзіцца з пазіцыяй (хоць я з ёй цалкам не згодны), што людзі ў Кіеве «выйшлі самі»: пасля гэтага людзі ў Данецку таксама выйшлі самі, без зброі, іх не сталі слухаць, іх спрабавалі разганяць, і потым яны выйшлі са зброяй. І тыя, і другія выйшлі адстойваць свае ўяўленні аб правільным. Чаму дзеянні першых магчымыя, а другіх — не?**

— Вы тое ж самае рабілі ў Чачні, каб захаваць дзяржаву. А калі ўкраінцы сталі бараніць сваю дзяржаву, вы раптам успомнілі аб правах чалавека, якія на вайне не выконваюцца. Вы, рускія, у Чачні паводзілі сябе яшчэ горш.

Я не палітык. Але калі ставіцца пад пытанне цэласнасць дзяржавы, гэта праблема палітыкі. Калі туды ўводзяць чужыя войскі і пачынаюць на чужой тэрыторыі наводзіць парадкі. Па якім праве Расія ўвайшла ў Данбас?

**— Вы ж там не былі.**

— Я таксама, як і вы, гляджу тэлевізар і чытаю тых, хто пра гэта піша. Сумленных людзей. Калі Расія туды ўвайшла, што вы хацелі — каб вас там сустрэлі з букетамі кветак? Каб улада вам там узрадавалася? Калі вы ўвайшлі ў Чачню, дзе Дудаеў хацеў зрабіць свае парадкі, сваю краіну — што зрабіла Расея? Спрасавала.

**— Вы сказалі, што вы не палітык. Вы — пісьменнік. Мне здаецца відавочным, што цяперашняя барацьба ўкраінскай дзяржавы з расійскай мовай — гэта галоўная прэтэнзія, якую да іх прад'явяць. Дзесяць гадоў таму агенцтва *Gallup* праводзіла даследаванне аб тым, колькі працэнтаў насельніцтва Украіны думаюць па-руску…**

— Я ўсё гэта ведаю. Але цяпер яны вучаць украінскую і англійскую.

**— …Зрабілі яны гэта вельмі проста: раздавалі анкеты на дзвюх мовах, украінскай і рускай. Хто на якой мове ўзяў — той на такой і думае. 83% жыхароў Украіны думаюць на рускай мове.**

— Што вы хочаце гэтым сказаць? Іх русіфікавалі за семдзесят гадоў, гэтак жа, як і беларусаў.

**— Вы хочаце сказаць, што людзі, якія жылі ў Адэсе або Харкаве, калі-небудзь думалі па-ўкраінску?**

— Я не ведаю, як у вас, а ў нас у Беларусі з дзесяці мільёнаў чалавек пасля вайны засталося шэсць

# «яны». Ужо «яны», на жаль

з нечым мільёнаў. І заехала каля трох мільёнаў рускіх. Яны да гэтага часу там. І была такая ідэя, што няма Беларусі, што ўсё гэта — вялікая Расея. Дакладна гэтак жа і ва Украіне. Я ведаю, што людзі тады вучылі ўкраінскую мову. Гэтак жа, як цяпер у нас яны вучаць беларускую, верачы, што калісьці наступяць новыя часы.

**— То бок можна забараняць людзям гаварыць на той мове, на якой яны думаюць?**

— Ну вы ж забаранілі ў Расіі размаўляць на беларускай.

**— Хто забараніў?**

— Ну як жа! Вы ведаеце толькі свой верхні кавалачак. Пачынаючы з 1922 года ў Беларусі стала знішчалася інтэлігенцыя.

**— Пры чым тут 1922 год? Мы з вамі жывём сёння, у 2017 годзе.**

— Адкуль усё бярэцца? Адкуль русіфікацыя ўзялася? Ніхто не размаўляў у Беларусі на рускай мове. Гаварылі ці на польскай, ці на беларускай. Калі Расія ўвайшла і прысвоіла сабе гэтыя землі, Заходнюю Беларусь, першае правіла было — руская мова. І ні адзін універсітэт, ні адна школа, ні адзін інстытут у нас не размаўляе па-беларуску.

**— Гэта значыць, у вашым разуменні гэта помста за падзеі стагадовай даўніны?**

— Не. Гэта было старанне русіфікаваць, зрабіць Беларусь часткай Расіі. І дакладна гэтак жа зрабіць Украіну часткай Расеі.

**— Палова тэрыторыі, якая цяпер уваходзіць у склад Украіны, ніколі не была ніякай «Украінай». Гэта была Расійская Імперыя. І пасля рэвалюцыі 1917 года там, наадварот, украінялася ўкраінская культура.**

— Ну вось вы нічога не ведаеце, акрамя свайго маленькага кавалачка часу, які вы заспелі і ў якім вы жывяце. Палова Беларусі ніколі не была Расеяй, яна была Польшчай.

**— Але другая палова была?**

— Другая частка была, але ніколі не хацела там быць, вы сілком трымалі. Я не хачу пра гэта казаць, гэта такі набор мілітарысцкіх банальнасцяў, што я не хачу гэта слухаць.

**— Вы кажаце, што калі сто гадоў назад (на вашую думку) украінялася руская культура — гэта было дрэнна, а калі сёння насаджаецца ўкраінская культура — гэта добра.**

— Яна не насаджаецца. Гэта дзяржава хоча ўвайсці ў Еўропу. Яна не хоча жыць з вамі.

**— Для гэтага трэба адмяніць рускую мову?**

— Не. Але, можа быць, на нейкі час і так, каб сцэментаваць нацыю. Калі ласка, гаварыце па-руску, але ўсе навучальныя ўстановы будуць, вядома, па-ўкраінску.

**— То бок можна забараняць людзям гаварыць на той мове, на якой яны думаюць?**

— Так. Гэта заўсёды так. Гэта ж вы гэтым займаліся.

**— Я гэтым не займаўся.**

— Расія. Яна толькі гэтым і займалася на занятых тэрыторыях, нават у Таджыкістане прымушала людзей размаўляць на рускай мове. Вы болей даведайцеся, чым займалася Расія апошнія дзвесце гадоў.

**— Я вас пытаюся не пра дзвесце гадоў. Я вас пытаюся пра сёння. Мы жывём сёння.**

— Іншага спосабу зрабіць нацыю няма.

**— Зразумела. Вы ў многіх інтэрв'ю казалі, што вашы знаёмыя з асцярогай глядзелі і глядзяць на тое, што адбываецца на Майдане, і што эвалюцыйныя шлях развіцця, безумоўна, лепшы. Вы, напэўна, мелі на ўвазе перш за ўсё Беларусь, але, напэўна, і Расею таксама? Як вы ўяўляеце, як павінен выглядаць гэты эвалюцыйны шлях, што тут патрабуецца?**

— Патрабуецца рух самога часу. Гледзячы на пакаленні, якія прыйшлі пасля таго пакалення, якое чакала дэмакратыі, я бачу, што прыйшло вельмі сервільнае пакаленне, зусім несвабодныя людзі. Вельмі шмат прыхільнікаў Пуціна і ваеннага шляху. Так што цяжка казаць, праз колькі гадоў Беларусь і Расея ператворацца ў вольныя краіны.

Але рэвалюцыю як шлях я не прымаю. Гэта заўсёды кроў, а да ўлады прыйдуць усё тыя ж людзі, іншых людзей пакуль няма. У чым праблема дзевяностых гадоў? Не было свабодных людзей. Гэта былі тыя ж камуністы, толькі з іншым знакам.

**— А што такое свабодныя людзі?**

— Ну, скажам, людзі з еўрапейскім поглядам на рэчы. Больш гуманітарныя. Якія не лічылі, што можна краіну раздзярбаніць, а народ пакінуць ні з чым. А вы хочаце сказаць, што Расея свабодная?

**— Я пытаюся ў вас.**

— Якая яна вольная? Некалькі адсоткаў насельніцтва валодаюць усім багаццем, астатнія засталіся ні з чым. Свабодныя краіны — гэта, напрыклад, Швецыя, Францыя, Нямеччына. Украіна хоча быць свабоднай, а Беларусь і Расея — не. Колькі людзей выходзіць на акцыі Навальнага?

**— То бок вольныя людзі, якія прытрымліваюцца еўрапейскага погляду на рэчы?**

— Так. Там свабода зрабіла вялікі шлях.

**— А калі чалавек прытрымліваецца не еўрапейскай карціны свету? Да прыкладу, у яго ёсць паняцце талерантнасці, і ці можа быць свабодным артадаксальны праваслаўны, які не лічыць, што талерантнасць — гэта правільна?**

— Не трэба так прымітыўна. Вера чалавека — гэта яго праблема. Як я хадзіла ў Францыі паглядзець рускую царкву, там было шмат праваслаўных людзей. Ніхто іх не чапае, але і яны не навязваюць іншым свой погляд на жыццё, як гэта адбываецца тут. Там зусім іншыя святары, царква не спрабуе стаць уладай і не прыслугоўвае ўладзе. Пагаварыце з любым еўрапейскім інтэлігентам, і вы ўбачыце, што вы — куфар, набіты забабонамі.

**— Я жыў на працягу года ў Італіі, і дзевяноста адсоткаў інтэлігентаў, якіх я сустракаў, адчуваюць велізарную сімпатыю да левых ідэй і да прэзідэнта Расеі.**

— Такія людзі ёсць, але не ў такой колькасці. Гэта яны так на вас рэагавалі, бо ўбачылі рускага з радыкальнымі поглядамі. У Пуціна там не такая вялікая падтрымка, як вы думаеце. Проста ёсць праблема левых. Гэта не значыць, што Лё Пэн — гэта тое, што хацела і хоча Францыя. Дзякуй богу, што Францыя перамагла.

**— Чаму «Францыя перамагла»? А калі б выйграла Лё Пэн, Францыя б прайграла?**

— Вядома. Гэта быў бы яшчэ адзін Трамп.

**— Але чаму «Францыя прайграла», калі б большасць французаў прагаласавала за яе?**

— Пачытайце яе праграму.

**— Я чытаў іх абедзве. У праграме Макрона няма нічога, акрамя агульных слоў пра тое, што «мы павінны жыць лепш».**

— Не. Макрон — гэта сапраўды свабодная Францыя. А Лё Пэн — гэта нацыяналістычная Францыя. Дзякуй богу, што Францыя не захацела такой быць.

**— Нацыяналістычная не можа быць свабоднай?**

— Проста яна прапанавала крайні варыянт.

**— У адным з інтэрв'ю вы сказалі: «Учора я ішла па Брадвеі — і бачна, што кожны — асоба. А ідзеш па Мінску, Маскве — ты бачыш, што ідзе народнае цела. Агульнае. Так, яны пераапрануліся ў іншую вопратку, яны ездзяць на новых машынах, але толькі яны пачулі кліч баявы ад Пуціна «Вялікая Расія» — і зноў гэта народнае цела». Вы сапраўды так сказалі?**

— Так, я гэта сказала. Але сказала са спасылкай на філосафа Лявонцьева. Я дзесьці прачытала гэтую яго цытату. Але, як заўсёды ў журналістыцы, гэтую частку адказу адкінулі.

**— Я не буду нічога адкідаць.**

— Але там, сапраўды, ты ідзеш і бачыш, што ідуць свабодныя людзі. А ў нас, нават тут, у Маскве, бачна, што людзям вельмі цяжка жыць.

**— То бок вы згодныя з гэтай цытатай па стане на сёння?**

— Абсалютна. Гэта бачна нават на пластыцы.

**— Вось гэтая дзяўчына, бармэн у кафэ, дзе мы сядзім, — яна не свабодная?**

— Перастаньце, пра што вы кажаце.

**— Вось вам рэальны чалавек.**

— Не, яна не свабодная, я думаю. Яна не можа, напрыклад, вам у вочы сказаць, што яна пра вас думае. Або пра гэту дзяржаву.

**— Чаму вы так думаеце?**

— Не, яна не скажа. А там — любы чалавек скажа. Возьмем мой выпадак. Калі мне далі Нобелеўскую прэмію, то (такі этыкет ва ўсіх краінах) я атрымала віншаванні ад прэзідэнтаў многіх краін. У тым ліку ад Гарбачова, ад прэзідэнта Францыі, канцлера Германіі. Потым мне сказалі, што рыхтуецца тэлеграма Мядзведзева.

Але на першай прэсканферэнцыі, калі мяне спыталі пра Украіну, я сказала, што Крым акупаваны, а на Данбасе Расія развязала вайну з Украінай. І што такую вайну можна развязаць ўсюды, таму што гарачых вугляў паўсюль шмат. І мне сказалі, што тэлеграмы не будзе, таму што гэтую маю цытату круціла «Эхо Москвы».

Да Трампа ў Амерыцы такое было немагчыма. Ты мог быць супраць вайны ў В'етнаме, супраць чаго заўгодна, але калі ты атрымаў Нобелеўскую прэмію, цябе віншуе прэзідэнт, таму што гэта гонар гэтай культуры. А ў нас пытаюцца: ты ў гэтым лагеры або ў тым лагеры?

**— Вы часам кажаце пра Расею «мы», а часам «яны». Дык усётакі «мы» або «яны»?**

— Усё ж такі «яны». Ужо «яны», на жаль.

**— Але тады гэта прэм'ерміністр не вашай дзяржавы, чаму ён абавязкова павінен вас віншаваць?**

— Але мы ж лічымся Саюзнай дзяржавай. Мы яшчэ вельмі цесна звязаныя. Мы яшчэ не адарваліся, і хто нас адпусціць. Хоць бы мы і хацелі адарвацца.

**— Дык, значыць, «яны»?**

— Пакуль яшчэ — «мы». Я ўсё ж такі чалавек рускай культуры. Я пісала пра гэты час, пра ўсё гэта на рускай мове, і я, вядома, была б рада яго тэлеграме. У маім разуменні, ён павінен быў яе даслаць.

**— Вам уручылі Нобелеўскую прэмію амаль два гады таму. Як вам цяпер здаецца: за што менавіта вы яе атрымалі?**

— Гэта трэба спытаць у іх. Калі б вы закахаліся ў нейкую жанчыну, а яна — у вас, пытанне аб тым, «за што яна цябе палюбіла», гучала б смешна. Гэта было б дурное пытанне.

**— Але тут усё ж рашэнне прымалася не на ўзроўні пачуццяў, а рацыянальна.**

— Мне казалі: «Ну, вы, напэўна, даўно ўжо чакалі Нобелеўскую прэмію». Але я не была такім ідыётам, каб сядзець і чакаць яе.

**— А калі б Нобелеўскі камітэт у вас аднойчы спытаў, каму яшчэ з аўтараў, якія пішуць па-руску, варта было б уручыць прэмію, каго б вы назвалі?**

— Вольгу Седакову. Гэта чалавек, які адпавядае майму разуменню таго, што такое пісьменнік. Сёння гэта вельмі важная фігура ў рускай літаратуры. Яе погляды, яе паэзія, яе эсэ — усё, што яна піша, кажа пра тое, што яна — вельмі вялікі пісьменнік.

**— У сувязі з вашымі кнігамі я хачу вярнуцца да данбаскай тэмы, але не ў палітычным плане. Многія вашы кнігі — пра вайну і пра людзей на вайне. Але на гэтую вайну вы не едзеце.**

— Не ездзіла і не паеду. І ў Чачню я не ездзіла. Аднойчы мы размаўлялі пра гэта з Паліткоўскай. Я сказала ёй: «Аня, я больш не паеду на вайну». Папершае, у мяне няма ўжо фізічных сіл бачыць забітага чалавека, бачыць чалавечае вар'яцтва. Акрамя таго, усё, што я зразумела пра гэта чалавечае вар'яцтва, я ўжо сказала. У мяне няма іншых ідэй. А пісаць яшчэ раз тое ж самае, што я ўжо напісала, — які сэнс?

**— Вы не лічыце, што ваш погляд на гэтую вайну можа змяніцца, калі вы туды прыедзеце?**

— Не. Там ёсць украінскія, рускія пісьменнікі, якія пра гэта пішуць.

**— Але ж вы адказваеце на пытанні, кажаце пра гэтыя падзеі.**

— Гэта адбываецца ў іншай краіне. І я магу адказваць на гэтыя пытанні як мастак, а не як удзельнік. Для таго, каб пісаць такія кнігі, як пішу я, трэба жыць у краіне, пра якую ідзе гаворка. Гэта павінна быць твая краіна. Савецкі Саюз — гэта была мая краіна. А там я многіх рэчаў не ведаю.

**— Я маю на ўвазе не столькі напісанне кніг, колькі разуменне таго, што там адбываецца.**

— Вы хочаце мне сказаць, што там страшна? Там тое ж самае, што было ў Чачні.

**— Вы ж там не былі.**

— Тады, дзякуй Богу, паказвалі праўду па тэлевізары. Ніхто не сумняваецца ў тым, што там кроў і што там плачуць.

**— Я пра іншае. Людзі, якія жывуць на Данбасе, упэўненыя ў сваёй праўдзе. Гэта звычайныя людзі, і яны падтрымліваюць уладу апалчэнцаў. Можа быць, калі б вы іх убачылі, вы б іх неяк па-іншаму зразумелі? Яны таксама людзі.**

— Руская з такім жа поспехам могуць увесці свае войскі ў Прыбалтыку, паколькі там шмат незадаволеных рускіх. Вы лічыце правільным, што вы ўзялі і ўвайшлі ў чужую краіну?

**— Я лічу правільным, што на працягу 23 гадоў няпісаным законам у дзяржаве Украіна было прызнанне таго, што там ёсць і руская культура, і ўкраінская. І гэты баланс больш ці менш выконваўся пры ўсіх прэзідэнтах…**

— Так і было, пакуль вы туды не ўвайшлі.

**— Гэта няпраўда. Узімку 2013 года, да Крыма, мы пачулі, куды варта адправіць «маскаляку». А ў лютым 2014 года, адразу пасля дзяржаўнага перавароту, да усякіх Крымаў, мы ўбачылі праекты законаў супраць выкарыстання рускай мовы. Людзі, якія жывуць у [паўднёва-ўсходняй частцы краіны], лічаць сябе рускімі і не лічаць Бандэру героем. Яны выйшлі пратэставаць. А вы чамусьці лічыце, што людзі, якія жывуць у Кіеве, маюць права на пратэст, а тыя, хто жыве на ўсход ад, такога права не маюць.**

— А хіба там былі не рускія танкі, не руская зброя, не расейцы-кантрактнікі? Бздура ўсё гэта. Калі б не было вашай зброі, там бы не было вайны. Таму не дурыце мне галаву гэтым глупствам, якім забітая ваша галава. Вы так лёгка паддаяцеся ўсякай прапагандзе. Так, там боль, там страх. Але гэта на вашым сумленні, на сумленні Пуціна. Вы ўварваліся ў чужую краіну, на якой падставе? У інтэрнэце мільён здымкаў, як ходзяць туды руская тэхніка. Усе ведаюць, хто збіў [боінг] і ўсё іншае. Давайце ўжо заканчваць ваша ідыёцкае інтэрв'ю. У мяне ўжо няма сіл на яго. Вы проста набор прапаганды, а не разумны чалавек.

**— Добра. У інтэрв'ю газеце *El País* вы сказалі, што нават савецкая прапаганда не была такой агрэсіўнай, як цяпер.**

— Абсалютна. Паслухаць гэты ідыятызм Салаўёва і Кісялёва. Я не ведаю, як гэта магчыма. Яны ж самі ведаюць, што кажуць няпраўду.

**— У тым жа інтэрв'ю вы сказалі, што царква не абмяжоўваецца забаронай тэатральных работ і кніг.**

— Так, яна лезе туды, дзе ёй няма чаго рабіць. Гэта не яе праблемы, якія ставіць спектаклі, што здымаць. Хутка будзем ужо дзіцячыя казкі забараняць, паколькі там нібыта ёсць сэксуальныя моманты. Вельмі смешна збоку глядзець, у якім вы знаходзіцеся вар'яцтве.

**— На слыху дэпутаты Дзярждумы, якія змагаюцца з мастацкімі фільмамі, а якія менавіта забароны з боку царквы вы маеце на ўвазе?**

— Ды колькі заўгодна. Усе гэтыя праваслаўныя, якім здаецца, што Сярэбраннікаў нешта не тое ставіць, Табакоў нешта не тое робіць. Не рабіце выгляд, што вы не ведаеце. У Новасібірску забаранілі спектакль.

**— Вы лічыце, гэта агульнацаркоўная пазіцыя?**

— Я думаю, гэта нават ідзе знізу. Ад гэтай цемры, ад гэтай пены, якая сёння паднялася. Вы ведаеце, мне не падабаецца наша інтэрв'ю, і я вам яго забараняю друкаваць.

# Радыкальныя элементы чыста беларускага хараства

Аляксандра Баярына.
Запісы.

*Многія людзі цяпер штодзёна штосьці пішуць у інтэрнэце, у сацыяльных сетках, як некалі вялі дзённікі на паперы. Калі збіраеш фэйсбучныя запісы ў адно, атрымліваецца тэкст зусім іншага маштабу. Яны як мазкі, што складаюцца ў карціну.*

*Сама яна архітэктарка, дызайнерка, стылёвая і цэльная да апошняга гузіка і цвіка. Разам з мужам, будаўніком і дызайнерам Вадзімам Пракопчыкам, нават жытло яны сабе выбралі проста над Нацыянальным мастацкім музеем у самым цэнтры Мінска. Аляксандра Баярына — чалавек, які нязмушана, але паслядоўна збірае ўсё, што датычыць сапраўдна беларускай эстэтыкі, дэталі хараства. Дарэчы, яна сястра філосафа, паэтагерметыка і перакладчыка з санскрыту на беларускую Міхася Баярына.*

*Аляксандра Баярына — гэта і філосаф, і эстэт, і жывы практычны чалавек у адным, выдатная наша сучасніца. І ўсё гэта пераплецена ў адным інтэрнэт-дзённіку, у якім можна зазірнуць у жыццё іншага чалавека. Аляксандра з мужам гадуе дваіх — ужо дваіх, другое нарадзілася ў самым канцы чэрвеня, — дзяцей. Старэйшая, два гады, Яніна Марыя, а меншага назвалі Ян Караль.*




### 17 мая

Рантам аказалася, што беларусы зарабляюць і будуць зарабляць менш за кітайцаў. То бок з хваста Расіі нас пераўтварылі ў хвост сусвету?

* * *



Спраектавала агародзік для нашага лецішча. На прыступках буду сядзець я з кубкам кавы, справа і злева будуць матляцца злакавыя расліны. З адваротнага боку будуць ляжаць мае кабачкі, тырчаць базілік «долі», кропы да салаты. Муж зарубіў, патрабуе больш аўтэнтычнага развязання з выкарыстаннем традыцыйных элементаў. Сяджу, думаю: прыбраць трэндавыя брусочкі ці мяне з кубкам кавы, бо піць каву у агародзе не аўтэнтычна?

### 18 мая

Беларусь па плошчы — як Швейцарыя, Нідэрланды, Данія, Бельгія, Малдова, Македонія разам узятыя. А мы працягваем лічыць сябе маленькімі. А гэта проста не адпавядае рэчаіснасці. Лічыць Беларусь маленькай можа толькі імперац з замахам на памеры Расіі ці ЗША.

* * *

«Усё хатняе здаецца найлепшым і найпрыгажэйшым, адзіным у свеце, што стаіць на мяжы дасканаласці» — Ян Булгак, «Край дзіцячых гадоў».

І такога кшталту прыгожых сказаў яшчэ 400 старонак. Не кніга, а жывапіс.

А вось да пытання патрэбнасці экспарту ў Беларусі: [тут людзі] «прытрымліваліся старога вясковага правіла, што за грошы купляюць толькі соль і жалеза, а ўсё астатняе трэба мець самім, хатняй вытворчасці».

Успаміны выбітнага беларускага фатографа Булгака — неймаверны па эмацыйнасці, паэтычнасці і адценнях тэкст!

### 19 мая

Тыя пры ўладзе, хто займаецца знішчэннем апазіцыі, кепска вучыліся ў школе, не тое што ва ўніверсітэце. Так неадукавана думаць, што знішчэнне невялікай колькасці няправільна думаючых грамадзян можа прывесці да стану, калі такіх грамадзян больш не будзе. Не будзе гэтых, адразу паўстануць новыя, і паўстануць з самых, здавалася б, ціхіх і неактыўных. Рускамоўнае насельніцтва, якому ні разу не блізкія ідэі незалежнасці краіны, выдасць вам новых апазіцыянераў у асобах сваіх дзяцей. І нічога вы з гэтым зрабіць не зможаце. Дзеці шунявак папоўняць шэрагі апазіцыі, і вы нічога з гэтым зрабіць не зможаце. Здавайцеся, карацей, не трымайцеся за дурную нежыццяздольную ідэю вынішчэння беларускага з беларускай зямлі, схавайце сваю неадукаванасць, пераступіце праз яе. Не будзьце дабрэйшымі і чалавечнейшымі, дастаткова стаць больш адукаванымі.

* * *

Пачытала пра стаўленне Навадворскай да Пазняка. Яна лічыла сімвалам Беларусі Кастуся Каліноўскага і лічыла, што палітычны лідар мусіць жыць згодна з вершам «Пагоня» [Максіма Багдановіча], шукаць смерці ў барацьбе за свабоду на Радзіме. На яе погляд, Пазняк павінен быў усе гэтыя гады па турмах сядзець і памерці, калі прыйдзецца.

Для мяне тут нейкі канфлікт, можа, нават гістарычных пазіцый. Караткевіч апісаў, наколькі важным было шляхціцу не зазнаць цягам жыцця ніякіх выпадкаў гвалту над сабой. З самага нараджэння рука дарослых не падымалася на дзяцей. Што гаварыць пра гвалт ад асобаў, якія ніжэйшыя за цябе па ўзроўні развіцця і грамадскай іерархіі! Годнасць бераглі і песцілі, адзін выпадак мог паламаць шляхціцу жыццё.

Гэта падобна да стаўлення да дзяўчыны, гонар якой таксама быў аднаразовы. Ці яна захоўвала яго і песціла ўсё жыццё, ці аднагасова губляла і больш ніколі ў вачах грамадства не падымалася з новага статусу нягоднай, скажам так.

Пазіцыі гэтыя старамодныя, глыбока традыцыйныя, не адпавядаюць сучаснаму стылю жыцця «з кім хачу, з тым сплю, вас не запытала».

Пазняк гарманічны цалкам у гэтым традыцыйным стане сваіх меркаванняў і перакананняў. Мне гэта імпануе.

* * *

У кожнага свой выбар і свой шлях. І ўсе шляхі патрэбны.

### 22 мая

Пішуць, што затрыманых катуюць за кратамі. Не сумняюся, бо ім патрэбна прызнанне, каб кагосьці пасадзіць. Такая сістэма, такія метады. Кагосьці з пустым позіркам трэба паказаць за кратамі на судовым працэсе, каб падмацаваць усяго толькі адзін недарэчны ляп кіраўніцтва.

У думках пасылаеш хлопцам сіл і трываласці і ідзеш далей з дзіцячым вядзеркам у руках. Сядзіш на арэлях, чытаеш фэйсбук, пакуль тата катае дачушку з горкі, думаеш, што прыгатаваць на вячэру. Эх.

* * *

Нядаўна прачытала, што лідары дзейнічаюць, а блогеры рэагуюць. Цяпер увесь час звяртаю ўвагу на рэплікі пад статусамі сяброў, дзе невядомыя «злачынцы» спрабуюць перашкодзіць блогерам рэагаваць.

Блогеры, не слухайце іх, рэагуйце. Хай яны дзейнічаюць, калі яны такія лідары, а не займаюцца рэагаваннем на рэагуючых.

* * *

У Маскве ніхто кошты на будаўнічыя і аздабленчыя працы для рэалізацыі дызайн-праекта інтэр'еру не распісвае. Ніхто не падлічвае колькасць швоў для падрэзкі пліткі і ўсё астатняе, нават не істотна, будзе фарба ці шпалеры. Прарабы выстаўляюць кошт за квадратны метр плошчы. Толькі закуп матэрыялаў ідзе з падрабязнымі лічбамі. Мне падабаецца такі падыход. А то ў нас ніхто ніколі не ведае, на якую суму рэалізацыя выйдзе ў выніку.

І так працуем мы, дызайнеры, выстаўляем кошт за метр плошчы. Часам працы аказваецца куды болей, чым планаваў, але лічбы ўжо не мяняеш.

### 23 мая

«Перастану грашыць, калі Бог пакліча і бабла падкіне», — напісаў Валера Краснагір. Дарэчы, сябравалі мы на ФБ з Аляксандрам Бежэлевым. І ён нам казаў: вось зрабілі б нармальныя мульты для дзяцей па-беларуску, каб з героямі адметнымі былі, тады, можа, і зрабіў бы ён крок у бок мовы. Але потым аказалася, што проста раздражняем мы яго сваёй мовай і пазіцыяй, і ён хацеў бы жыць далей так, як жыве. Але я стаўлюся да ўсяго гэтага некатэгарычна. Сёння — не, заўтра — так.

### 3 чэрвеня

Пытанне пра электрычнасць. Аказваецца, галоўная праблема садовых таварыстваў — нехта ўвесь час крадзе электрычнасць. Па лічыльніках адны паказнікі, а па факце электрычнасці таварыства з'ела куды больш. І ніхто не можа гэтую праблему вырашыць, скрадзеную электрычнасць аплачваюць з грамадскіх грошай і абмяжоўваюцца заклікамі плаціць і не красці.

Можа, хто ведае шлях вырашэння гэтай праблемы?

### 5 чэрвеня

Юры Зісер кажа, што беларускай мовай на *tut.by* карыстаецца паўтара адсотка карыстальнікаў. Я і раней такое чытала, гады чатыры таму, палезла пагледзець, як жа скарыстацца мовай. Аказалася, сапраўды можна абраць беларускую мову, што для мяне было сюрпрызам, бо карыстаешся поштай на «тутбаі» 10 гадоў і карыстаешся, нешта пачытваеш часам, на ўсё астатняе ўвагі і не звяртаеш.

Выбрала. І змянілася меню, было «Новости», стала «Навіны», было «Почта», стала «Пошта». Астатняе — па-руску. Карацей, я не зразумела прыколу.

* * *

А яшчэ мы ўчора сабралі свой першы ўраджай на лецішчы. І гэта — бэз!

* * *

### 7 чэрвеня

Неяк усё разам мне на новую ўзроставую катэгорыю намякае. Па-першае, лічба, што я атрымала на свае народзіны, яна ўжо такая... непад'ёмная, як выйду з дэкрэту, буду сапраўды «жэншчына, я за вамі!». Па-другое, статус мамы, ён адразу перамясціў мяне ў даросласць. Ну, і па-трэцяе,



Прыгожая веранда пад Івянцом.

А самае сумнае ў пытанні беларускай мовы, па-людску сумнае, гэта тое, што амаль у кожнага крутога рускамоўнага мінчука, стылёвага рэстаратара ці папулярнага тэлевядоўцы, у амаль кожнай моднай рэдактаркі і спявачкі недзе ў беларускай вёсачцы не так даўно памерлі беларускамоўныя бабулі і дзядулі, якія шчыра зычылі сваім унукам шчасця.

Фэйсбук Аляксандры Баярынай
facebook.com/vsemoe

я не падпісалася на Бумагу пасля таго, як я не падпісалася на Дзіму Ермузевіча і Кацю Коба. Такая стабільнасць і паслядоўнасць у непадпісках сведчыць, што ўсё — я амаль пенсіянерка. Да таго ж, яшчэ і кабачкі збіраюся вырошчваць. Пачатак канца, відавочна. Яшчэ і ФБ, дзе мне так утульна і весела, раптам аказаўся кансерватыўным жытлом «завумных» інтэлектуалаў.

Шчыра кажучы, я ад нараджэння такой была, адразу дарослай, мяне здзіўляла ўсё, з чаго фанацелі дзеці, падлеткі і дарослыя навокал. Бонсцікі ў нас дома валяюцца нераскрытымі, нават Яня не здагадалася, што ад іх можна фанацець. Я не магу ад канцэрта музычнай групы атрымаць гэты драйв фаната. Чаму я не магу быць фанатам?



**Цудоўнае, чыста беларускае рашэнне... Маці, як заўсёды, пры дзецях, а бацька галоўны, думае, што ён тут руліць. З інстаграм majakrainabelarus, Салігорск.**

### 9 чэрвеня

Так нам бракуе беларускіх вясёлых асобаў! Лёгкіх трындзёжнікаў. Не гэтых у тэлевізарах, якія ўвесь час намагаюцца даказаць самі сабе, што яны самастойныя, а не цені Урганта. І не гэтых, хто так і працягвае ехаць на постмадэрнісцкім гумары а-ля «я ржу з усіх і таму я такі круты».

### 11 чэрвеня

Прыгадала словы Кураева. Ён казаў, што зразумела спачуваць гору кепскага чалавека, нескладана. Але як складана парадавацца за кепскага чалавека, калі ягоны сын атрымае павышэнне па службе.

### 12 чэрвеня

Думаю пра СМІ і пра тое, што яны стварылі за ўсе гэтыя гады. Як мне думаецца, сёння абвастрылася розніца паміж матэрыяламі ПРА БЕЛАРУСЬ і матэрыяламі ПА-БЕЛАРУСКУ. Пра Беларусь можна пісаць бясконцыя карысныя тэксты, але ўсе яны ў выніку чамусьці аказваюцца на акупацыйным баку. І гэта цікава. Можна 25 гадоў пісаць пра Каліноўскіх, пра беларускія сядзібы, пра беларускую культуру, пра беларускую літаратуру, пісаць шчыра і якасна, і пры гэтым стаць чарговым цвіком у труне беларускай культуры. І выключэнняў не бачу. Артыкулы ПРА Беларусь — гэта рубрыка «в мире животных». Які цікавы свет жывёлаў, якія класныя перадачы, як цудоўна глядзець іх, калі захочацца, і выключаць іх, як надакучыць.

І быццам ніхто не вінаваты ў гэтым, людзі ўжо дакладна не нясуць за гэта адказнасць. А СМІ нясуць адказнасць. Недзяржаўныя СМІ, скажам так.

Можа, і не былі б такія паводзіны СМІ трагічнымі, калі б не стан грамадства. Вымiранне вёскі адбывалася аднachасова, вясковыя носьбіты мовы вымiралі і імкнуцца дасягнуць у сваёй колькасці нуля, рубрыка «в мире животных» працуе без перапынку і пункт сустрэчы нуля з рубрыкай можа стаць нейкім заўважным вузлом гісторыі.

Важна зразумець, што нармальна быць рускамоўным маладым беларусам з савецка-постсавецка-руска-беларускім нутром, калі ў цябе ёсць беларускі тыл. І зусім іншая справа пасля смерці ўсіх тылоў стаць самім тылам для сваіх дзяцей з усёй гэтай неймавернай кашай у галаве і валоданнем толькі адной рускай мовай.

Безумоўна, не толькі СМІ адказныя за ўсё гэта, і доля іх адказнасці ў параўнанні з дзеяннямі іншых адказных зусім невялічкая.

Проста хацелася сказаць, што ўся іх шматгадовая рускамоўная праца на карысць Беларусі — гэта не толькі пшык у паветры, але і рэальная сякера ў крыві.

Нам з вамі, сябры, неабавязкова было карыстацца мовай, бо жыла наша вёска. А сёння толькі мы, жыхары гарадоў, можам выправіць сітуацыю.

Перайсці самім на мову складана, але не складана даць яе дзецям, патрабаваць дасканалых ведаў. Як патрабаваць і ведаў ангельскай.

Ангельская і руская мова патрэбны для таго, каб жыць і працаваць, беларуская — для таго, каб быць.

### 13 чэрвеня

Паставы, будынак. Ружовыя калоны на жоўценькім фоне. І белыя шклопакеты. А ўсё разам — абаяльнае і прывабнае. Хаця і сумнае, і нават трагічнае.

* * *

Мы з Янечкай і маім запісам пра мову трапілі на старонку галоўнага інфармацыйнага СМІ краіны. «Наша Ніва» прапануе абмеркаваць мае выказванні, і па каментарах бачна, што іх прызналі замяккімі.

Ну, а я працытую Эліну Шындлер, якая сёння другі раз нагадала, што патрэбны мільён карыстальнікаў мовай, каб мове не пагражала смерць. Давайце будзем багатымі, давайце будзем мільянерамі. Багацце адкрывае шмат файных магчымасцяў. Быць мільянерамі крута!

### 14 чэрвеня

Крызіс, інвестараў няма, а хтосьці цішком замаўляе праектнаму інстытуту дэтальны праект са зносам такой вялікай плошчы.

Галоўнае пытанне: хто замоўца? Ад гэтага залежыць, ці змогуць жыхары адстаяць свае кварталы. Можа, і пранясе Асмалоўку, калі адначасовыя намаганні жыхароў і штрафы за нясвоечасовыя праектныя працы падвесяць рэалізацыю ў паветры.

А калі гэта робіцца як аванс для прыцягнення аднаго ці некалькіх інвестараў з ужо традыцыйнай мэтай — абдзерці бізнэсоўцаў, як толькі яны грошы ўкладуць, то грамадскі ўплыў мае больш ўплыў, і зараз ёсць шанец вымусіць будучых інвестараў адмовіцца ад будаўніцтва.

Але я, як песіміст, бачу тут ціхую руку «а-ля Тапаза», для якога законаў не існуе.

* * *

Спадарства, калі вы прымаеце статус эліты, карыстаецеся выгодамі свайго статуса, ходзіце па дабрачынных подыумах у чырвоных сукенках, уплываеце сваім выглядам на людскія лёсы — адпавядайце свайму статусу! Ці майце адвагу сказаць мне ў камеру, што вам пляваць на Асмалоўку.

* * *

Жызнеўскі — бомж, Асмалоўка — баракі. Безумоўна, Юры Зісер мае права на любыя ўласныя меркаванні, але і я маю права назваць публічную асобу з такімі меркаваннямі — чалавекам з сацыяльнымі асабліваcцямі. Мне проста цікава, дзе тыя межы ў публічнай прасторы, за якімі ўжо абавязкова прыносіць публічныя выбачэнні, ці кожны можа проста ўдакладніць сваю думку пра каталікоў-забойцаў і на гэтым закрыць пытанне?

Не абавязкова дапамагаць захоўваць і аднаўляць, скажам так, але адкуль бярэцца ў людзях энергія дапамагаць руйнаваць. Можна хаця б прамаўчаць.

* * *

Нас моцна заціснулі на сваёй уласнай зямлі, пазбавілі элементарных правоў, акупавалі нашыя дзеянні і магчымасці. Акупацыя настолькі ўсеагульная, што застаўся, бадай, апошні прадмет для абароны — кавалак чалавечнасці ў прасторы. Нашы каштоўнасці — дрэва, мець магчымасць сказаць, ушанаваць памяць, добрае жылое асяроддзе.

### 16 чэрвеня

Новы савецкі Мінск замест 900-гадовага Менска быў адмыслова спраектаваны правінцыйным у параўнанні з Масквой. Жывіце шчаслівa, мінчукі-правінцыялы, ведайце сваё месца.

### 17 чэрвеня

Скажыце, ці ёсць адназначны адказ у навуковай сферы, чаму адзін чалавек, які стаў ахвярай гвалту ў дзяцінстве, становіцца педафілам, а другі пасля гэтага ўсё жыццё абараняе дзяцей ад гвалту?

А ў мяне ёсць такая думка. Адзін мой мудры сябар нейк сказаў, што пачуцце віны абавязкова пераходзіць у агрэсію. Калі пытанне «гвалт за гвалт» разглядаць з гэтага пункту гледжання, то застаецца толькі зразумець, у чым згвалтаваны сваю віну бачыць.

### 18 чэрвеня

Ёсць лімбічныя рэакцыі чалавека на стрэс і агрэсію. Збегчы, змагацца і замерці. Так, за 27 гадоў адны збеглі, другія змагаліся, а трэція прыкінуліся памерлымі. Немагчымасць сабраць кворум у любой грамадскай арганізацыі, немагчымасць загнаць на выбары, спробы злавіць дармаедаў-ціхушнікаў — усё гэта праца з насельніцтвам, якое прыкінулася дохлым.

* * *

Сучасныя шлюбы, дзе М і Ж паводзяць сябе як два традыцыйныя М, бо рэалізуюць усе свае жаданні і свабоды ў сферах, у якіх хочуць, падобныя да звычайных шлюбаў мастакоў, дзе мастак М і мастачка Ж пастаянна маюць праблемы з прафесійнай рэалізацыяй, пакутуюць праз недалюбленасць і недаацэненасць.

### 19 чэрвеня

Я калі на выніку работы нашых мадэльераў гляджу, заўсёды звяртаю ўвагу на памеры месца ўрэзкі рукава. І амаль кожны раз памеры слановыя. Калі адзенне без рукава, то ў гэтую дзірку бачна не толькі руку, а і палову тулава, рука займае ў лепшым выпадку трэціну, а то і чвэрць прызначанай ёй прасторы. А вось калі па буціках адзенне замежных дызайнераў мераць, ніколі не сустрэнеш такіх праймаў.

Ведаю, што мала хто з дызайнераў сам можа кроіць адзенне, па гэтую паслугу звяртаюцца да закройшчыцы, якой прыносяць свае эскізы. І вось сядзіць сабе недзе жанчынка, якая скончыла тэхнікум у якім 1980, і ўплывае на ўвесь свет беларускай моды.

Самы ўплывовы чэл. Яна хоць ведае маштабы свайго ўплыву?

* * *

Раз Люся Лушчык з млявымі поглядамі пранікае ў маю стужку праз рэкламу, дазволю сабе не вельмі прыстойнае пытанне: як можна зрабіць такую шыю з той шыі, што была?

* * *

Ну, і пра манную кашу. Вару яе больш за год, часта. Да гэтага не бачыла яе з дзіцячага садка, дзе яе прыносілі абавязкова з камякамі і пенкай. Залезла ў сецiва, пачытала, як варыць, і за год ні разу з камякамі не зварыла. І маю справядлівыя прэтэнзіі да цётачак у дзіцячых садках! Адкуль столькі садызму і нелюбові да дзетак?

### 20 чэрвеня

А яшчэ хацела пацвердзіць, што метад камунікацыі з дзецьмі, пра які я летась прачытала, сапраўды працуе. Сэнс у тым, каб не задаваць пытанні, калі трэба высветліць, што хвалюе дзетку ці ад чаго дзетка плача, а сцвярджальнымі фразамі адгадваць прычыну.

Усё так і ёсць. Можна пытаць шмат разоў, але яна плача і плача. А можна сказаць: «Ты хацела яшчэ соку», «Ты хацела яшчэ пабегаць», «Ты не хочаш гэта есці» — і Яня адразу спыняецца плакаць і ківае галавой, што менавіта так і было. Вось дзіва, і здагадаўся ж хтосьці, што пытанні не працуюць.

**Працяг на старонцы 16.**





**Для мамачак, хто вазок збіраецца набыць**

Два гады катала Яню на вазку Dada Paradiso Group Carino (злева). Па горадзе вельмі зручна, лёгкі ў кіраванні — не тое слова. Адзін мінус — цяжкі, 12 кг. Вадзіму прыходзілася яго выносіць кожны раз, бо няма ў нашым пад'ездзе прасторы яго пакінуць.

А як здымалі лецішча каля Глебкаўскага заказніка, дык катала Яню па лесе, спакойна ездзіла па моху без усялякіх сцежак, пераадольвала рвы і паваленыя дрэвы.

А потым вырашыла: хопіць, трэба лёгкі вазок набыць, каб самой яго насіць. І выбрала вось такі Graco (на здымку справа), каля 6 кг, складваецца добра, ёсць цэлыя дзве падстаўкі пад шклянкі і бутэлькі, што падалося мне асабліва актуальным.

І што вы думаеце!!! Ён увогуле не здольны заехаць у лес, не тое што праз рвы ездзіць. Любы каменьчык на дарозе становіцца перашкодай, крыху нахілу звычайнай дарогі на лецішчах — і ён становіцца колам. У горадзе таксама нязручны, нагой увесь час наступаеш яму на тормаз, такая эрганоміка непрадуманая, ён бразгоча, як тая бляшанка з каменьчыкамі, складаны ў паваротах, на бардзюр заехаць можна толькі з дадатковымі намаганнямі. Сядзенне кароткае, увесь час падаецца, што дзіця выпадзе, а пасамі прышпільваць не хочацца, бо Яня не церпіць несвабоды.

А па выглядзе і не скажаш, што гэтыя вазкі могуць ТАК адрозніваццa.

А калі б мы пачалі з гэтага Graco і не ведалі, што існуе іншая рэальнасць? Кожны дзень бы дызайнераў кепскім словам узгадвала.



Яні на два гады падарылі двух чабурашак. Янечка па чарзе іх нармальна ўспрыняла, але калі яны раптам аказаліся разам, доўга разглядала, пераводзіла позірк з аднаго на другое (ці другога?) А нам, дарослым, было вельмі весела.

І вось маем яшчэ аднаго: мае замоўцы перадалі нам два вялікія пакункі цацак.

Кадр прысвечаны дню мыцця цацак. Яны ўсе сёння купаліся ў пральнай машыне, сушыліся — ў сушыльнай і цяпер адпачываюць на канапе.

# Радыкальныя элементы чыста беларускага хараства

Працяг са старонкі 15.

* * *

Вельмі падабаецца назіраць, як маленькі чалавек пачынае нешта сваё прыдумляць. Наша гісторыя з гаршком. Доўга не ўдавалася ўгаварыць хадзіць на гаршчок, раніцай раз-два сходзім, а пасля абеду ўжо гара мокрых майткоў і калготак ляжыць. І, каб не нерваваць Яню, адкладаю спробы на дзень-два. І вось раптам Яня пакрыўдзілася на прапанаваны памперс і стала сама хадзіць на гаршок. А я не верыла, калі прачытала, што дзетка пачне тады карыстацца гаршчком, калі сама вырашыць, што яна дарослая. А праз тры дні Яня патрабавала са скандалам, каб яе на ўнітаз пусцілі. Потым памякчэла і спынілася толькі на гаршку.



### 21 чэрвеня

Яніна Марыя зацаніла бацькоўскія намаганні: спіць проста на падлозе (**на фота справа**). Чарговы пакой атрымаў сваю белую фарбаваную падлогу. Нарэшце!

У нас амаль усё ў кватэры — 1955 года пабудовы: ляпніна, сцены і столь з дранкай, драўляныя перакрыцці, вокны, якія дыхаюць, невертыкальныя высокія дзверы 6-сантыметровай таўшчыні, радыятары, па якіх вада ўжо ледзь цячэ. У дом заведзена толькі халодная вада, якая грэецца газавай калонкай.

Падлогу Вадзім уручную шліфаваў, каб старая дошка свайго рэльефу не згубіла, акрамя гэтага пакоя, тут хлопцы з барабаннай машынкай прыязджалі, але я прасіла іх не надта старацца раўняць. Дошку папярэднія гаспадары ў двух пакоях мянялі — каб не гэта, мелі б мы цалкам аўтэнтычную дошку 1955 года.

Плінтус прыйшлося мяняць, замовілі ў століяра драўляны, высокі і тоўсты.

Вадзім набыў неяк на аўкцыёнах для дзвярэй клямкі розныя латунныя, спадзяюся, хутка паставіць. Карнізы павесім белыя. Мэблю расставім. Карціны распакуем.

Не паверыце, тры з паловай гады гэта ўсё цягнецца, ніяк не можам распакаваць усе рэчы, бо няма куды. Скрыні і мяхі займаюць палову жылой прасторы, я ўжо нават не памятаю, што ж там ляжыць і чаму гэтага так шмат.

Карацей, жыць у рамонце — гэта цяжкае бытавое выпрабаванне. Нікому не пажадаю. Гатовая на радасцях, як Янечка, ляжаць на падлозе.

### 23 чэрвеня

Дарэчы, калі б магла, накапала б у прыгарадзе Мінска шмат азёраў і стварыла б некалькі водных сістэмаў па прыкладзе Вілейска-Мінскай з пад'ёмам вады для далейшага самацёку. Бо кожны жадае жыць з відам на ваду. І каб першая лінія. У няшчасных Лапаровічы не ўцісуцца, цэны зашкальваюць. Участкаў пад Мінскам з лесам і вадой катастрафічна не хапае.

* * *

Быць багатым прыемна і добра. І ствараць вакол сябе якасную жылую прастору цудоўна. І па сілах толькі багатаму чалавеку.

### 30 чэрвеня

Як жа прыемна, што ў нас ёсць маладыя і багатыя. Увогуле, па спецыфіцы працы ўсе 17 гадоў камунікую з багатымі людзьмі. Я архітэктарка і дызайнерка інтэр'ераў.

Мне падабаецца, колькі ўвагі яны даюць сваім дзецям, як разам займаюцца самымі рознымі і складанымі відамі спорту, як дбаюць пра добрую адукацыю для дзяцей, як ставяцца да дысцыпліны і арганізацыі жыцця, як вандруюць, адпачываюць, як клапоцяцца пра эстэтыку свайго дома, з якой увагай выбіраюць аздабленне і мэблю ў інтэр'ер.

І ненавіджу ўсе намаганні дзяржавы трымаць людзей у жабрацтве, пазбаўляць людзей магчымасці зарабіць на самае элементарнае.

### 25 чэрвеня

Дарагія гульні ў танкі для краіны, дзе анкахворыя не могуць атрымаць своечасовую дапамогу, а большая колькасць грамадзян жыве за рысай галечы. Як дастала гэтае пачварнае стаўленне да людзей.

* * *

Патэлефанавала бабуля. Кажа, адкрыла «Нашу Ніву» і там прачытала мой артыкул. Сказала, што вельмі ўражана гэтым усім. І скончыла размову абмеркаваннем бульбы, чаму яшчэ не пабудавалі і якая добрая ідэя.

Карацей, я зразумела: узгадванне бульбы ў тэксце было стратэгічнай памылкай.

Усё пайшло не так.

Бульба — гэта мегабрэнд, які пераедзе ўсіх і нават не заўважыць.

* * *

Іншыя нацыі чэрпаюць і чэрпаюць, а нас так прыціснулі, што ні рукой, ні нагой паварушыць. Спадзяюся, усё зменіцца і лёс будзе на нашым баку.

### 27 чэрвеня

Што можна сказаць пра людзей, для якіх круты той, хто больш забіў? Сталін. І Пушкін.

Як і ва ўсім свеце. Амерыкосы крутыя, бо забілі ўвесь кантынент мясцовага насельніцтва, а потым пераключыліся на замежжа. Англельцы — лідары ўсяго свету, бо больш за ўсіх рабавалі і забівалі засваімі межамі. Калі стала няма чаго красці, усталявалі жалезнае права на прыватную ўласнасць, каб у іх хто не адабраў скрадзенае. Цяпер яны гаранты прыватнай уласнасці ў свеце. Яны!

Хто больш забіў і скраў, той круты. Свет недаразвіты паўдуркаў з пачварнай мараллю. Як я гэтага ўсяго не прымаю і не паважаю.

Ён кажа — Сталін. А томік Пушкіна ў руцэ дае яму ўпэўненасць, што ён не апошняе гаўно на зямлі. Такія ж гаўнюкі ўсе культурныя лідары свету, рукі і гісторыя якіх у крыві. І можна сёння прыкрываецца Сэлінджэрамі, Пушкінымі і ўсімі, кім толькі здагадаецеся, вы як былі гаўном для чалавецтва, так ім і застанецеся.

### 28 чэрвеня

Усё зазіраю пад артыкул на «НН» пра апоўзень у Вільні, каб якія цікавыя каментары пачытаць, але каментары зусім не пра апоўзень, а пра паходжанне імені Гедымін ідуць. Вось, думаю, СМІ маюць у руках сапраўдны спіс таго, што хвалюе насельніцтва, яны могуць скласці гэты спіс па таках вось плынях каментароў не па тэме. Грамадскае невымоўнае. Толькі, мабыць, крыху ад профілю сайта вынікі будуць адрозніваца. Анлайнераўскіх больш грошы хвалююць, зайздрасць.

* * *

Парайце, даражэнькія, які лепш кранштэйн набыць, каб ровар падвесіць на сцену. Гарызантальна.

* * *

Янечка сёння цішком з гардэробнай прынесла тэлефонную слухаўку і стала ёю на маніторы камп'ютара каналы пераключаць. Звычайна яна мне «мама-мама» кажа і паказвае, што пераключыць мульт трэба. Выбірае пальчыкам, што хоча глядзець, і адбягае ў падушкі, бо мы з татам запэўнілі яе, што трэба глядзець мульты здаля.

А пульт яна толькі ў бабы з дзедам бачыла, у нас няма тэлевізара.

Карацей, навошта мне мама, калі можна свой уласны пульт мець. Незалежнасць і права выбару — гэта крута.

### 29 чэрвеня

Думаю, адзіныя, хто б абрадаваўся зносу сваіх дамоў, — жыхары панэльных дамоў. Перасяляюць цябе з брыдкай, старой панэлькі недзе каля Партызанскага праспекта ў новую панэльку ў Каменнай Горцы, з новымі камунікацыямі, з гіперамі і больш сучаснай інфраструктурай. І будуйце сабе элітнае жытло замест панэлек, якія па сваім тэрміне службы павінны былі быць знесены 20—30 гадоў таму.

Але калі паглядзець, колькі сілаў і намаганняў ідзе на захаванне старых панэльных дамоў, з якой энергіяй і актыўнасцю ўлады змагаюцца за захаванне пачварных панэлек, колькі грошай не шкада на падтрымку іх трэцяга тэрміну жыцця, то становіцца ясна, што тут няма выпадковасці.

Свядома ці несвядома, але ўлады зачышчаюць толькі культурны слой. Так паводзяць сябе толькі акупанты. Мы жывём у часы татальнай акупацыі, ведаем мы пра гэта ці не ведаем, прызнаём мы гэта ці не прызнаём.

Каторы раз пераконваюся, няма выпадковасцяў у архітэктуры. Усе працэсы лагічныя і асэнсаваныя.

* * *

Глядзець на здымкі вызвалення. Месяцы чакання і невядомасці. Слёзы, радасць, абдымкі.

* * *

Як цудоўна і дзіўна: з'яўляецца новы чалавечак, са сваім характарам, сваімі асабістымі патрэбамі і жаданнямі. І ад цябе так шмат залежыць, а з другога боку, нічога ад цябе не залежыць, чалавечак возьме ад цябе тое, што сам вырашыць. Янечцы нашай ужо два гады і два месяцы. Першы наш год мне падаваўся вечнасцю, а цяпер час уцякае з такой хуткасцю.

* * *

Тэкст «Модныя мінскія даўншыфцеры» яшчэ не чытала, адной назвы хапае. Даўншыфтынг — гэта ж жыццё для сябе замест гонкі за модай. А тут сядзяць шчаслівыя, якія здолелі дагнаць моду.

Даўншыфтынг сёння, як мне падаецца, — гэта пачаць займацца любімай працай, за якую не плацяць, і нарадзіць двух-трох дзетак.

(Фоты са старонкі Аляксандры Баярынай у фэйсбуку.)




**Я за такія парады. На кані мой бацька, Юры Баярын. Гэта тэатралізаванае шэсце ў гонар Дня беларускай вайсковай славы ў 1994-м. А танкі хай па Краснай плошчы рассякаюць.**

# Беларускі мецэнат выкупіў сэт купюр 1993 года з «Пагоняй», якія так і не трапілі ў абарачэнне

Мецэнат Павел Бераговіч выкупіў у прыватніка-антыкварa сэт беларускіх купюр 1993 года, якія так і не трапілі ў абарачэнне. Як мецэнат паведаміў «Нашай Ніве», ён мае намер размясціць іх у экспазіцыі будучага музея ў Падароску (Гарадзенская вобласць), дзе ён выкупіў былую шляхецкую сядзібу.

Сэт каштаваў мецэнату 315 000 расійскіх рублёў (гэта прыкладна 10 500 беларускіх).

Павел Бераговіч — вядомы фундатар беларускага мастацтва і літаратуры.







# «Матачка Божая, Матачка добрая»: знайшоўся старадаўні абразок з беларускай малітвай

Піша краязнаўца **Кастусь Шыталь**.

Гэты абразок Маці Божай Вастрабрамскай я знайшоў паміж старонак кніжачкі «Żywy różaniec», якую летась даслала мне Юлія Цярэнцьева з вёскі Зарачча на Браслаўшчыне.

Некалі пра сям'ю Цярэнцьевых, якія кінулі Мінск і пераехалі на Паазер'е, я прачытаў у «Нашай Ніве». Знайшоў Юлію Цярэнцьеву на фэйсбуку і даслаў запыт у сябры. Гэтае віртуальнае знаёмства прывяло да цікавай знаходкі. Аднойчы Юлія напісала, што ў яе ёсць старыя каталіцкія выданні, і папрасіла парады, што з імі рабіць. Я прапанаваў даслаць іх мне і паабяцаў перадаць іх у музей Віцебскай дыяцэзіі, калі ён будзе створаны (размовы пра музей ходзяць у дыяцэзіі не першы год).

У старых малітоўніках і рэлігійных кніжках часта можна знайсці папяровыя абразкі. Іх укладалі як закладкі між старонкамі ці проста, каб не згубіліся. Разгарнуўшы кніжачку «*Żywy różaniec*», якую даслала мне Юлія, я знайшоў моцна патрапаны каляровы абразок Маці Божай Вастрабрамскай. Перагарнуў яго — і быў вельмі здзіўлены.

На зваротным баку абразка быў надрукаваны верш па-беларуску лацінкай. Частка тэксту страчана, аднак лёгка было зразумець, што гэта за верш. «Матачка Божая, Матачка Добрая, бедныя дзеці, мы клічам Цябе...» — песню на гэтыя словы, злёгку змененую, сёння спяваюць у многіх беларускіх касцёлах.

Простыя і натхнёныя словы, напісаць якія мог толькі такі аўтар, які не толькі паэтычны дар меў, але і добра ведаў душу беларуса-селяніна.




Dobraja,
m Ciabie;
vy składajučy,
ajom my Tabie.

waich dzietačak, što ŭ Ciabie
prosiacca —
Matačka Dobraja, Ty paškaduj;
Łaskaj adžyŭčaju Boha Pradwiečnaha,
Matačka Božaja, nas abdaruj.

Wyleč Ty serca nam rany hłybokija,
Miłaściaj čystaju nas zapali,
Kab chwała Božaja ŭmiest žalby
wiečnyja
U nieba lacieła, lacieła z ziamli.

Świetam niabiesnym hałowy nam
ciomnyja,
Matačka Božaja, Ty aświaci,
Kab my paznali Mudraść Adwiečnuju,
Bohu słužyli tut wierna ŭ žycci.

Dajža nam dzietkam darožańku
prostuju
Chwilinu śmierci ščašliwuju daj.
Wiadzi nas, Matačka, zorańka jasnaja
U wiečnuju chwału, u cudny Božy Ra
Amen.

Матачка Божая, Матачка добрая,
Бедныя дзеці, мы клічам Цябе.
Песняй пакорную мольбы складаючы,
Сэрцы свае аддаём мы Табе.

Нас, сваіх дзетачак,
што ў Цябе просяцца —
Матачка Добрая, Ты пашкадуй;
Ласкай аджыўчаю Бога Прадвечнага,
Матачка Божая, нас абдаруй.

Вылеч Ты сэрца нам раны глыбокія,
Міласцяй чыстаю нас запалі,
Каб хвала Божая ўмест
жальбы вечныя,
Ў неба ляцела, ляцела з зямлі.

Светам нябесным галовы нам цёмныя,
Матачка Божая, Ты асвяці,
Каб мы пазналі Мудрасць Адвечную,
Богу служылі тут верна ў жыцці.

Дай жа нам, дзеткам,
дарожаньку простую,
Хвіліну смерці шчаслівую дай.
Вядзі нас, Матачка, зоранька ясная,
У вечную хвалу, у цудны Божы рай.

Гэтая рэлігійная песня лічыцца народнай. У пачатку XX стагоддзя яе паклаў на музыку ксёндз Фабіян Абрантовіч, які быў беларусам і ідэйным прыхільнікам беларускага адраджэння. Песня была надрукаваная ў малітоўніку «Голас душы», выдадзеным у 1926 годзе ў Вільні. Укладальнікам гэтага малітоўніка быў ксёндз Канстанцін Стэповіч.

На абразку няма ні даты і месца друку, ні пазнакі аб дазволе духоўнай улады на друк. Паходжанне абразка — загадка. Трэба сказаць, што каляровы друк з залацістымі ўстаўкамі быў характэрны для абразкоў, датаваных ад 1890-х да пачатку І Сусветнай вайны. Прынамсі такую выснову можна зрабіць, прааналізаваўшы калекцыю каталіцкіх абразкоў, якую я сабраў у ваколіцах Глыбокага. Абразкі, датаваныя міжваенным перыядам, такога афармлення не мелі.

Гістарычных звестак пра друк беларускіх абразкоў перад І Сусветнай вайной вельмі мала. У 1912 годзе Рамуальд Зямкевіч перасылаў Аляксандру Ельскаму «абразок Маці Божай Вастрабрамскай з вершаванай малітвай пяра Сыракомлі. Гэты абразок быў выдадзены ў бягучым годзе коштам маім [г. зн. Зямкевіча] і пана Власта (Вацлава Ластоўскага)». Яўхім Карскі піша, што «Образки... с белорусскими молитвами на обороте напечатаны в 1913 г. в Вильне и Кракове».

Ці не адзін з абразкоў гэтага выдання знайшоўся на Браслаўшчыне?

Гісторык літаратуры Вячаслаў Мартысюк з Брэста адказаў мне, што верш «Матачка Божая, Матачка Добрая...» стылістычна не падобны да вершаў Сыракомлі. Аднак, можа, усё ж Зямкевіч і Ластоўскі надрукавалі абразок з гэтым вершам, але памыліліся, прыпісваючы яго аўтарства Сыракомлю?

Мы не ведаем іншага абразка Маці Божай Вастрабрамскай таго часу з вершам па-беларуску.

У любым выпадку, гэты абразок — адно з першых каталіцкіх выданняў часоў беларускага адраджэння. Спадзяюся, навукоўцам удасца высветліць яго паходжанне.

Яшчэ адна акалічнасць звяртае на сябе ўвагу. Абразок моцна патрапаны, забруджаны пальцамі сялянскіх рук. Гэтаксама выглядаюць у старых малітоўніках старонкі з папулярнымі малітвамі, якімі чалавек маліўся сотні, тысячы разоў.

Падобна, што верш «Матачка Божая, Матачка Добрая...» быў адной з улюбёных малітваў чалавека, якому гэты абразок належаў.

## Камуністы засталіся ў меншасці: скверу за Чырвоным касцёлам адзінагалосна далі імя Вайніловіча

Мінгарвыканкам падтрымаў ініцыятыву аб прысваенні скверу за Чырвоным касцёлам імя Эдварда Вайніловіча, паведамляе «СБ. Беларусь сегодня».

Члены камісіі па называнні і перайменаванні праспектаў, вуліц, плошчаў і іншых складовых частак горада Мінска прагаласавалі за гэтую прапанову аднагалосна.

Не адно пакаленне мінчан знаёма з гэтай прыгожай, але, на жаль, сумнай легендай: на будаўніцтва храма Вайніловіча падштурхнулі незаменныя страты. У разгар эпідэміі «іспанкі» ён страціў спачатку сына-падлетка, а затым і 18-гадовую дачку... «У сувязі з цяжкімі ўдарамі лёсу, якія па волі Усявышняга абрынуліся на мяне, я вырашыў зрабіць ахвяраванне шляхам пабудовы храма Святых Сымона і Алены — заступнікаў маіх памерлых дзяцей. Для гэтай мэты я абраў Менск як горад, якому я аддаў вялікую частку сваёй грамадскай дзейнасці і які больш за ўсіх меў патрэбу ў другім касцёле ...» — пісаў няўцешны бацька.

«Стваральнік, а не разбуральнік», — такое меркаванне выказаў на пасяджэнні камісіі дырэктар Інстытута гісторыі Вячаслаў Даніловіч. Заключэнне, выдадзенае інстытутам, адыграла ў рашэнні камісіі ключавую ролю.

— Несумненна, ён зрабіў значны ўклад у гісторыю нашай краіны. Аказваў падтрымку маладой беларускай літаратуры, падтрымліваў кантакты з прадстаўнікамі нацыянальнага руху, удзельнічаў у фінансаванні многіх устаноў. Акрамя таго, Вайніловіч адкрыта асудзіў падзел Беларусі па ўмовах Рыжскага мірнага дагавора 1921 года. Гэта сведчыць аб тым, што ён не меў прапольскай арыентацыі, як сцвярджаюць некаторыя грамадскія дзеячы, якія выказалі нязгоду з прапановай ушанавання ў тапаніміцы горада імя Эдварда Вайніловіча.

Дарэчы, нязгодныя засталіся ў меншасці: з улікам калектыўных зваротаў грамадзян з просьбай увекавечыць імя Вайніловіча ў гарадской прасторы, якія паступілі ў 2015 годзе, «за» сабрана 2236 подпісаў, «супраць» — усяго 113. Галоўны архівіст Нацыянальнага гістарычнага архіва Уладзімір Дзянісаў лічыць сцверджанне пра тое, што Вайніловіч быў прыхільнікам паланізацыі, абсалютна беспадстаўным.

# Гісторыя Беларусі. Эпоха Балтыкі

Піша **Алег Дзярновіч**.

*Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.*

На сыходзе XII ст. Полацкая зямля была сістэмай з некалькіх удзельных княстваў, самастойных у сваёй унутранай палітыцы. Наймацнейшы патэнцыял мелі Віцебск, Друцк, Менск. Але намінальны прэстыж і вяршэнства полацкага стала ўсё яшчэ захоўваліся, і наймацнейшыя князі з Менска ці Віцебска імкнуліся заняць галоўны пасад свайго краю. Гэта мадэль у пэўнай ступені паўтарала сітуацыю Кіеўскай Русі, дзе Кіеў па-ранейшаму прыцягваў амбіцыі ўладароў самастойных княстваў. Але былі і адрозненні — Кіеўская зямля ў вузкім сэнсе ўжо не была наймагутнейшай сярод дзяржаўных утварэнняў Русі, у той час як Полацк захоўваў лідарства ў сваім рэгіёне — Беларускім Падняпроўі.

Полацкая зямля падышла да трэцяга стагоддзя свайго існавання як развіты рэгіён з уласнымі традыцыямі мураванага дойлідства, гандлёвымі шляхамі і досыць устойлівай палітычнай сістэмай. Два стагоддзі развіцця пісьменства і хрысціянства прывялі да ўзнікнення ўласнай культурнай традыцыі і рэлігійна-асветных лідараў.

Кажучы пра палітычную сістэму, варта адзначыць яе трансфармацыю. З тых крыніц, якія нам даступныя, можна казаць пра тэндэнцыю набліжэння сістэмы арганізацыі ўлады і размеркавання паўнамоцтваў да паўночнарускай мадэлі з абмежаванай уладай князя, значнай роллю епіскапа і зафіксаваным удзелам полацкага веча ў вырашэнні кардынальных пытанняў улады — змены князёў.




Лівонія ў 1500 г.




Карта 2: Дыяцэзіі і тэрыторыі Лівоніі ў 1500 г. (паводле П. Ёгансена)

Полацкая зямля была павязаная канфесійна з астатняю Руссю — а менавіта з Кіеўскай мітраполіяй. Ступень гандлёва-эканамічнага ўзаемадзеяння застаецца не да канца высветленай, хоць археолагі даюць нам сведчанні такіх сувязяў. Але разам з тым Полацкая зямля мела і свае асаблівыя інтарэсы ў знешніх сферах. І тут варта сказаць пра дзвінска-балтыйскі кірунак пашырэння палітычнага і эканамічнага ўплыву Полацка. Але на гэтым шляху Полацк чакалі і новыя выклікі — узнікненне краіны пад назвай Лівонія, вядомай таксама як Інфлянты.



Кнехты — служкі рыцараў. XIII стагоддзе.

## Нямецкая каланізацыя

У канцы XII — пачатку XIII стст. пачалася нямецкая, ці, больш дакладна, саксонская, каланізацыя зямель паўднёва-ўсходняй Балтыі. Але яшчэ ў сярэдзіне XII ст. купцы з Любека і Брэмена ў сваіх гандлёвых экспедыцыях дасягалі вусця Дзвіны; па слядах купцоў скіраваліся місіянеры. На пачатку 1180-х Майнгард (*Meinhard*), манах-аўгусцінец з Брэмена, высадзіўся на балтыйскім узбярэжжы і шаснаццаць гадоў прапаведаваў хрысціянства сярод ліваў — фіна-вугорскага народа, імя якога і дало назву краіне: Лівонія.

Майнгард нават атрымаў дазвол на сваю місіянерскую дзейнасць ад полацкага князя Уладзіміра, да якога звярнуўся па просьбах нямецкіх купцоў — трэба памятаць, што тады лівы былі даннікамі Полацка.

Кантроль Полацка над народамі балтыйскага ўзбярэжжа можна назваць вельмі мяккім альбо абмежаваным. Фактычна Полацк задавольваўся толькі зборам даніны і не праводзіў палітыку хрысціянізацыі. Сёння гісторыкі рэлігіі тлумачаць такую дзіўную для еўрапейскага хрысціянства сітуацыю важным адрозненнем паміж візантыйскай і лацінскай цэрквамі. Візантыйская царква не практыкавала шырокага місіянерства, наадварот, чакалася, што іншыя народы самі звернуцца да Візантыі і будуць прасіць пра хрост і ўваход у візантыйскае цывілізацыйнае кола, як, зрэшты, і адбылося з Руссю. Лацінская ж царква настойвала на пашырэнні катэхізацыі, на духоўным і прававым адваяванні новых тэрыторый. Гэтыя два розныя падыходы і сышліся на паўднёва-ўсходніх берагах Балтыкі.

У 1184 г. Майнгард узвёў першы на землях ліваў касцёл у Юксклюлі (*Ükskül*) — там, дзе незадоўга да гэтага была заснаваная нямецкая факторыя. Размешчаны на правым беразе Дзвіны (Даўгавы) Юксклуль (латышскае Ікшкіле) быў першым сталым пасяленнем немцаў у краі — з ліўскай і эстонскай моваў назва так і перакладаецца: üх, іх — адзін, першы і *küll*, *kile* — вёска. Прызнаннем поспехаў Майнгарда стала яго высвячэнне ў 1186 г. на юксклюльскага біскупа. Памёр біскуп Майнгард у 1196 г.

Пераемнік Майнгарда Бертольд Гановерскі, прызначаны біскупам Лівоніі, вырашыў, што супраць непакорных паганцаў павінен быць выкарыстаны меч. Ён дамогся прыраўнання папам ваенных акцый у Лівоніі да крыжовых паходаў. У 1198 г., падчас першага такога паходу супраць ліваў, загінуў сам біскуп Бертольд.

## Альберт і мечаносцы

Яго спадкаемца Альберт Буксгёўдэн (*Albert von Buxhövden*), які высадзіўся на ўзбярэжжы з вайсковай экспедыцыяй з дваццаці трох караблёў, аказаўся больш праніклівым лідарам. Каб суцішыць «вераломных ліваў» біскуп Альберт у 1201 г. заснаваў у вусці Дзвіны замак Рыгу — на месцы ліўскага паселішча, якое было пунктам сустрэчы готландскіх і полацкіх купцоў. Імператар Атон IV у якасці лена ўручыў біскупу Рыгу з навакольнай вобласцю. Так узнікла Рыжскае арцыбіскупства. Каб папулярызаваць вярбоўку ў свае войска, біскуп Альберт прысвяціў Лівонію Дзеве Марыі ды стварыў у 1202 г. рыцарска-царкоўную арганізацыю — *Fratres Militiae Christi* (Ордэн «Братоў Хрыстовага рыцарства»).

Мэтай Ордэна была абарона заснаванага ў Лівоніі Касцёлу і хрысціянізацыя паганцаў: ліваў, латышскіх плямёнаў, эстаў. Браты ордэна давалі зарокі — не браць шлюбу; падпарадкоўвацца Святому пасаду і свайму біскупу; змагацца ўсё жыццё з паганцамі.

Праз тры гады пасля стварэння, у 1205 г., ордэн атрымаў зацверджаны папам рымскім Інакенціем III Статут, за ўзор якога быў узяты Статут ордэна храмоўнікаў (тампліераў). Члены ордэна падзяляліся на братоў-рыцараў, братоў-святароў і братоў-службовых. Браты-рыцары насілі белыя плашчы з выявау чырвонага мяча і крыжа над ім. Адсюль паходзіць і пашыраная ў XIII ст. назва рыцараў гэтага ордэна — Schwertbrudere («браты па мячы», «мечаносцы»). Кіраўніка — магістра (майстра, містра) абіралі з ліку рыцараў усе браты ордэна.

Апорнымі пунктамі і структурнымі часткамі ордэна былі правінцыйныя замкі, браты аднаго замка складалі канвент, сход братоў замка — капітул. Кіраўнікамі правінцыйных замкаў былі комтуры (начальнікі замкаў) і фогты (ордэнскія службоўцы, у руках якіх знаходзілася ў тым ліку і судовая ўлада). Беларускае слова «войт» мае ў сваіх вытоках менавіта нямецкае слова: сярэдневерхненямецкае *Voget*, *Voit* — «дазорца, валадар».

Гэтае каласальнае прадпрыемства — каланізацыя паўднёва-ўсходняга ўзбярэжжа Балтыкі — і сёння можа ўразіць маштабамі. Усё сплялося тут: амбіцыі і шчырыя жаданні, авантурызм і бліскучая арганізацыя. Для многіх малодшых сыноў нямецкага рыцарства на радзіме не было перспектываў, і карэнныя народы мусілі бараніць ад іх сваю зямлю. За цывілізацыю прыходзіцца плаціць.

Вядома, нямецкае пранікненне як мінімум можна назваць



Руіны замка ў Кукенойсе (Кокнесе, Латвія). Каменны замак там узвялі лівонцы, адабраўшы ў Полацка кантроль над гэтым фарпостам на Дзвіне.

**Алег Дзярновіч**

Гісторык. Нар. у 1966.
Аўтар працаў па гісторыі, гісторыі культуры, археалогіі Сярэднявечча і Новага часу.

экспансіяй. Але мы рызыкуем шмат чаго не зразумець у тых падзеях, калі не будзем улічваць рэлігійны фактар. Жак Ле Гоф пісаў пра зараджэнне падвойнага заваёўнага руху, вынікам якога стала пашырэнне хрысціянства ў Еўропе і далёкія крыжовыя паходы ў мусульманскія краіны: «...фронт евангелізацыі размясціўся на ўсходзе і поўначы Еўропы, праявіўшы тэндэнцыю да зліцця з нямецкай экспансіяй».

## Полацк губляе кантроль

Як ужо адзначалася, нямецкая калонія на Дзвіне ад самага пачатку ўступіла ў кантакт з Полацкай зямлёй. Тым больш што падзвінскія княствы Герцыке і Кукенойс, населеныя латгаламі і селамі (а самі гарады — крывічамі), знаходзіліся ў палітычнай сувязі з Полацкам. Альбо нават, як мяркуе значная колькасць гісторыкаў, гэтыя дзяржаўныя ўтварэнні былі васаламі полацкага князя. Адсылаючы да гэтых розных ацэнак, пецярбургскі гісторык і археолаг Васіль Булкін піша: «З аднаго боку, па-ранейшаму прызнаецца выключнасць Герцыке і Кукенойса як полацкіх уладанняў XIII ст. сярод іншых сінхронных паселішчаў Латвіі, з іншага — падсвядома адчуваецца невыразнасць арганічнай сувязі (што справакавана часткова адсутнасцю летапісанага матэрыялу) паміж імі і іншымі гарадамі Полацкай зямлі».

Асабліва шмат увагі полацкаму кірунку надаваў біскуп Альберт. Хутка адносіны сталі варожымі. 1203 годам датуецца першы паход полацкага князя на лівонскіх немцаў. Тады палачане ўзялі ў аблогу замак Юксквюль, але з замка Кірхгольм немцы нанеслі контрудар. У 1206 г. полацкага князя Уладзіміра ў паход на немцаў запрасілі лівы. Пасярэдніцкая місія Уладзіміра была сарваная. Пра князя Уладзіміра (*Woldemaro de Ploceke*) мы пэўна ведаем толькі з «Хронікі Лівоніі» Генрыха Латвійскага, ніводная руская крыніца не паведамляе пра такога князя. Але звесткі Генрыха даволі канкрэтныя і не выпадае сумнявацца ў існаванні гэтага прадстаўніка полацкага княскага дома.

Пасля таго, як немцы адбілі замак Кірхгольм (сучасны Саласпілс пад Рыгай), узяты ў аблогу лівамі, сам князь Уладзімір рушыў пад ягоныя сцены, але гэты замак, як і Юксквюль, і Гольм, таксама не быў узяты. Аблога Гольма запомнілася сучаснікам тым, што полацкае войска ўжыло там камнямётныя машыны. А неўзабаве віжы данеслі палачанам, што бычылі шмат караблёў у Балтыцы, якія былі прынятыя за нямецкія. Князь Уладзімір адступіў. Цяпер мяркуецца, што тое быў дацкі флот, які плыў на заваёву Эстоніі.

На працягу 1208—1210 гг. пад нямецкі кантроль перайшлі Кукенойс і Герцыке, у выніку дамоваў 1210 і 1212 гг. намінальная ўлада Полацка над лівамі і латгаламі была спыненая, уплыў Полацка ў рэгіёне нейтралізаваны.

## Handelsfreiheit

Па Дзвінскай артэрыі ўсталяваліся стабільныя гандлёвыя зносіны. Трэба адзначыць, што для балтыйскага тавараабароту XII—XIII ст. галоўным быў прынцып свабоды гандлю — *handelsfreiheit*, які забяспечваў усім купцам — мясцовым і замежным — свабоду перасоўвання і бязмытны гандаль. Тэндэнцыя да ўсталявання ў Лівоніі прывілеяў нямецкага купецтва за кошт русінаў і мясцовых купцоў — за кошт замежных праявілася не раней за канец XIII ст.

Лівонска-полацкае супрацьстаянне адбывалася на фоне татальнай адсутнасці салідарнасці паміж карэннымі народамі Лівоніі. Латгалы варагавалі з лівамі, а таксама з эстамі. У сваю чаргу латгалы і земгалы былі найбольш лаяльнымі да немцаў. Трэба яшчэ ўзгадаць, што ў 1216 г. у саюзе з эстамі рыхтаваўся новы вялікі полацкі паход супраць Лівонскага ордэна. Полацкі князь запрасіў у паход і літоўцаў. Але нечаканая смерць князя Уладзіміра спыніла выправу войска. Гэта была апошняя спроба Полацка паўплываць на лёс Лівоніі.





**Мечаносцамі рыцараў Лівонскага ордэна называлі з-за эмблемы, на якой былі крыж і меч.**

**Рыжскі замак — адзін за найстаражытнейшых каменных будынкаў — на гравюры 1515.**

Немцы сталі гаспадарамі ў Краіне Дзевы Марыі, і, за малым выключэннем, менавіта яны вызначалі гісторыю каланізацыі, гаспадаркі і царквы ў Лівоніі на працягу стагоддзяў. Латышы, эстонцы і лівы (*undeutsche* — «не немцы» паводле тагачаснай тэрміналогіі) сталі палітычна непаўнапраўным насельніцтвам.

## Узнікненне Лівонскай канфедэрацыі

Ад 1210—1211 гадоў, пасля аднаўлення гандлю па Дзвіне, пачынаецца імклівы рост Рыгі. Змяняецца і яе вонкавы выгляд — да 1234 г. заканчваецца будаўніцтва гарадскіх муроў. Дзеля ілюстрацыі дынамікі развіцця Рыгі можна падаць статыстыку росту жыхарства горада: у 30-х гадах XIII ст. колькасць жыхароў ацэнваецца ў 2.400 чалавек, у сяр. XIV ст. (да эпідэміі 50-х гадоў) — 6—7 тыс. чал., у XV ст. — 8 тыс. чал., у сяр. XVI ст. — 12 тыс. чал.

Да 1210 г. нямецкія рыцары здолелі ўсталяваць свой кантроль па абодвух берагах Дзвіны, і біскуп Альберт скіраваў іх наступ на поўнач — на тэрыторыю Эстоніі. У 1217 г. мечаносцы разграмілі сілы эстаў ды забілі іх правадыра Лямбіту. Але Паўночная Эстонія і выспы заставаліся свабоднымі яшчэ каля дзесяці год. Завяршаючы заваёвы, біскуп Альберт заключыў альянс з дацкім каралём Вальдэмарам II, які ў 1219 г. высадзіўся з войскам на паўночным узбярэжжы Эстоніі. Вальдэмар II быў сынам дацкага караля Вальдэмара I і дачкі менскага князя Валадара Глебавіча Сафіі. Датчане захапілі крэпасць эстаў Лінданіс, на месцы якой быў закладзены Рэвель (Талін). Але пасля вялікага паўстання эстаў 1343—1345 гг. Данія перадала сюзерэнітэт над Паўночнай Эстоніяй Лівонскаму ордэну.

Нягледзячы на падабенства з тампліерамі Статутам, мечаносцы ад самага пачатку залежалі ад улады біскупаў. Толькі ў 1207 г. ордэн здолеў атрымаць ад Рыжскага біскупа Альберта трацiну ўсіх заваяваных земляў у якасці лена. Узніклы тады канфлікт рыцараў з біскупам мусіў улагоджваць сам папа. Паступова, калі з пашырэннем каланізацыі ў Лівоніі ствараліся новыя біскупствы, ордэн заключаў з імі такія ж пагадненні, як з Рыгай. У выніку ў XIII ст. Лівонія пачала афармляцца як канфедэрацыя царкоўна-феадальных дзяржаваў, якая складалася з наступных частак: уласна Лівонскага ордэна (59 % усёй тэрыторыі Лівоніі), Рыжскага арцыбіскупства (16 % тэрыторыі), біскупстваў Дэрпцкага, Курляндскага, Эзэльскага, Рэвельскага і 19 лівонскіх гарадоў, найперш — ганзейскага горада Рыгі (25 % пазасталай тэрыторыі). Ордэнскія землі былі раскінутыя па ўсім краі, але найбольшая іх канцэнтрацыя назіралася на поўначы цяперашняй Латвіі і поўдні Эстоніі, а таксама ўздоўж правага берага Дзвіны. У сваіх уладаннях магістр, арцыбіскуп і біскупы былі суверэнамі, у крыніцах яны называюцца як *Landesherr*. Апроч таго, асаблівага статусу дамагалася Рыга, што пастаянна было падставай для канфлікту горада са сваім сеньёрам — рыжскім арцыбіскупам. Дадатковую аўтаномію гандлёвым гарадам Лівоніі (Рыга, Рэвель, Дэрпт) надавала іх членства ў Ганзейскім саюзе, у які Рыга ўступіла ў 1282 г. Лівонія падпарадкоўвалася папу, але намінальна край знаходзіўся таксама пад патранатам імператара Святой Рымскай імперыі нямецкай нацыі. Рыжскія арцыбіскупы былі князямі імперыі, хоць часткаю імперыі ў XIII—XV ст. Лівонія не была... Усё ж найбольшы ўплыў на лівонскія справы меў Святы пасад.

Трэба ўлічваць усе названыя палітыка-юрыдычныя суб'екты, калі вядзецца размова пра Лівонію — гэты царкоўна-вайскова-гарадскі кангламерат. Падобная складана-іерархізаваная структура была звыклаю для сярэднявечнай Еўропы, грамадскія сувязі якой грунтаваліся на строга прававой аснове. Сярэднявечнае права (і, можна сказаць, ягоная частка — феадальнае права), а таксама хрысціянскі светапогляд знітоўвалі ў адзіную функцыянальную сістэму аўтаномныя суб'екты тагачаснай Еўропы. Сучаснаму чытачу, без уліку гэтага прававога пачатку, могуць быць да канца не зразумелымі прынцыпы дзеяння такіх складаных дзяржаўна-палітычных утварэнняў. Да ўсяго, тут яшчэ трэба дадаць сувязі Лівонскага ордэна з Нямецкім ордэнам увогуле і Прусіяй у прыватнасці, якія таксама не былі адналінейнымі.





**Змагар з лівонцамі князь Уладзімір Полацкі, трапіў нават на праект банкнот незалежнай Беларусі ў пачатку 1990-х.**

## Нямецкі ордэн

Заснаваны ў 1198—1199 гг. у Палесціне падчас Трэцяга крыжовага паходу «Ордэн шпіталя Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Іерусаліме» на працягу XIII ст. стаў найбуйнейшым землеўладальнікам сярод усіх рыцарска-манаскіх арганізацыяў. Тэрытарыяльныя ўладанні ордэна — балеі (Balleien) — былі размешчаныя па ўсёй Еўропе, але найперш на нямецкіх землях і вакол нямецкамоўнага тэрытарыяльнага арэалу: у Аўстрыі, Цюрынг-Саксоніі, Эльзас-Бургундыі, Латарынгіі, Кобленцы, Марбургу, Боцэне, Вестфаліі, Нідэрландах, Багеміі. Хоць Статут не абмяжоўваў членства ў ордэне паводле нацыянальных і сацыяльных прыкметаў, з самага пачатку ў гэтай арганізацыі дамінавалі нямецкія рыцары. Хуткае «анямечванне» ордэна прывяло да таго, што ў лацінскай мове яго коратка пачалі называць проста *Ordo Theutonicorum* (адсюль і пашыраная ў нас назва — Тэўтонскі ордэн), а ў нямецкай мове — *Deutsche Orden*. Тэўтонскія рыцары насілі на сваіх белых адзеннях чорныя выявы крыжоў, таму палякі і прзвалі іх крыжакамі, гэтае слова значна пазней было запазычанае старабеларускай літаратурай.

## Катастрофа пад Шаўлямі

Ордэн жа Братоў Хрыстовага рыцарства адчуваў патрэбу ў прытоку новых сілаў дзеля нямецкай каланізацыі Лівоніі. Яшчэ ў 1231 г. магістр Фолквін пачаў перамовы пра далучэнне да Нямецкага ордэна. Параза лівонцаў пры Саўле (пад Шаўлямі) 22 жніўня 1236 г., калі загінула палова рыцараў і сам магістр, паскорыла працэс аб'яднання. У гэтай бітве лівонскае рыцарства дзейнічала разам са сваімі саюзнікамі — ахрышчынымі эстамі, лівамі, латгаламі, а таксама аддзелам з двухсот пскавічоў і асобнымі наўгародскімі ваярамі. Сама гэтая выправа была першым Жамойцкім крыжовым паходам, і аб'яднаным вакол лівонцаў сілам супрацьстаялі жамойты і земгалы. Цяжкая рыцарская кавалерыя захрасла на балацістай мясцовасці і лёгка ўзброеным і мабільным балцкім ваярам заставалася толькі дабіць разбалансаванае войска.

Пасля такой паразы ордэн мечаносцаў ужо не здолеў узнавіцца. 12 мая 1237 г. папа Георгій IX і вялікі магістр Нямецкага ордэна Герман фон Зальц далучылі Лівонскі ордэн да Нямецкага. Лівонія стала адною з правінцыяў Нямецкага ордэна; лівонскія рыцары прынялі Статут і сімволіку Нямецкага ордэна, апранулі плашчы яго рыцараў. У Лівонію прыбыло першае падмацаванне — новы правінцыйны магістр Герман фон Бальке на чале 60-ці прускіх рыцараў. Цяпер Лівонскі ордэн стаў афіцыйна называцца Нямецкім ордэнам Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Лівоніі.

З пункту гледжання юрыдычнага статусу надалей выкарыстоўваць словазлучэнне «Лівонскі ордэн» некарэктна. Але зважаючы на рэальнае становішча Лівоніі, сучаснікі пісалі пра «Ліфлянцкі» ці «Іфлянцкі закон» (у Метрыцы ВКЛ). Кіраўнік усяго Нямецкага ордэна, рэзідэнцыя якога з 1309 г. месцілася ўжо ў Прусіі — у Мальбарку (Марыенбургу), — насіў тытул Вялікага магістра (Вялікі майстар; *Hochmeister; magister generalis*), кіраўнік жа Лівонскай часткі ордэна меў тытул магістра (майстра; містр у Метрыцы ВКЛ).

## Пераможаныя перамаглі

Нямецкі ордэн увогуле, у тым ліку і яго лівонская частка, стаў сур'ёзнай эканамічнай сілай у Балтыйскім рэгіёне, а эканамічныя інстытуты ордэна ў XIII—XVI ст. былі найбольш эфектыўнымі сярод тых, што дзейнічалі ў іншых дзяржавах гэтага рэгіёну. Папскія булы XIII ст. забяспечылі ордэну свабодны гандлёвы абмен з Заходняй і Усходняй Еўропай, у выніку чаго ўзнік дзяржаўны гандаль і была выпрацаваная складаная і разгалінаваная сістэма яго арганізацыі. А для беларускіх зямель Рыга стала тым портам, праз які экспартаваліся хлеб і тавары лясных промыслаў — галоўныя прадметы збыту беларускай і літоўскай шляхты.

Гісторыя Лівоніі пакінула нам некалькі ўрокаў. Можна бачыць, якую высокую цану мусяць заплаціць народы за ўваходжанне ў цывілізацыю, якую потым назавуць Заходняй. З іншага боку, мы пераконваемся ў надзвычайнай плённасці сімбіёзу розных народаў і эфектыўнасці іх сумеснай працы, нават калі гэтае супрацоўніцтва пабудаванае паводле жорсткіх іерархічных прынцыпаў, якія падзялялі немцаў, эстаў, ліваў і латышоў Лівоніі. Але вось урок — гістарычнымі пераможцамі аказаліся ўсё роўна карэнныя народы.

*Працяг будзе.*



# Агонь нас любіць

Алесь Кіркевіч. Пачатак рамана.

Па салоне павольна ішла ўсмешлівая сцюардэса сярэдніх гадоў, трымаючы перад сабой тацу з ледзяшамі, нібы памочнік святара, які пасля цалавання крыжа раздае кавалачкі прэснага хлеба грэшнікам, якія не атрымалі прычасця. У такіх выпадках Несцяровіч заўжды браў большы кавалачак, ці тое праз свае цяжкія грахі, ці тое з педантычнасці — каб менш заставалася выкідаць птушкам пасля парафіяльных аб'яваў і заканчэння службы. З ледзяшамі ўсё прасцей — яны аднолькавыя. Лёша ўзяў цукерку ў серабрыстай абгортцы ды злёгку крануўся пляча дзяўчыны з залатымі валасамі, якая сядзела побач ды ўзіралася ў ілюмінатар.

— Насця, будзеш?

— Угу.

Пасля невялічкай паўзы дзяўчо кіўнула галавой ды ўзяла адразу некалькі цукерак, чым на імгненне збіла ўсмешку з твару сцюардэсы. Зрэшты, якая ёй розніца? Гэта ж не з яе кішэні цукеркі, а мы не ў дзіцячым садку, каб жанчына з сувора закручанай гулькай на галаве клапацілася пра нашы малочныя зубы. Ды і ці ведаеце вы, пані сцюардэса, што Наста так робіць заўжды? Нават Лёша Несцяровіч, які ведае яе не больш за тыдзень, ужо ў курсе.

Там, у старадаўнім горадзе з нямымі шэрымі сценамі і гатычнымі вежачкамі над касцёламі, адкуль яны ляцелі, Наста так і рабіла: заграбала цукеркі цэлай жменяй на рэсэпшэне гатэля, пырскалася парфумай у элітных крамах, якую не збіралася набываць — так, паспрабаваць. Не, яна не халяўшчыца і заробак для Беларусі мае зусім не благі, проста яна так любіць — усё паспрабаваць.

— Лёша, напішы мне фільмы, пра якія ты казаў, бо мы ўжо сядаем...

— Так, давай паперу, — Несцяровіч уздыхнуў і сціснуў сківіцы.

Ён ведаў, што ў аэрапорце яе чакае жаніх з шыкоўным букетам кветак, які цэлы тыдзень хваляваўся, пісаў, часам званіў па скайпе і... піў. Чаму піў? Бо па-іншаму не ўмее здымаць стрэсы. Хаця які тут стрэс? Нявеста палядела ў Еўропу, тожа мне... Калі Несцяровіч даведаўся, хто менавіта мае неўзабаве стаць суджаным «агнявой Насты», яшчэ там, у цудоўным горадзе, то абапёрся на сцяну гатэльнага нумара, каб не ўпасці: «Гэты? Гэтая маўклівая мізантрапічная істота? Чаму?..» Адказу не было. Наста адно паціснула плячыма, зрабіла вінаватыя вочкі ды шчыльней захуталася ў коўдру. Яна так любіць: паспрабаваць.

Зараз трэба было хаця б на хвіліну абстрагавацца і накрэмзаць пару прозвішчаў рэжысёраў ды назваў стужак у нататнічку з пазалочанымі лістамі на зрэзе. Што там? Курасава, канечне ж, Берталучы, Таранціна, гэты... як яго, во, «Ангельскі пацыент». Рэжысёра Несцяровіч не памятаў, бо не быў вялікім аматарам кіно. Гэтым часам Наста засяроджана нешта перабірала паміж падбароддзем і грудзьмі, нібы ружанец. Урэшце, працягнула яму свой кулачок.

— Дай руку.

Несцяровіч працягнуў далонь, адчуўшы цяпло ейнай бялявай скуры, і нейкі невагомы металічны прадмет, памерам з манетку, лёг паміж вялікім і ўказальным пальцам. Гэта быў срэбны медальён у форме далоні з абыякавым вокам пасярэдзіне — «Хамса». Такі сімвал даволі распаўсюджаны ў семіцкім рэгіёне, пра гэта ён ведаў яшчэ з лекцыяў «Старадаўняга Усходу» ды курсу археалогіі.

У аэрапорце ўсё прайшло па загадзя вызначаным сцэнары. Ён ішоў першым, яна — апошняй. На выхадзе Несцяровіч нават павітаўся з даўгалыгім жаніхом з ужо выпіраючым з-пад скуранкі піўным жыватом, які, падаваласся, не ведаў, куды падзець букет жоўтых ружаў, пад колер яе валасоў, хваляваўся. Яны некалі перасякаліся ў такіх жа навучальных паездках, як гэтая, не ўяўляючы, што жыццё яшчэ звядзе, але ўжо зусім не па прафесійнай лініі. Пакінуўшы расхваляванага жаніха чакаць сваё шчасце, Несцяровіч моўчкі скіраваўся да аўтаматычных дзвярэй, за якімі чакала маршрутка да Мінска і бясконцая беларуская зіма.

* * *

«Частуйцеся, хлопцы», — Альшэўскі працягнуў пластыкавы кантэйнерчык з акуратна раскладзенымі лустамі парэзанага сала, пад якімі хаваўся чорны хлеб. Несцяровіч таксама ўзяў кавалачак. На свежым паветры ежа заўжды заходзіла добра, асабліва калі гэта сала, асабліва — калі ад Альшэўскага.

Пратэст у Курапатах трываў ужо некалькі дзён, а сёння з'явілася яшчэ і вялізная жалезная бочка, у якой абаронцы нацыянальнага некропаля расклалі вогнішча, прарубіўшы металічны панцыр пачвары сякерай у некалькіх месцах — каб паветра лепей кружляла. Над курапацкім хваёвым лесам, бетоннымі скрынямі спальнага квартала з рэдкімі агеньчыкамі, пяціметровым металапрофільным плотам будоўлі, якая і сталася прычынай пратэстаў, лагерам абаронцаў, якія кружыліся вакол бочкі, нібы матылькі вакол лямпачкі, узышлі халодныя зімовыя зоркі, бачыць якія не перашкодзілі нават агні МКАДа, які пралягаў тут жа, праз некалькі метраў. Зрэшты, некалькі ліхтароў з трасы, якія кідалі сваё святло і на лагер, чамусьці сёння не працавалі.

Бруд, раз'езджаны будаўнічай тэхнікай, перамяшаны гумовымі ботамі рабочых, берцамі пратэстоўцаў, белымі ды жоўтымі польскімі няўцепленымі красоўкамі журналісточак ды чорнымі вастраносымі чаравікамі «Марка», якія нават узімку насілі «таптуны» з маленькімі відэакамерамі, застыг, захаваўшы тысячы арнаментаў падэшваў ды аўтамабільных шынаў. Некалькі прамерзлых турыстычных намётаў ды шыхт з пластыкавых касак, ці то адабраных у рабочых падчас сутычак, ці то прынесеных спагадлівымі мінчукамі, былі злёгку прыцярушаныя срэбнымі крышталікамі снегу.

Несцяровіч запаліў цыгарэту ды адышоў ад «бочкі гонару», якая вельмі хутка сталася гарачым пульсуючым сэрцам пратэсту — хай бліжэй падыдуць іншыя, пагрэюцца. Тым больш, цяпер вакол бочкі ўжо пачалі з'яўляцца паддоны, нагам не так халадно. «Малпа кшталту цябе некалі ператварылася ў чалавека», — іранічна заўважыў Руткоўскі, партыйны лідар, які зазвычай вазіў актывістаў у Курапаты і назад у Менск, на адрас Несцяровіча, які прывалок аднекуль з глыбіняў мікрараёна першы паддон.

Здалёк, з боку транспартнага прыпынку і дзіцячай пляцоўкі, набліжалася дзявочая постаць з распушчанымі светлымі валасамі. Яна. Мабыць, на журналісцкае заданне, ноч вартаваць. Толькі гэтага не хапала... Пасля той вандроўкі ў старадаўні горад з нямымі сценамі і гатычнымі вежачкамі, яны некалькі разоў бачыліся ў кавярнях, што ўжо само па сабе было досыць нязвыклай з'явай. Падарожны раман, здавалася, перарос у нешта іншае. У што? Ніхто не адважваўся сказаць.

— Прывет.

— Вітаю. Ты на ноч?

— Так. Муж не хацеў адпускаць. Накачаў мяне троху...

— Чым накачаў?

— Ну а чым ён мяне можа накачаць? — Насця расплылася ва ўсмешцы. — Алкаголем. Мабыць, думаў, што вып'ю, захачу спаць і нікуды не паеду... Павер, нічым іншым накачаць мяне ён не зможа.

— Угу...

З боку лагера, ад якога Несцяровіч паспеў адысці на пару дзясяткаў метраў, аддзялілася невысокая фігура Андрэя Фешчанкі, 19-гадовага хлапца ў цёплай рабочай робе, які быў гатовы стаяць тут «да перамогі».

— Можа... Гарбаткі? — хлопец прыабняў за плячо Несцяровіча і няўпэўнена паглядзеў на Насту.

— Я піў толькі што, дзяўчыне прапануй.

— Вам...

— Я Насця. Так, можна гарбаты. Чорнай і без цукру.

— Зараз будзе, — нефармальны заўгас лагера ўмомант скіраваўся ў бок тэрмасаў, дэманструючы такт і гасціннасць — сваю асабіста ды ўсёй супольнасці абаронцаў, якая нечакана нарадзілася на здзіўленне палітыкаў, журналістаў ды экспертаў літаральна за пару дзён.

Нейкі час яны стаялі на месцы, гледзячы то ў розныя бакі, то адно на аднаго. Урэшце Наста дастала смартфон, каб адказаць на паведамленне ўсюдыіснага мужа, мауляў, «усё нармальна, даехала, не хвалюйся», альбо «ідзі спаць, моцна кахаю», альбо «не пі шмат, прыеду на таксі ранкам». Святло ад экрана выцягнула з цемры яе антычны скульптурны тварык з нібы застыглай лёгкай усмешкай.

— Хадзем да агню, сагрэешся, — Несцяровіч скінуў недапалак у бок брамы будоўлі, з-за якой чуліся гукі генератара — тамтэйшы вартаўнік таксама грэўся.

* * *

Як за пушчай, за лесам,
за балотам з асакой,
У нядобрым месцы,
па-над вірам, над ракой…

Ля «бочкі гонару» трываў імправізаваны канцэрт для дзесяці чалавек. Уначы народу заўжды меней, чым удзень. Журналісты раз'ехаліся, аматары сэлфі выстаўлялі фота ды пісалі пасты ва ўтульных ложках, кніжнікі ды фарысеі спалі спакойным сном. Асмялелы Андруша Фешчанка гэтым часам прапаноўваў адзінай даме ля вогнішча чарговую гарбату. Набліжалася трэцяя гадзіна ночы.

— Дзякуй, я ўжо, мабыць, хутка паеду, — адмоўна захітала галавой Наста.

— Ты ж казала, што на ўсю ноч, — вырашыў удакладніць Несцяровіч.

— Так, але тут... нічога не робіцца. Лепш заўтра прыеду на дзень, а пакуль — высплюся. Паехалі.

— Не, я... хіба застануся. Едзь, — не адрываючы вачэй ад пякельнай прыгажосці дагараючых паляпякаў, рэзюмаваў Лёша.

Дзверы адчыні, каханая мая,
Сэрца глыбіні, каханая мая,
Запалі агні…

— ...Так, народ, маю яшчэ два месцы ў машыне, — не вельмі гласна, каб не пакрыўдзіць заслужанага барда, які прыехаў ці то з Оршы, ці то з Гомеля, па-змоўніцку прапанаваў Руткоўскі, — Насця, Лёша, едзеце?



**Алесь Кіркевіч**

Нар. 1989 у Гродне, у сям'і гісторыкаў. Быў адным з лідараў Маладога фронту. Пасля Плошчы-2010 асуджаны на чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Памілаваны ў верасні 2011. Працуе журналістам-фрылансерам.

— Бяры Насту і... Юнгера, ён не спаў даўно.

Не хадзі…у Курапаты,
не хадзі да бочкі той,
Бо нячыста сіла авалодае табой.

Развітвацца з тымі, хто ад'язджае з начнога пратэсту, — так сабе адчуванне. Нашмат горш, калі едзеш сам і маеш пацiскаць рукі сябрам, якія сёння ўначы не заснуць, з якім халера-яго-ведае што здарыцца за ноч. Зрэшты, акрамя дзённых патасовак з рабочымі, пакуль яшчэ нічога ні з кім не здаралася. Ды і пасты варты ўспрымаліся, хутчэй, з гумарам. Пакуль што.

Наста злёгку прыабняла Несцяровіча. Ён не пакрыўдзіўся, бо ведаў, што рэпутацыя для яе важная штука. Сваю рэпутацыю ён каштоўнасцю не лічыў, ды і як яе можна сапсаваць абдымкамі?

Запалі агні, каханая мая,
Падары мне сына…

* * *

— Ведаеш, уся наша гісторыя — суцэльны міф, — Альшэўскі пусціў струмень дыму ў марознае паветра. — Кажуць: шляхта, шляхта... А дзе тая шляхта была падчас войнаў? Яны нават паспалітае рушанне сабраць не маглі, калі пачыналася заваруха. У маскавітаў, зазвычай, ужо стаяла сабранае войска на мяжы, калі нашыя толькі вырашалі, што трэба сустрэцца ды пакумекаць, як бараніцца. Рэальны мабілізацыйны патэнцыял у Масковіі і ВКЛ быў зусім розны, сечош?

— Угу, — Несцяровіч чыркануў некалькі разоў пражскай запальнічкай «а-ля зіпа», пакуль на канцы цыгарэты не заззяў крохкі вугельчык.

— ...Што атрымліваецца? Сяляне ВКЛ сваю частку сацыяльнай дамовы выканалі, то бок жраць заўжды было чаго. А шляхта, якая мелася іх бараніць, ні х...я не выканала. Баярын, які не з'явіўся на вайну ў Масковіі, ведаў, што з ім стане ў такім выпадку: пазбавяць і майна, і тыквы, — Альшэўскі свіснуў і правёў у паветры далонню, нібы сцінаючы «тыкву» маскавіта. — А ў нас — нічога, ну, не з'явіўся на паспалітае рушанне, і што? Так і прас...лі дзяржаву.

У гістарычных спрэчках Альшэўскі быў бязлітасны. Глядзіш сабе на яго, у чорнай вопратцы, са спартовай фактурай і адпаведным фэйсам, у якога нават даішнікі не просяць дакументы, калі спыняюць, адпускаючы на ўсе чатыры бакі як «свайго», і не верыш, што ён табе зараз раскажа пра асаблівасці гаржэтаў у 18-м палку літоўскіх гусараў падчас вайны 1812 года, Дамініка Радзівіла, Ёзэфа Панятоўскага... Што ў лоб можа даць — верыш. Пра гаржэты — не, не верыцца. Пакуль не пазнаёмішся бліжэй.

Ля бочкі гэтым часам працягваўся «канцэрт». Хлопцы, чалавек восем, моўчкі глядзелі на агонь, разважаючы пра сваё. Нехта нават прыснуў, прыладкаваўшыся на горцы дроваў, прывезеных добрымі людзьмі з найбліжэйшай запраўкі. Набліжалася чацвёртая ранку.

Капытамі топчуць, капытамі,
Памяць, памяць…

* * *

— Возьмем тых жа касінераў 63-га года, — Альшэўскі працягваў. — Гэта кім трэба быць, каб дадумацца мужыкоў з косамі пасылаць супраць шыхта з агню...

«Папаліcь, сукі! Вам п..ц! Г-а-а...» — крыкі з-за рогу будоўлі раптоўна перарвалі ідылію. На лагер неслася чалавек 15—20, абсалютна аднолькавага выгляду, у чорным, з закрытымі маскамі і шалікамі тварамі. У руках некаторых былі ці тое біты, ці тое драўляныя кіі.

Несцяровіч паспеў зрабіць толькі адзін крок назад, сагнуць калені ды згрупавацца. Першым ударам яго збілі з ног. Там, на зямлі, ужо іншы «чорны» прыпячатаў па галаве драўляным калом, які трымаў дзвюма рукамі. Перад вачыма паплыло, па правай скроні пабег цёплы струменьчык. Нібы ў тумане і чамусьці без гуку, быццам у наладах гэтай камп'ютарнай гульні нехта адключыў аўдыяэфекты, ён бачыў, як група постацяў бяжыць уніз, у бок курапацкага лесу. Тут жа, праз дзясятак-другі метраў, Альшэўскі адзін, з пасунутай на бок шапкай, махае нечым, здаецца, сякерай, акружаны з усіх бакоў чорнымі фігурамі з каламі ў руках. Цемра і ...такая блізкая заледзянелая зямля.

* * *

— Нармальна?

— Так.

— У цябе кроў.

— Нічога, усё ок.

— Ну, глядзі.

Альшэўскі выцер рукавом нос і працягнуў працу, завастраючы сякерай адзін з калоў, пакінутых нападнікамі. Два, ужо завостраныя, стаялі побач, прыхіленыя да дрэўца, на якім, крыху вышэй, вецер граўся ці то кавалкам дажджавіка, ці то пакетам. Лагер быў разбіты, намёт расцярушаны, сцяг скрадзены, гарачае вуголле з перакуленай бочкі грэла замерзлую чорную зямлю, але сагрэць не магло — адзін за адным вугольчыкі гаслі, апошні раз у сваім жыцці яскрава падміргнуўшы вечнасці, перад тым як знікнуць у цемры.

Несцяровіч зрабіў некалькі крокаў, каб набраць у руку снегу ды памыць твар. Прыемны холад апаліў спачатку далонь, пасля скронь і няголеную некалькі дзён шчаку. Вядома, атрымалася толькі горш, кроў размазалася па абліччы, але нічога, нармальна ўмыцца можна і пасля. Хісткай хадой ён скіраваўся да бочкі, каб падняць яе ды прытаптаць рэшткі вуголля, якое яшчэ тамсям курэла.

— Дзе рэшта? — трохі прыйшоўшы да цямы, Несцяровіч абвёў позіркам лагер і, не далічыўшыся прыкладна паловы «варты», звярнуўся да Альшэўскага.

— Не ведаю. Зараз скончу — сходзім, глянем.

* * *

Начны курапацкі лес падаваўся зімовай казкай. Рэдкія гукі машынаў з МКАДа, водбліскі святла далёкіх ліхтароў, маўклівыя сосны, якія карэннем кранаюцца таямніцаў нацыянальнай трагедыі ды ганьбы, ціша. Утрох яны ішлі з каламі напагатове на крыху падагнутых нагах, акуратна ступаючы па прасціне снегу, нібыта баючыся зняважыць сон забітых тут 80 гадоў таму: Несцяровіч, Альшэўскі ды акулярык Кот.

— Бач, сляды.

— Шырокія — значыць, беглі.

— А што там?

— Там, — Альшэўскі ўздыхнуў і стаў у поўны рост, — пасёлак Сонечны і паралельная МКАДу траса. Значыць, там, за лесам, была прыпаркаваная машына. Яны ўжо з'ехалі.

— А нашы? — нешматслоўны Кот паставіў сваю «зброю» тупым канцом на зямлю і таксама выпрастаўся.

— Будзем шукаць.

З абаронцаў бракавала чалавек пяць. Што з імі? Скралі, пакалечылі, кінулі ці прывязалі дзе ў лесе? Магло быць рознае. Песні скончыліся.

Калі яны зноўку падышлі да тунэля пад МКАДам, які злучаў горад з курапацкім лесам, наверсе паказаліся дзве фігуры, якія, азіраючыся па баках, няўпэўненымі рухамі намацвалі металічную дарожную агароджу і збіраліся спускацца. Па адмашцы Альшэўскага хлопцы занізіліся, але, прыгледзеўшыся да нязграбных сілуэтаў з пустымі рукамі, пачалі пераглядацца... Не, не нападнікі.

— Хто такія?! — першы адазваўся Кот.

Спалоханыя постаці пачалі назад ускарасквацца на дарогу. Драбнейшы зухавата залез першым, а вось другі, больш мажны, не разлічыў сілаў і пачаў з'язджаць па схіле. Ён нешта крычаў свайму таварышу, цягнуў руку, той спрабаваў дапамагчы. Не, дакладна не нападнікі.

— Андруша, ты?!

Постаці наверсе скамянелі, мажны нават перастаў з'язджаць уніз, мабыць, таму што спыніў адчайныя рухі.

— Ты?!

Дробны перастаў дапамагаць таварышу і выпрастаўся, узіраючыся ў кавалак лесу, скуль яго гукалі.

— Хто вы?!

— Свае!

— Фамілію назаві! — пасля паўзы зноў гукнуў дробны, сарваўшыся на нервовы фальцэт.

— Кот, ё... тваю маць, спускайся!

Альшэўскі сплюнуў і дастаў цыгарэту, яго вочы бязгучна смяяліся: «Абаронцы некропаля, мля...»

* * *

У хуткім часе вярнуліся і іншыя «зніклыя без вестак»: нехта хаваўся ў лесе, нехта знік у каменных джунглях мікраараёна. Калі пра інцыдэнт стала вядома, у лагер паваліў народ. Руткоўскі чамусьці прыхапіў з сабой даўжэзны парасон — відаць, каб адбівацца ад нападнікаў у найлепшых джэнтльменскіх традыцыях. Наста таксама прыехала, прычым адной з першых, калі некаму прыйшло ў галаву абтэлефанаваць журналістаў. Фотаапараты, сэлфіпалкі, мікрафоны...

— Што гэта было?

— Напад.

— АМАП паклаў усіх вас тварам у снег?

— Хто вам сказаў, што АМАП? Хто сказаў, што паклаў?..

— На сайтах ужо пішуць.

— Хммм...

— Юра, сфоткай-сфоткай, галава, во! А павярніцеся, калі ласка...

— Усё?

— Яшчэ раз...Так, усё.

— Я пайшоў.

Яна стаяла каля бочкі, якая зноўку задыміла і пускала салюты іскраў у зорнае неба, даючы сігнал камусьці высока-высока, што лагер жывы. Несцяровіч падышоў і моўчкі стаў побач. «Хутка прыедзе міліцыя, нехта ўжо выклікаў». — «М-м-м. Навошта?» — «Ну, на вас жа напаў АМАП, вам трэба пісаць заявы ў міліцыю...» — «О, Божа», — Несцяровіч ледзьве стрымаў смех.

— А што, ты не будзеш пісаць?

— Не.

— Ясна.

— Ты на таксі?

— Так, я сказала кіроўцу пачакаць.

— Паехалі.

На задніх скураных сядушках чорнай «Мазды» яны ехалі моўчкі. Яе далонь сціскала ягоную, пасмы залатых валасоў упалі на чорную, пракопчаную дымам куртку. За акном праносіліся сталінкі, блочныя шматпавярховікі ды святлафоры места, якое чамусьці называлі «горадам сонца». Набліжалася раніца новага дня.

* * *

Шлях на Курапацкую галгофу праз Алею крыжоў заўжды розны, у кожную пару года. У траўні ты ўзіраешся ў бясконцую зеляніну лесу, мацаеш смалістую кару соснаў, схіляешся над мурашнікамі, у якія не рызыкнеш апусціць далонь, але ведаеш: там, унутры, цёпла, там жыццё. Не верыцца, што на гэтым месцы магло адбыцца нешта страшнае. Як у дзяцінстве, калі жывеш з думкай, што ўсё самае жахлівае адбываецца ўначы альбо ў пахмурнае надвор'е, калі сонейка хаваецца і не можа абараніць. А калі сонца ўгары, а вецер гоніць белыя ветразі аблокаў — усё добра, усё наперадзе. Адно крыжы кідаюць свае цені на зялёны дыван маладой травы, нібы сонечныя гадзіннікі, адмяраючы час.

Калі той жа дарогай ідзеш у лістападзе, калі ўсё жывое ўжо памерла, а на зямлю апусціўся першы снег і свет стаў чорна-белым, калі мурашкі схаваліся далёка пад зямлю, забраўшы сваё калектыўнае сонейка і цяпло разам з сабой, у Курапатах страшна. Страшна, бо верыцца — так, тут сапраўды маглі забіваць. І тыя, каго забівалі, не забіралі, як мурашкі, сваё сонейка пад зямлю, бо іхныя сонейкі адляталі ў шэрань неба праз маленечкія адтуліны ў патыліцы, каб ніколі ўжо сюды не вярнуцца. Іх сонца не грэла з-пад зямлі, бо, каб грэла, напэўна, выпаліла б гэты лес ушчэнт альбо, наадварот, зрабіла б яго вечназялёным, адваяваўшы ў холаду хаця б гэты лапік зямлі.

Калі скрозь курапацкі лес ідзеш уначы ў лютым, сярод маўклівых чорных дрэваў і такіх жа маўклівых крыжоў, якія нібыта былі тут заўсёды, і сто, і дзвесце год таму, разумееш, што такое спіраль часу і міф пра вечнае вяртанне, апісаны Мірча Эліадэ. Тут забівалі, а магчыма, будуць забіваць яшчэ. І Божая Маці ў пачатку алеі плача не толькі аб тых, хто адпакутаваў сваё, але і аб тых, у каго ўсё наперадзе. Аб тых, хто тут ніколі не быў. Аб тых, хто п'е смузі ў бары «Ў» і не ўяўляе, як гэта, калі персанальнае сонейка адлятае ў вечнасць праз адтуліну ў патыліцы. Аб тых, хто не верыць, што зіма будзе доўгай.

Яны ішлі па крыжовай алеі ўдзень, быў пачатак сакавіка. За пару соцень метраў дыміўся лагер, а ім хацелася збегчы. Памаўчаць разам і паўзірацца ў розныя бакі, ведаючы, што блізкі чалавек — побач, варта толькі злавіць яго руку.

— Ты ведаеш, які помнік варта было паставіць у Курапатах? — першым загаварыў Несцяровіч.

— Не-е, канечне, не ведаю, — Наста зрабіла вялікія вочы і сціснула губкі, нібы кажучы: «Давай, распавядай, я ж нічога ў гэтым жыцці не ведаю, а ты, мля, генератар ідэй, пісьменнік і г.д. Ве-е-ельмі разумны! Слухаю».

Несцяровіч вытрымаў паўзу і ўсміхнуўся.

— Ну давай, кажы! — яна таксама ўсміхнулася і ўхапіла яго пад руку.

— Ведаеш, — прамову на важную тэму ён заўсёды пачынаў павольна і троху змушана, пасля толькі набіраючы тэмп, пераключаючы адпаведныя перадачы, — розныя там мастакі і інтэлігенты, вядома, прапануюць тут паставіць вялізны крыж, альбо цярновы вянец, альбо сумную дыстрафічную фігуру... Але гэта ўсё папса!

— Ды ты што! — Наста ажно захітала галавой, дэманструючы здзіўленне.

— Не ржы. Проста гэтыя помнікі «а-ля халакост» ужо не выклікаюць у людзей пачуццяў. Ніякіх. Гэта вельмі прадказальна. Што мае быць на месцы расстрэлу? Вядома, крыж. Альбо помнік ацалелага дзеда з дзіцём на руках, як у Хатыні. Ну... нешта такое, абстрактна-трагічнае. А тут мае быць нешта іншае...

— Ты нават ведаеш што, праўда? — Наста зайграла вачыма і зноў усміхнулася.

— Так, ведаю. Тут мае быць мінатаўр.

— Які мінатаўр? — ужо сур'ёзна перапытала дзяўчо.

— Глядзі, мае быць яма — бетонная яма. Унізе стаіць невялічкі бюст мінатаўра.

— Як гэта — бюст мінатаўра — проста галава быка?

— Галава быка і чалавечыя плечы. Дык вось. Мінатаўр, зусім невялічкі, стаіць унізе. А па-над ямай — белая сцяна. Без усялякіх надпісаў, датаў і колькасці забітых. Фішка ў тым, што ўдзень гэтая кампазіцыя амаль незаўважная. Ну сцяна сабе, ну яма, ну скульптурка ўнізе. А ўначы пачынае працаваць ліхтар ці пражэктар, карацей, крыніца святла, якая свеціць на бюст. Чырвоным святлом. У выніку вялізны чорны рагаты цень з'яўляецца на белай сцяне, якая афарбавалася чырвоным.

Наста маўчала, шчыльней прытуліўшыся да Лёшавага пляча, быццам адчула дзіцячы жах ад пачутай толькі што бабулінай казкі.

— Які сэнс гэтага ўсяго? — Лёша працягваў. — А сэнс такі, што мінатаўр спіць у кожным з нас. Гэта жывёльнае, пакрытае танюткай шкарлупінкай культуры, цывілізацыі, інтэлігентнасці, называй як хочаш. І, калі надыходзяць цёмныя часы, мінатаўры з'яўляюцца, павялічваюцца ў памерах, апаноўваюць прастору. Мінатаўра нельга забіць — калі надыдзе дзень, ён проста скурчыцца і пературворыцца ў маленькага балвана на дне бетоннай яміны, «гісторыка-культурную каштоўнасць». Але прыйдзе новая ноч і ён ажыве, а вакол непазбежна пацячэ кроў. Ён будзе заўжды, ён вечны. Пра гэта варта памятаць.

— То бок... гэта помнік энкавэдзістам?

— Магчыма. Першы ў свеце помнік забойцам. Бо забойцы не з космасу прылятаюць, яны тут, сярод нас і ў кожным з нас. І памятаць пра катаў трэба не менш, чым пра ахвяраў. А можа, і больш.

За размовай хлопец і дзяўчына ўжо паспелі зайсці ў тунэль пад МКАДам. Спераду і пазаду бялюткімі кругляшамі ззялі выхады, «святло ў канцы тунэля». Адзін кругляш вёў да лагера і спальных раёнаў сталіцы, іншы — у расстрэльны лес, паміж імі ў пячорнай цемры застыгла пара. Несцяровіч прытуліў да сябе Насту, адчуваючы нават праз зімовую куртку гарачыню яе цела і плаўны пераход ад гнуткай таліі да клубоў. Адной далонню ён прытрымліваў яе за патыліцу, спасцігаючы пальцамі абрысы галавы, схаваныя пад золатам валасоў. З цёмнай пячоры тунэля ён узіраўся ў партал на выхадзе, дзе павольна кружлялі, сядаючы на бетонную костку, сняжынкі.

* * *

— Любіць вас агонь, Настачка, ой, любіць, — стоячы ля бочкі праз пару дзён па нападзе, прамаўляў з усмешкай Сурковіч. — Глядзіце адно, каб крылцаў не апаліў.

Яўген Сурковіч быў натхняльнікам пратэсту, ён першы кінуўся мясіць бруд, біцца з рабочымі іваліць агароджы. Сёння, здаецца, усё ўжо было перадвызначана: пасля начной сутычкі, надзіва, у лагеры істотна пабольела народу і журналістаў, час-почас нават прыязджалі палітыкі, каб забіць калок для намёта ў мёрзлую зямлю перад тэлекамерамі ці пачытаць вершы. Курапаты былі ў трэндзе. Кульмінацыяй пратэсту стаў момант, калі адзін з хлапцоў наўпрост прыкаваў сябе кайданкамі да МАЗа, які меўся заехаць на будоўлю. Пасля гэтага забудоўшчык адмовіўся ад сваіх грандыёзных планаў, з агароджанай тэрыторыі пачала з'язджаць тэхніка, а само намётавае мястэчка пратэстоўцаў дажывала апошнія дні.

...Пасля фразы харызматычнага акулярыка Сурковіча, які, здаецца, быў на ейным вяселлі, Наста не расчырванелася, адно падміргнула ды бліжэй падсунула рукі да чорнага краю бочкі, адкуль шугала полымя. Маўляў, не баюся. Сапраўды, яна не баялася, хоць муж, той самы даўгалыгі з аэрапорта, пагражаў ці то зарэзаць ейнага залётніка, ці то зарэзаць яе, ці то зарэзацца самому і ... па-ранейшаму піў, калі Наста не ночыла дома.

Працяг на старонцы 22.

# Беларусы на службе ЦРУ: AEDEPOT, QKACTIVE, свае сярод чужых

Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах НН.

Беларусы ў праектах ЦРУ ўдзельнічалі не толькі пад эгідай Рады БНР. Хоць супрацоўніцтва Міколы Абрамчыка з амерыканскай разведкай спынілася яшчэ ў снежні 1961 года з ініцыятывы апошняй, беларускія сляды сустракаюцца ў рассакрэчаных архіўных файлах да сярэдзіны 1960-х.

Як мы ўжо згадвалі, Кастусь Мярляк, галоўны агент з беларускага боку для праекта AEDEPOT (падрыхтоўка кадраў на выпадак вайны з СССР), быў адхілены амерыканцамі ад супрацоўніцтва яшчэ ў ліпені 1959 года. Тым не менш рэкрутаваныя ім кандыдаты працягвалі праходзіць падрыхтоўку. Так, станам на 1964 год па гэтай праграме рыхтавалі каля дзясятка беларусаў, сярод якіх згадваюцца прозвішчы Сацэвіча (імя невядомае, 1925 г.н.) і Сігізмунда Ярашэвіча (1930 г.н.). У праекце ўдзельнічалі маладыя беларусы з ЗША, якія паспелі адслужыць у амерыканскай арміі, некаторыя мелі практыку вайны ў Карэі.

Цікава, што ў спісах праекта AEDEPOT з беларусамі аб'яднаныя прадстаўнікі народаў Каўказа. Іх наборам займаўся Чарым Субзокаў — былы вярбоўшчык Паўночнакаўказскага легіёна Вермахта і афіцэр СС. У 1985 годзе Субзокаў загінуў у выніку выбуху, які прагрымеў перад яго ным домам у Нью-Джэрсі. Найбольш верагодным матывам арганізатараў ліквідацыі была помста за ўдзел у Халакосце — перадусім у датычнасці да тэракта падазравалі радыкальную Лігу абароны яўрэяў.

Што да выкарыстання агентаў за жалезнай заслонай — Янка Філістовіч і група Вострыкава таксама не былі адзінымі беларусамі, закінутымі ў БССР паветраным шляхам. Так, 25 лістапада 1955 года маскоўская газета «Ізвестія» паведаміла пра яўку з павіннай Адама Мяфодзевіча Новікава, 1925 г.н., ураджэнца БССР. Падчас нацысцкай акупацыі ён пражываў у Магілёўскай вобласці і быў вывезены на працу ў Германію, застаўся на Захадзе. У 1952 годзе Новікаў далучыўся да НТС (Народна-працоўны саюз — арганізацыя расійскіх салідарыстаў), неўзабаве быў завербаваны ЦРУ і прайшоў падрыхтоўку ў школе ў Бад-Вісээ, ФРГ, у межах праекта AESAURUS.

30 красавіка 1953 года Адам Новікаў дэсантаваўся на тэрыторыі Маладзечанскай вобласці з дакументамі на імя Мікалая Іванавіча Нікіціна. Агулам у красавіку 1953 года на тэрыторыі СССР былі дэсантаваныя васьмёра сяброў НТС. У «Ізвестіях» згадана, што, улічваючы раскаянне шпіёна, яго асудзілі на пяць гадоў лагераў. Паводле даклада Берыі ЦК КПСС ад 15 мая 1953 года, Новікаў падчас вайны супрацоўнічаў з акупантамі, а калі пасля дэсантавання ўвесну 1953-га быў захоплены ў палон, яго вырашылі перавербаваць.



Палітык Мікола Абрамчык і паэтка Наталля Арсеннева. Абрамчык супрацоўнічаў з ЦРУ, а Арсеннева — не.

Як бачым, беларусы змагаліся пад рознымі сцягамі і з рознай матывацыяй. Цікава, што захаваліся ў дакументах ЦРУ прынамсі два імені афіцэраў, якія працавалі з беларускай эміграцыяй: Мірон Талочка і Пітэр Капуста. Мірон Талочка нарадзіўся ў 1920 годзе ў Дарбі, штат Пенсільванія, падчас вайны ўдзельнічаў у бітве за выспу Івадзіма, ад 1954 і да смерці ў 1975 годзе працаваў на ЦРУ. Пітэр Капуста перадусім вядомы сваёй датычнасцю да выдачы СССР перабежчыка з КДБ Юрыя Лагінава (яго западозрылі як двайнога агента, які ён насамрэч не з'яўляўся), а таксама ўдзелам у допытах палкоўніка Нацыянальнага фронту вызвалення Паўднёвага В'етнама Нгуен Тая, які правёў пад следствам тры гады ў пафарбаванай набела, пастаянна асветленай і ахаладжанай камеры. Хто ведае — ці не былі Талочка і Капуста таксама нашчадкамі беларускіх эмігрантаў?

### «Бацькаўшчына» за адну марку

Праект AEQUOR, акрамя падрыхтоўкі разведгрупаў, прадугледжваў таксама фінансавую падтрымку для беларускай прэсы. На гэтыя грошы выдавалася ў Мюнхене газета «Бацькаўшчына», заснаваная яшчэ ў 1947 — акурат дзякуючы амерыканскай дапамозе ад 1955 года яна зрабілася штотыднёвікам — дапамога ад ЦРУ складала 90% ад сродкаў, якія выдаткоўваліся на выданне газеты.

У 1952 годзе пад рэдактарствам Пётры Сыча з'яўляецца гумарыстычны часопіс «Шарсцень», для якога Рада БНР таксама спадзявалася атрымаць падтрымку. Амерыканцы, аднак, настойвалі на зліцці двух выданняў, аргументуючы, што жарты ды карыкатуры друкуюць і ў сур'ёзных газетах па ўсім свеце. Як вынікае з дакументаў, разыходжанні палягалі не толькі ў стылістычным, але найперш у фінансавым рэчышчы — атрымліваць дапамогу на два выданні было выгадней. Але ў выніку беларусам давялося змірыцца са скарачэннем, і «Шарсцень» перастаў выходзіць.

Грошы на газету выдавец «Бацькаўшчыны» Уладзімір Бортнік атрымліваў ад Барыса Рагулі і ніколі не цікавіўся, адкуль яны бяруцца — як адзначаецца, у яго былі толькі падазрэнні, што дапамога паходзіць з Ватыкана. Паступова, па меры эміграцыі актыўных беларусаў у ЗША, з'явілася меркаванне, што дапамогу варта перанакіраваць ад «Бацькаўшчыны» газеце «Беларус», якая выходзіла ад 1950 года ў Нью-Ёрку.

Бэнээраўскія выданні былі прызваныя не толькі гуртаваць беларусаў на выгнанні — іх меркавалася распаўсюджваць і за жалезнай заслонай — нездарма нумары «Бацькаўшчыны» мелі пры сабе падрыхтаваныя ЦРУ беларускія дэсантнікі.

### «Люблю наш край, старонку гэту»

Эміграцыя хацела дагрукацца да суайчыннікаў на Бацькаўшчыне не толькі і не столькі праз друк. Яшчэ ў 1950 годзе прэзідэнт Рады БНР Мікола Абрамчык узды маў перад амерыканцамі пытанне радыёвяшчання па-беларуску. Акурат тады былі створаныя ўкраінская і балтыйскія секцыі радыё «Голас Амерыкі». Абрамчык зазначаў, што колькасць насельніцтва Беларусі перавышае насельніцтва ўсіх краінаў Балтыі разам узятых, а беларуская мова менш падобная да расійскай, чым украінская, і абураўся ігнараваннем беларусаў. У 1958 годзе Абрамчык нават склаў для амерыканцаў спіс кандыдатаў да працы ў беларускай секцыі «Голаса Амерыкі». Узначаліць беларускую службу радыё маглі, на яго ную думку, Леў Акіншэвіч, Антон Адамовіч, Гіпаліт Паланевіч, Віталь Кажан альбо Наталля Арсеннева.

У 1959 годзе Рада БНР дамаглася пачатку беларускамоўных перадачаў на мадрыдскім радыё.

# Агонь нас любіць

Працяг са старонкі 21.

— Хадзем да машыны, паспім з гадзінку, — Несцяровіч падышоў ззаду, каб прыабняць дрыготкую дзяўчыну. — Ты ж таксама ноч не спала. А ўжо сёмая ранку.

— Хадзем.

Старэнькая «Аўдзі» аднаго з «вартаўнікоў» некропаля стаяла метраў за дзвесце ад лагера. Мікраранён патроху прачынаўся, вусатыя мужчыны сярэдніх год у дутых турэцкіх куртках з «Фэстам» у зубах спяшаліся на прадпрыемствы, сюдтуд, нібыта з-пад зямлі, з'яўляліся нетаропкія дворнікі ў памаранчавых робах, па дарозе, якая вяла да «Экспабела», усё часцей праносіліся таксі, легкавушкі ды маршруткі з сelection сони вымі менчукамі.

— Ты напішаш калі-небудзь апавяданне пра мяне? — як заўжды, нібы гуляючыся, спытала Наста.

— Напішу. Але калі ўсё ўжо дакладна скончыцца.

— М-м-м... Тады не спяшайся.

— А я і не спяшаюся.

— Як назавеш?

— Не ведаю пакуль. Яшчэ ж не скончылася.

— Ну-у-у... Скажы.

— Напрыклад, «Наста і мінатаўр».

— Прыгожа. А мінатаўр, страшная драпежная пачвара, гэта ты? — Наста рассмяялася.

— Не, ты.

— Тады мне не падабаецца такая назва.

— Уф-ф-ф... Ну, хай будзе «Агонь нас любіць». Любіць жа?

— Дакладна, — задаволенае дзяўчо ляпнула дзвярыма аўто.

Несцяровіч зняў шапку і цяжкавата ўздыхнуў. Яшчэ адна ноч ззаду, а хутка ўсё наогул скончыцца, лагер давядзецца разбіраць, старэнькую канапу, якую прывалаклі да бочкі — цягнуць на сметніцу за кутом будоўлі, а пракопчаныя камуфляжныя шмоткі здаваць у хімчыстку. Іхная частка працы завершаная, далей хай разбіраюцца гісторыкі ды эксперты, напалеоны папяровых войнаў і рыцары круглых сталоў.

Дзіўна, але адчуванне перамогі было вельмі хісткім ды межавала з прадчуваннем унутранай пусткі, якое непазбежна накрые, загоніць у танны бар на Кедышкі, прымусіць паліць ля ўвахода ўлюбёны «восьмы кент», не адчуваючы холаду ды ветру. Дакладна, так будзе. Ён ведаў. А пакуль...

Пакуль што Наста зусім не была настроеная на сон у сяброўскай «Аўдзі», бо, ад пачатку паклаўшы галаву на калені Несцяровічу, ужо абводзіла пальцамі плямы нямецкага камуфляжу на яго ных штанах, падымаючыся бліжэй да спражкі папругі. Калі парай рухаў яна вызваліла скураны цвёрды язык рэменя з металічнага замка і павольна расшпіліла маланку, Несцяровіч закінуў галаву на сядушку і заплюшчыў вочы. Перад яго ным унутраным зрокам кружлялі ў шалёным віры мільёны сняжынак у партале, які ўтвараў выхад з тунэля пад МКАДам.

***

Пасля халоднай зімы надышла не менш халодная вясна. Будоўля ў Курапатах была канчаткова спыненая, а ў расстрэльным лесе дзяржава збіралася будаваць капліцу памяці, нечакана ўзгадаўшы пра трагедыю 80-гадовай даўніны. Пры гэтым шмат хто з абаронцаў некропаля апынуўся за кратамі, у тым ліку Сурковіч і Альшэўскі, такім чынам заплаціўшы цану за павязку, знятую з вачэй дзяржчыноўнікаў. Дзіўныя шляхі твае, Госпадзе...

Некалькі разоў яны яшчэ бачыліся ў кавярнях прамерзлага горада, якія ніяк не хацела адпускаць зіма, сварыліся, а пасля туліліся адно да аднаго, нібыта спрабуючы ўратаваць і сагрэць вугельчыкі з перавернутай нападнікамі бочкі.

Апошняя іх сустрэча адбылася, калі ў горад з шырокімі праспектамі і велічнымі брамамі, які адным сваім выглядам, здавалася, душыў любы пратэст, робячы натоўп жменькай, а асобнага чалавека — самотным мурашом, нарэшце завітала сонца. Сонца, аднак, аказалася жорсткае і грэла для кагосьці іншага, не для іх. Пасля яе пытання: «Чаму пасадзілі іх, а не цябе?» — Несцяровіч выйшаў з кавярні папаліць і ўжо не вярнуўся.

Праз тыдзень з яго нага тэлефона да Насці ўсё ж такі прыйшла кароткая смс з лаканічным: «Сустрэнемся?». Яе адказ аказаўся больш разгорнуты: «Я ў самалёце. Прапанавалі работу ў Празе. Прыедзеш?» Прачытаўшы некалькі разоў чатыры радкі, напісаныя па-беларуску, але рускімі літарамі, відаць, каб не пераключаць клавіятуру, Несцяровіч адклаў убок свой старэнькі «Самсунг», забыўшыся нават падзякаваць афіцыянтцы, якая акурат прынесла «амерыкана» і 50 грам «Дзікай качкі». На століку, побач з пачкам цыгарэт і чырвонай запальнічкай «Крыкет», у промнях ультрафіялету, зіхацела невялічкая, памерам з манетку, срэбраная далонь з абыякавым вокам пасярэдзіне.

Мікола Абрамчык настойліва пераконваў афіцэраў ЦРУ аказаць фінансавую дапамогу ў гэтай справе, бо якасць сігналу з Мадрыда ў БССР была значна лепшай, чым у радыё «Вызваленне», але кіраўніцтва адмовіла. Абрамчык жа ўпарта лічыў, што беларускія перадачы з Мадрыда больш эфектыўныя для беларусаў, бо канцэнтруюцца на «нацыяналістычных памкненнях», у той час як вяшчанне «Вызваленне» кантралявалася Камітэтам вызвалення народаў Расіі і, на ягоны погляд, усё часцей ухілялася ад пытання самавызначэння, каб не пакрыўдзіць расійцаў.

Звязаны з ЦРУ быў і ўжо згаданы вышэй Пётра Сыч (крыптанім CAMBISTA 5). Колішні вязень савецкіх лагераў, жаўнер Арміі Андэрса і ўдзельнік штурму Монтэ-Касіна, на эміграцыі ён быў заангажаваны і ў вярбоўку дэсантнікаў, і ў выданне «Бацькаўшчыны» ды часопіса «Шарсцень», і ў працу радыё «Вызваленне». Як вынікае з дакументаў ЦРУ, увесну 1954 года меркавалася распачаць падрыхтоўку Пётры Сыча для контрразведвальнай дзейнасці ў асяродку беларускай эміграцыі — фактычна ён мусіў замясціць Барыса Рагулю, які акурат у той час быў адхілены ад працы ў якасці кантактнай асобы між Радай БНР і ЦРУ. Але, як мы ведаем, у рэальнасці Пётра Сыч засярodзіўся на працы ў беларускай секцыі радыё «Вызваленне», якое акурат тады пачынала сваё вяшчанне на Беларусь, на чале з Вінцэнтам Жук-Грышкевічам, таксама былым «андэрсаўцам», якога Пётра Сыч ведаў яшчэ з 1939 года. Праца гэтая мусіла быць часовай, але расцягнулася на дзесяцігоддзе — болей беларусаў за жалезную заслону не закідвалі. Жыццё Пётры Сыча абарвалася ў 1964 годзе даволі таямніча — ён раптоўна памёр у шпіталі ад уколу, зробленага медсястрой.

## Пазіраючы на ўсход

Эмігрантам рэдка даводзілася сустракаць у Вольным свеце «савецкіх» беларусаў, але здараліся і такія нагоды. У 1959 годзе ў Вене адбыўся Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў — свята моладзевых арганізацый левага кірунку ўпершыню прайшло ў капіталістычнай краіне. Як сведчаць справаздачы ЦРУ, акурат да гэтай падзеі была прымеркаваная кампанія ў беларускай эміграцыйнай прэсе, скіраваная на прыцягненне моладзевай аўдыторыі ў СССР: «праблема стыляг і рок-н-ролышчыкаў можа і мусіць выкарыстоўвацца». Таксама ў Вену кіраваліся маладыя палітычна загартаваныя беларусы. Задачу для іх ЦРУ бачыла ў дыскусіях з савецкай моладдзю, «з мэтай пасеяць зерне сумневу». Савецкім гасцям раілі дарыць на памяць не толькі кнігі і часопісы, але і рокавыя ды джазавыя кружэлкі, а таксама магнітафоны, гальштукі, хусткі, запінкі і г.д.



Пётра Сыч.



Антон Сокал-Кутылоўскі, кадр з фільма «Людзі з чорнымі душамі», 1962.

Тым часам улетку 1959 года ў газеце «За вяртанне на радзіму» з'явіўся адкрыты ліст Антона Сокал-Кутылоўскага. Перадусім вядомы як камандзір Слуцкай брыгады ў 1920 годзе, гэты чалавек меў цікавы лёс. У міжваенны час ён зрабіўся праваслаўным святаром, але ў верасні 1939-га, перад надыходам савецкіх войскаў, сказаў парафіянам, што «ашукваў іх веррай у Бога». Быў арыштаваны 19 чэрвеня 1941 года, але неўзабаве ўцёк з турмы. Падчас нацысцкай акупацыі зрабіўся інспектарам школ і кіраўніком Самапомачы Ганцавіцкага раёна. Пасля адступлення з Беларусі апынуўся на пасадзе камандзіра 1-га батальёна беларускай брыгады войск СС, з якой здаўся ў палон амерыканцам, і ў красавіку 1945 года быў арыштаваны савецкай контрразведкай. Яго асудзілі на 25 гадоў лагераў і амніставалі ў 1957 годзе.

У сваім лісце Сокал-Кутылоўскі называў сябе прыкладам таго, як чалавек, які здзейсніў «злачынствы» супраць савецкай улады, можа быць рэабілітаваны і жыць у Савецкім Саюзе. Ён звяртаўся да беларусаў за мяжой з заклікам вярнуцца, адзначаючы, што бессэнсоўна змагацца супраць Савецкага Саюза, у якога «дастаткова зброі, каб паставіць увесь свет на калені». Пазней, у 1962 годзе, гутарка з Сокал-Кутылоўскім з'явілася і ў прапагандысцкім фільме «Людзі з чорнымі душамі», дзе ён заявіў, што ніякага Слуцкага паўстання не было, а дзеячаў эміграцыі назваў «купкай кар'ерыстаў... якія падтрымлівалі нямецкіх нацыстаў».

## Няспраўджаная сенсацыя

У чэрвені 1956 года з Рэйк'явіка на адрас Згуртавання беларусаў у Аргенціне (ЗБА) прыйшоў ліст за подпісам Васіля Лысагорскага. Аўтар, які жыў у БССР і, відавочна, хаваўся за псеўданімам, прасіў перадаць вестку журналісту і літаратару Антону Адамовічу. Ліст у выніку быў высланы ў Еўропу Радзе БНР і дайшоў да адрасата, а таксама, праз старшыню ЗБА Кастуся Мерляка, трапіў у ЦРУ. Васіль Лысагорскі, звяртаючыся да Адамовіча, нагадваў, што разам з ім вучыўся ў менскім Белпедтэхнікуме, дзе быў вядомы пад мянушкай Аўстрыяк. Ён выказваў задавальненне, што Адамовіч працягвае займацца справай, якую некалі ім даводзілася рабіць разам — ішлося пра існаванне ў вольным свеце газеты «Бацькаўшчына». Аўтар ліста згадваў таксама імёны Станіслава і Янкі Станкевічаў, Яўхіма Кіпеля, Уладзіміра Дудзіцкага, Францішка Кушаля і іншых, пісаў пра вяртанне з лагера Уладзіміра Дубоўкі ды са скрухай адзначаў: «У нашых публікацыях пра цябе не згадваюць, нібыта цябе не існуе». Адамовіч прызнаў, што, імаверна, аўтарам насамрэч быў ягоны калега, захоплены Саветамі ў Менску ўлетку 1944-га, але ЦРУ разглядала ліст як правакацыю савецкіх спецслужбаў.

У маі 1958 года Мікола Абрамчык у размове з супрацоўнікам ЦРУ, адказваючы на пытанне аб магчымасці эксфільтрацыі людзей з БССР, выказаў меркаванне, што пажадана было б пераправіць на Захад паэтаў Максіма Танка альбо Язэпа Пушчу. Як адзначаў Абрамчык, Максіма Танка «савецкая ўлада і народ Беларусі прыроўніваюць да Шылера і Гётэ», таму ягоныя ўцёкі на Захад былі б сенсацыяй стагоддзя.

## Прывіды вайны

Мікола Абрамчык увесну 1958 года таксама звяртаў увагу цэрэушнікаў на візіт у ЗША архімандрыта Уладзіміра Фінькоўскага (не надта абазнаны ў беларускай мове і царкоўнай іерархіі амерыканец занатаваў у справаздачы: «Архімеда Васіля Фінькоўскага»). Гэты авантурыст у свой час спрабаваў пры дапамозе СД усталяваць кантроль над царкоўным жыццём у акупаваным нацыстамі Менску, разам з псіхіятаркай Надзеяй Абрамавай стаяў на чале правобраза Саюза беларускай моладзі, быў абвінавачаны ў крадзяжы царкоўнай маёмасці і высланы ў Варшаву. Абрамчык прыводзіў прыклады распуснасці Фінькоўскага і меркаваў, што той прыехаў у ЗША не з мэтай збору сродкаў, як было дэкларавана, а наадварот — каб падкупіць мясцовых эмігрантаў на карысць Саветаў.

Яшчэ ў 1951 годзе ў штаце Дэлавер, ЗША, узнікла няўрадавая арганізацыя — Амерыканскі камітэт вызвалення народаў Расіі. Акурат ягоным органам было заснаванае ў 1953 годзе радыё «Вызваленне». Пад эгідай камітэта таксама дзейнічаў Інстытут вывучэння СССР (крыптанім BGCALLUS). Усе гэтыя інстытуцыі былі складнікамі праекта ЦРУ пад крыптанімам QKACTIVE. На чале беларускай рады Інстытута вывучэння СССР стаяў Станіслаў Станкевіч, таксама з вядомых беларускіх дзеячаў супрацоўнічала тут былая кіраўнічка дзяўчат Саюза беларускай моладзі, вышэй згаданая Надзея Тэадаровіч-Абрамава.

У акупаваным Менску Абрамава ў тым ліку апекавалася дзіцячымі прытулкамі, дапамагала ратаваць яўрэйскіх дзяцей. Адну з такіх дзяўчат яна ўдачарыла і вывезла з сабой на Захад. Але ў 1959 годзе прыёмная дачка раптам знікла, а праз пэўны час была знойдзеная мёртвай у рацэ Ізар ля Мюнхена — таксама, як за пяць гадоў перад тым было адшукана цела супрацоўніка радыё «Вызваленне» і няспраўджанага дэсантніка ЦРУ Лявона Карася. Заходнегерманская паліцыя ў абодвух выпадках усталяваць абставіны смерці не здолела. Эміграны былі схільныя бачыць у гібелі маладых людзей руку Масквы...

Беларусы аказваліся вольнымі і нявольнымі ахвярамі ў вялікім змаганні.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

2 ліпеня ў Мінску прайшоў Парад вышыванак. На фота: выступае намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Максім Рыжанкоў, за ім стаяць міністр культуры Барыс Святлоў (злева) і кіраўнік БРСМ Андрэй Белякоў (першы справа).

2 ліпеня мінскае «Дынама» выйшла на поле ў вышымайках з нацыянальным арнаментам.



Сям'я лясных тхароў загрызла каля сотні курэй і качак на адным з дачных участкаў пад Мазыром.

## Анекдоты і жарты

— Чуў, што на рэпетыцыі парада здарылася?
— Так. Зусім улады нашы ашалелі: панаставілі слупоў — танку няма дзе праехаць!

* * *

— Скажыце, а гэтая спадніца дакладна ад «Ґучы»?
— Ну вядома! Ды вы станавіцеся вось на кардонку, прымярайце, а я пакуль шторку патрымаю...

* * *

Сталін разглядае карту Еўропы, дастае люльку з рота і звяртаецца да Берыі.
— Лаўрэнцій, колькі дывізій у папы рымскага?
— У Ватыкана няма арміі, Іосіф Вісарыёнавіч.
— А ты спытайся ў таварыша Алексіевіч. Яна мае цікавыя ідэі наконт каталікоў.

* * *

— Антось, шо ты робіш?
— Спрабую дастаць да зорак!
— Але ты спрабуеш дастаць да паліцы з каньяком.
— Ну, я так і кажу...

## «НН» 111 гадоў з вамі

**У Фінляндыі** ідзе суд над Топалевым, членам «саюза рускага народа». Вінаваццю яго ў тым, што гэта ён забіў былшага дэпутата першай Думы Герцэнштэйна, каторы наймацней дамагаўся ў Думе зямлі для мужыкоў. Незалежны фінляндскі суд, калі прызнае Топалева вінаватым, то напэўне як трэба пакарае гэтага бясстыднага слугу чарнасоценцаў.

**«НН», 6 ліпеня 1907 года**

**На сайце КДБ Беларусі** з'явіўся аналітычны артыкул, вылучаны ў асобны раздзел, з грознай назвай «КДБ папярэджвае».

Органы дзяржаўнай бяспекі ўсё часцей сутыкаюцца з фактамі, калі прадстаўнікі замежных фірмаў спрабуюць выкарыстоўваць падрыўныя метады... Такія структуры створаны, напрыклад, у некаторых замежных нафтавых фірмах, авіякампаніях.

Варта заўважыць, што з замежных нафтавых фірмаў у Беларусі прадстаўленыя толькі расейскія. Выходзіць, што дзейнасць КДБ Беларусі сёння ўжо скіраваная ў тым ліку на процідзеянне ўплыву расейскіх карпарацый на працэсы ў Беларусі.

За ў многім савецкай, шпіёнаманскай стылістыкай артыкула прасочваюцца новыя разуменні нацыянальных інтарэсаў Беларусі.

**«НН», 5 ліпеня 2007**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
в. а. галоўнага рэдактара Ягор Аляксандравіч Марціновіч
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Андрэй Скурко, Зміцер Панкавец
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 327-42-13, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 5001. Газета выдаецца 12 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 04.07.2017.
Замова №2588.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
9 771819 161008 17007